№9 (130) 17 ТРАЎНЯ 1999 Г.

НН

НАША НІВА

Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

HTTP://MEMBERS.XOOM.COM/NASA_NIVA

ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

*Так лёгка навучыцца ўладу браць.*
*Так цяжка проста жыць і паміраць —*
*ні веры не мяняючы, ні краю.*

*Так лёгка веру мець — каго далоў.*
*Так цяжка зразумець, каго ізноў*
*паставіць — каб ня мець такую ж зграю.*

*Так лёгка жыць сумленна аднаму.*
*Так цяжка выбіраць за лёс турму —*
*з нагоды разыходжаньня зь сябрамі.*

*Так лёгка зь пераможцам сябраваць.*
*Так цяжка потым вочы адкрываць*
*натоўпу за сьляпымі змагарамі.*

*Алесь Чобат*

# ФРОНТ І ВЫБАРЫ

***Выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі паказалі, што ў краіне фармуецца новая палітычная воля і што яна імкліва беларусізуецца, гаворыць па-беларуску (Ганчар гаворыць па-беларуску чысьцей за Пазьняка, нават Бегданкевіч загаварыў!) і гаворыць найперш пра нацыянальныя інтарэсы. Яшчэ крыху, і для паспалітага патрыёта ня стане ніякай вонкавай розьніцы паміж Чыгірам і ўчорашнім манапалістам патрыятызму БНФ. Розьніца выявіцца ў іншым — у здольнасьці да рэальнае палітыкі і наяўнасьці згаданай вышэй палітычнай волі. Праўда, нельга не згадаць і ажыўленьне Фронту, які стаіць на парозе радыкальных унутраных зьменаў.***

***Закіды пра маскоўскую інсьпірацыю Чыгіра на гэтых выбарах выглядаюць непраўдзіва. Інакш пэўная частка расейскіх СМІ крычала б пра выбары ў кожным інфармацыйным выпуску. Аднак на момант падпісаньня гэтага нумару «НН» у друк, увечары 16 траўня — ані слова, ні ў тэлевізіі, ні ў радыё, ні ў газэтах, ні ў левых, ні ў правых.***

***Другое пытаньне — пра фальсыфікацыю ліку сабраных галасоў, маўляў, яны нерэальныя. Варта ўявіць сабе, што 10 тысячаў зборшчыкаў па ўсёй краіне на працягу 10 дзён ходзяць па кватэрах. Ім трэба сабраць кожнаму па 350–400 галасоў, г.зн. усяго па 35–40 у дзень. Хто калі-небудзь рабіў такія абходы, зразумее, чаму яны зьбіралі болей. А тое, што хадзілі, — пра гэта сьведчаць рэпрэсіі — затрыманьні, штрафы і г.д. зноў жа — па ўсёй краіне.***

***Аднак, вернемся да палітыкаў. Фронт апынуўся ў цэнтры ўвагі незалежных СМІ. Не Пазьняк, як было ў папярэднія гады, а БНФ, думка якога на гэтых выбарах разыйшлася з думкаю старшыні. Пазьняк зьняў сваю кандыдатуру і даў загад фронтаўцам у выбарах ня ўдзельнічаць. Іншыя лідэры Фронту і Сойм не ўхвалілі гэткага кроку. Выглядае, што калі БНФ у выніку расколецца, дык гэта будзе няроўны раскол, дакладней, адкол той часткі функцыянэраў, якія застаюцца ў думках згодныя з учынкам Пазьняка. Так ці йнакш, а Фронту ў Беларусі відавочна замінае тое, што ягоная палітычная суб'ектнасьць ня першы год знаходзіцца «ў эміграцыі».***

***Што лідэры Фронту самі гавораць пра рашэньне Пазьняка выйсьці з выбараў і вывесьці зь іх БНФ?***

**Вінцук Вячорка, намесьнік старшыні БНФ:**

— Лічу, што гэта безадказнае стаўленьне да сяброў Фронту, якія ахвяравалі сваёй свабодай, патрапіўшы за краты, сваімі месцамі працы, зь якіх яны былі звольненыя. І безадказнае стаўленьне да людзей, якія паверылі ў гэтыя выбары, у іхную ідэю. Існавала мноства іншых магчымасьцяў адстаяць сваю праўду, свой імідж у канкурэнцыі з іміджамі Ганчара ды Чыгіра.

*— Што, на Вашую думку, стане галоўным вынікам гэтага кроку й гэткага стаўленьня?*

— Нанесены вялікі псыхалягічны ўдар па нацыянальна сьвядомай частцы нашага грамадзтва, з наступстваў якога, магчыма, давядзецца выбірацца пэўны час. Насуперак рашэньню Сойму Народнага Фронту, Зянон Пазьняк арганізаваў абзвон сяброў выбарчых камісіяў. Большасьць сяброў гэтых камісіяў — менавіта сябры Фронту. Калі трэба было выкрываць нейкія парушэньні з боку Чыгіра ды Ганчара, гэта ж можна было рабіць пры дапамозе сяброў выбарчых камісіяў, а не правакаваць сытуацыю, калі прэзыдэнцкае тэлебачаньне гаворыць вуснамі Сяргея Папкова...




*— Дарэчы, а чаму менавіта вуснамі Папкова? Разам са спадаром Крываротам гэты чалавек нечакана для многіх назіральнікаў узьляцеў у фронтаўскія «вярхі» ў другой палове мінулага году. Што за кадры кіруюць сёньня самай аўтарытэтнай партыяй, калі яна фактычна йдзе да расколу?*

— Гэта людзі, якія рэалізуюць на практыцы прынцыпы «вэртыкальнага» кіраўніцтва ды тэлефоннага права...

**Юры Хадыка, намесьнік старшыні БНФ:**

*— Спадар Юрась, як Вы ацэньваеце апошнюю заяву Зянона Пазьняка наконт зьняцьця сваёй кандыдатуры?*

— Ён мае права гэта зрабіць, згодна з заканадаўствам. Іншая справа — адкліканьне людзей з выбарчых камісіяў, бо гэта ёсьць парушэньнем Статуту Фронту. У сапраўды дэмакратычнай арганізацыі ня можа ўсё вырашаць адзін чалавек.

*— Ці можна сур'ёзна гаварыць, што намеціўся раскол у Фронце?*

— Расколу — няма. Існуюць разыходжаньні ў меркаваньнях і ацэнках...

*Працяг на старонцы 2.*

# ЗАБЫТАЯ ВАЙНА

*Бітва ў Панарскіх гарах*

Наша забытая, дакладней, невядомая, недасьледаваная гісторыя раз-пораз падносіць нам сюрпрызы. Першы зьвязаны з радасьцю адкрыцьця ўнікальных фактаў і зьяваў, другі — з расчараваньнем ад таго, што тыя факты і зьявы нікому непатрэбныя. Падобныя пачуцьці мне давялося зноў перажыць надоечы на ўскрайку Вільні, у Панарскіх гарах. Тут, на невялічкіх каталіцкіх могілках у 91-м годзе мы пахавалі віленскую пісьменьніцу-мэмуарыстку Зоську Верас, а сёньня вырашылі разам са шваграм па дарозе адведаць яе магілку. Пакуль швагра разглядаў надпісы на помніках самых розных часоў, маю ўвагу прыцягнуў немалы гранітны куб, перагорнуты дагары нагамі. Надпісы давялося чытаць, нахіліўшы галаву. Помнік належаў штабс-капітану і ад'ютанту рэзэрвовага корпусу войскаў Ягору Васілевічу Сьвечыну. Абставіны ягонае гібелі ўразілі настолькі моцна, што я паклікаў швагру і мы прачыталі разам. «Убит у подошвы сей горы в сражении 7 июня 1831 года, где русския войска разбили мятежников, понеся потерю в 364 человека». На фоне бязьлюдных, вясковых з выгляду могілак, разьмешчаных на высокай, густазарослай гары, інфармацыя пра пабоішча зь неверагоднымі чалавечымі стратамі выглядала дзьвярыма ў прадоньне гістарычнага часу, у космас мінуўшчыны. «А што гэта было за паўстаньне?» — спытаўся швагра. Я пачаў распавядаць, адчуваючы, наколькі мне бракуе фактаў і як няпроста ўвязаць іх ва ўцямную карціну. Пасьля кожнага слова можна было ставіць пытальнік. Стала зразумела, што вырашальнае ў нашым нацыянальным лёсе антырасейскае паўстаньне 1831 году, у адрозьненьне ад паўстаньня Касьцюшкі або Каліноўскага, ніякім чынам не ўпісанае ў беларускі культурны кантэкст XX стагодзьдзя. Такія высновы звычайна робяцца балюча, калі ўявіш сабе сотні і тысячы жыцьцяў, пакладзеных тады дзеля будучыні. Асабліва калі зусім выпадкова трапляеш да помніка, на якім стаіць лічба 364. 364 акупанты. Колькі палегла паўстанцаў, ніхто ўжо не даведаецца ніколі.

*Працяг на старонцы 6.*




# МЕЖЫ БЕЛАРУСІ

***Тэма нумару***

**Колькі ў Беларусі суседзяў? Якую працягласьць мае мяжа з кожнай краінай-суседкай? Ці трэба гэта ведаць? Грамадзтва, якое зусім нядаўна атрымала незалежнасьць і яшчэ не разабралася, быць яму самастойным ці ня быць, якое ўвесь час чуе то пра дэмаркацыю з дэлімітацыяй, то пра знос памежных слупоў, якое сутыкаецца зь візавымі й мытнымі рэжымамі, — ці мусіць яно пачаць мысьліць у катэгорыях аб'ёму свае краіны і той геапалітычнай сытуацыі, у якой краіна апынулася? Нарэшце, Беларусь зьбіраецца ўступіць у саюз зь Югаславіяй — ці значыць гэта, што нашыя дзяржавы маюць агульную мяжу? Магчыма, такія пытаньні ўваходзяць у адукацыйны мінімум дзіцячага садка. Тым ня менш, сёньня мы задалі іх дарослым. Адказы, за рэдкім выняткам, былі няслушныя, і што зусім дзіўна — аказалася, на некаторыя пытаньні адказаў увогуле не існуе.**

*Працяг на старонцы 8.*

# «ПЛАВІЛЬШЧЫКІ РАСЫ»



Кніга называецца «Плавільшчыкі раСЫ» — або рАсы — тут сьведамае двоечытаньне. Гэта шосты паэтычны зборнік Адамовіча. І калі казаць пра папярэднія, дык яны, выходзячы адзін за адным на працягу дзесяці гадоў, пазначылі кожны сваю эпоху, бо эпохі за гэты час мяняліся імкліва.
Першая, яшчэ савецкая кніжка называлася «Кальварыйскія клёны». Гэта 90-ы год. Час, калі прадукцыя самвыдавецтваў пачынала патроху легалізавацца, і са зьместу не заўсёды можна было адрозьніць цэнзураваную кнігу ад нелегальнай. Наступныя — «Зямля Ханаан» і «Зваротныя правакацыі» выйшлі адпаведна ў 93-м і 94-м у Полацку, пазначыўшы тагачасны кароткі рэнэсанс беларускіх рэгіёнаў. На сталіцы ставіўся крыж, затое падымаліся колішнія спракавечныя культурныя гнёзды. Кніжка «Каханьне пад акупацыяй» друкавалася ў 96-м у Польшчы, але на той час таксама было тыпова для альтэрнатыўнай беларускай культуры. Чытаў аўтар свой зборнік ужо ў турме. «Сьпіраль Бруна», якая ўключыла турэмныя вершы, друкавалася зноў у Менску, у 98-м. І вось нарэшце «Плавільшчыкі расы» — кніга, якая выходзіць у Вільні, аб'ядноўвае ўсё лепшае з папярэдніх, як быццам зьбірае сьляды паэта, раскіданыя ў часе і прасторы.

... Пасьля таго, як кудысьці падзяваўся эксцэнтрычны Анатоль Сыс, менавіта Адамовіч стаў той постацяй, чый лёс і чые паводзіны ўспрымаюцца як працяг вершаваных фікцыяў. Дастаткова згадаць створаны ім палітычны пэрфоманс — арганізацыю «Правы рэванш», 10-месяцовае зьняволеньне ў турме за верш «Убей президента» альбо спробу публічна зашыць сабе рот.

*Працяг на старонцы 12.*

# Крокі Правае Беларусі

У адным зь нядаўніх нумароў «Нашае Нівы» была гаворка пра экстрэмісцкія тэндэнцыі ў Беларусі. Усё згадалі: і баркашоўцаў з «Краснымі Звёздамі», і эўрапейскіх «новых правых», і расісцкі белы рок... Але надта куртата прамільгацела што пра правы радыкалізм нацыянальнага кірунку. А дарма. Апошнім часам можна назіраць новую сьпіраль беларускае ультраправае актыўнасьці.

Гэты новы віток у значнай ступені можа адлюстроўваць нядаўна паўсталая газэта «Слова Нацыі». Яна падаецца ці не наяскравейшым наступным этапам у прапагандзе беларускасьці. Дый наогул для Беларускага Шляху гэта нябачаная раней зьява. А ўсё ў тым, што аблічча выданьня дарэшты пазбаўленае лібэральнага «макіяжу». Магчыма, гэта першыя спробы выкрышталізаваць форму скрайняга беларускага нацыяналізму — не размытага БНФаўскага, а менавіта скрайняга. З усёй адпаведнай сымболікай і атрыбутыкай — ад свастыкападобнага трохканцовага «зьмеявіка» й да досыць неадназначных пэрлінаў кшталту «наш ідэал — абсалютны нацыянальны маналіт, якога магчыма дасягнуць адно пільнуючыся прынцыпу Крыві». Агулам усё дужа рамантычнае і ўзьнёслае, шмат з чым можна спрачацца, але сам факт зьяўленьня ўсяго гэтага пра многае гаворыць. Пра што?

Упершыню позірк зьвернуты ў бок радыкалізаванае моладзі — ня толькі й ня столькі голеных скінаў, але перадусім тых маладых людзей, якія, расчараваўшыся ў рахманай лініі апазыцыі, на сёньняшні момант значна адстароніліся ад барацьбы за Беларусь.

Праварадыкальныя тэндэнцыі характэрныя цяпер для ўсёй Эўропы. Тамака йдзе супрацьстаяньне скрайне левых ды скрайне правых. Прычым ня толькі ідэйнае ці слоўнае, але фізычнае. Нешта падобнае, толькі пакуль у бяскрыўдных формах, пачынае адбывацца і ў нас. У сёлетнім «Чарнобыльскім шляху», як вядома, бралі ўдзел прадстаўнікі маскоўскага Антыфашысцкага дзеяньня моладзі, ідэалягічныя паплечнікі тутэйшых анархістаў. Апошнія й «падбілі» чальцоў з АДМ на сымбалічную акцыю супраць ультраправых — супраць ужо згаданае газэты «Слова Нацыі». Яны атачылі вельмі шчыльным колам самотнага распаўсюдніка «Слова нацыі» й паспрабавалі здаць як фашыстоўца міліцыі — але той неяк уцёк. Трыццаць на аднаго — ці сумленна? Аднак падзея застаецца падзеяй. Неўзабаве анархіст Пульша ў «Беларускай маладзёжнай» патасна пісаў пра ўзьнікненьне «Слова Нацыі»: «З нацыстамі павінна быць адна размова ў кожнага сумленнага чалавека — кулаком альбо манціроўкай!» З масакамі з РНЕ — сто разоў так! Зь беларускімі правымі нацыяналістамі — пытаньне...

У любым разе нішу з краю правага флянгу спрабуюць заняць. БНФ можа з чыстай душой заяўляць: «Гэта мы фашысты?! Ды вы вунь гляньце туды!..»

**Амелька Злыдзень**

# Відэа: цяпер па-беларуску

Майму малому сёлета споўнілася чатыры гады і ад тэлевізару, калі там ідуць мультфільмы, яго проста не адцягнуць. У нашым доме зьявіўся відэамагнітафон, і большая частка відэатэкі – гэта касэты з запісамі лепшых анімацыйных стужак. Упадабалыя мультыкі малы можа праглядаць мільёны разоў.

Нядаўна ад сваёй знаёмай я пачула, што на відэа зьявіўся мультыплікацыйны фільм Уолта Дыснэя, дубляваны па-беларуску. Яна ж дала мне на дзень касэту. Каб даведацца падрабязнасьці, набрала нумар, напісаны на вокладцы да касэты. Мяне запрасілі ў фірму Sotvar, дзе я пазнаёмілася з фундатарам Алесем Гурковым і каардынатарам праекту Валянцінай Лецкай.

Вось што я дазналася пра «беларускае відэа». «Прыгажуня ў сонным лесе» – выдатная экранізацыя клясычнай казкі Шарля Пэро, аздобленая чароўнай музыкай Пятра Чайкоўскага. Для агучваньня роляў па-беларуску запрошаныя акторы Тэатру юнага гледача. Гэта першая праца падобнага кшталту – у наступным месяцы выйдзе кэралаўская «Аліса ў Краіне цудаў». «Пераклад з ангельскай ужо зроблены, – кажа В.Лецка, – і ён проста цудоўны».

«Гэты праект некамэрцыйны, бо ён скіраваны на культурніцкае і моўнае выхаваньне беларускіх дзетак. На жаль, сёньня яны ня маюць магчымасьці атрымліваць адукацыі і выхаваньня ў беларускамоўным асяродзьдзі, – кажа Алесь Гуркоў. – А што тычыцца акупальнасьці, то спадзяюся, што ў нашай краіне знойдзецца сама меней пяцьсот чалавек (менавіта пры такім накладзе пакрываюцца выдаткі), якія захочуць паказаць «Прыгажуню» сваім дзеткам.»

Далейшыя пляны перакладаньня лепшых замежных відэафільмаў на беларускую залежаць выключна ад попыту на такую прадукцыю. Калі гэта спадабаецца людзям, будуць новыя фільмы. А пакуль што праз пару тыдняў выйдзе аўдыёкасэта з запісамі калыханак і казак. На лета ў плянах некалькі забаўляльных праграмаў для дзяцей. Мяркуецца зрабіць гэта ў якім парку ці паехаць за горад. «Нашыя дзеці мусяць часьцей сустракацца і вучыцца гаварыць па-беларуску ды не саромецца гэтага, » – дадае А.Гуркоў.

Касэты з запісам «Прыгажуні» пакуль не распаўсюджваюцца праз гандлёвую сетку, бо сярод навалы «расейскіх» фільмаў наш мульцік будзе цяжка заўважыць. Тыя, хто хоча набыць касэты, павінны даслаць ліст у фірму Sotvar або патэлефанаваць. Адрас такі: Менск, 220131, вул. Шырокая, 56. Тэл. 8 (017) 228-45-88, факс 8 (017) 228-45-87. Таксама можна пералічыць 800 тыс. на р/р 2120000000541 у філіі № 506 ААБ «Беларусбанк» код 809 ЗАТ Sotvar.

**Наста Алехна**

# Лікантрапія fecit

*«Цікава было б прачытаць раман пра Чарнобыль заходняга аўтара. Якую б канцоўку прыдумаў ён?» (С.Паўлоўскі)*

Тое самае зацікавіла й мяне ў размове са сп. Краўзэ, філёзафам і перакладчыкам, які не адзін дзясятак гадоў мужна трывае нашую алягічнасьць — «Program... Var... Begin... End.» — падобная нямецкая сьвядомасьць. Сутнасьць адказу зводзілася да таго, што як не магла такая катастрофа здарыцца ТАМ, так ніколі ТАМ не адбудзецца й яе належнага мастацкага асэнсаваньня.

Бадай, самай хуткай творчай рэакцыяй Захаду на выбух некалькіх Хірасімаў адразу стала намыслова вялая пляма на мапе, прычым Эўропа прапанавала свой «чорны квадрат», Скандынавія — свой. Таму, што да happy — ня ведаю, а пра end тыя «малевічы» думалі напэўна.

Пакуль заходняя літаратура матэрыялізуе катастрофу праз бэры, рэнтгены й кюры, нашая спрабуе ўвогуле яе асэнсаваць як трагедыю: з году ў год старанна штампуе сэмантычна нежыцьцяздольныя пазабіваныя аканіцы ды атручаныя яблыкі (хай даруюць фізыкі лірыкам такую недарэчнасьць). Часам на яе маразматычным фоне праступаюць то ніздольнасьць парушыць геапалітычныя межы РБ (украінскае Палессе, Міцінскія клады — ня наша тэрыторыя), то паталагічная боязь перамешаных з цэляфанам рэштках цэлаў.

Маладая беларуская літаратура імкнецца хутчэй стаць «такой, як у людзей», нярэдка патанаючы ў WWW-габлюшках паверх інтэлектуальнага нанізму. Многія яе сюжэты былі б апраўданыя ў часы «перабудовы», калі з разбурэньнем ідэалягічных цытадэляў рэакцыяй на ранейшае табуяваньне сталіся талерантныя адносіны, часам падтрымка ўсялякага сорту парнаграфіі. Сёньня, каб штосьці вылучыць зь нейкага тэксту, трэба зьвяртацца то да Фройда (калі-нікалі Зэйгарніка), то да паневаў авангарду ці яшчэ нечага, ацаніўшы папярэдне, у якой ступені і ў які бок інвэртаваны гэты аўтар. Зразумела, што ў такой сытуацыі крытэры правільнасьці (слушнасьці) твору задужа дыфузныя, і годна асэнсаваць Чарнобыль у бліжэйшы час памянёная літаратура наўрад ці здольная.

Патрыярхаў апаноўвае настальгія, зрэдчас сум падаецца ў выглядзе ланцужку канфабуляцыяў. Вынікам бесьперапынных галашэньняў па малой радзіме з пэрыядычнымі надрываmі-зваротамі да брату-славянаў стала абсалютная бязьдзейнасьць.

Мімаволі азіраесься на ўсемагутны талент В.Быкава. Але ці хопіць яго на ператварэньне ў прыпавесьць яшчэ адной вайны? «Ваўчыная яма» — твор супярэчлівы: досыць ненатуральна выглядае страх дээзэрціра й бамжа перад нябачным ворагам. Можна было б гаварыць пра адну з дамінуючых рысаў нашага мэнталітэту — блякадную сьвядомасьць (пэрманэнтнае адчуваньне небясьпекі), калі б не адно «але»: небясьпека павінна быць бачнай, на нябачнае так рэагаваць здольны толькі Захад.

А часам прыходзіць у галаву ідэя, якой быццам бы й рады: а што, калі самому ператварыцца ў Чарнобыль і весьці свой уласны дзёньнік?

**Ліда Куратава, Дружны.**

# ПІВА І АПТЫМІЗМ

Калі чалавек не навучыцца трансфармаваць трагічнасьць аб'ектыўнай рэальнасьці ў аптымістычную суб'ектыўнасьць, у нашых умовах ён ня здолее выжыць, пераканаўы мастак Артур Клінаў. Беларусы рабіць гэта ўмеюць. Пасьпелі ўжо навучыцца.

Напраўдзе, аб'ектыўная рэальнасьць наўрад ці можа даць нам якія-кольвечы падставы для аптымізму. Эканоміка вымушае нас эканоміць ужо літаральна на ўсім, у палітыцы – суцэльная стагнацыя, і спадзявацца на лепшае не выпадае. У культуры тое самае. Хутка беларуская кніга будзе лічыцца бэстсэлерам, калі яе наклад перавысіць сто асобнікаў, праграму па гісторыі ў школах такі зьмянілі... І гэты лысы таварыш усё вярзе і вярзе пра нейкую інтэграцыю. Хоць ты трэсьні. І будзе ж вярзьці яшчэ, відаць, не адзін год, нічога тут не паробіш.

Заняпад, адным словам, прычым заняпад суцэльны. І выйсьця ня бачна. Затое ў Менску смачнае піва. І таннае, да таго ж. Ня тое, што ў якойнебудзь Маскве. Беларусы п'юць піва. Яны паглынаюць яго ў такіх колькасьцях, што проста дзіву даешся. А калі піўны хмель стамляе, ідуць «даганяцца» гарэлкай.

Тыя, хто травеньскімі вечарамі тусаваўся на лавах менскіх сквэрыкаў і піў беларускае піва, размаўляючы паміж сабой па-беларуску, вельмі рэдка закранаў у сваіх гутарках тэму прэзыдэнцкіх выбараў 16 траўня. А калі і закранаў, дык з гэткай абыякавасьцю: маўляў, будуць яны, ня бу-



# ФРОНТ І ВЫБАРЫ

*Працяг на старонцы 1*

*— І які прыблізна працэнт сяброў БНФ нязгодны зь ягоным лідэрам?*

— Гэта складанае пытаньне. Я магу гаварыць толькі пра кіраўніцтва: два чалавекі ў ім зь Зянонам Станіслававічам згодныя, чатыры — не. Што тычыцца сакратароў, дык іхныя меркаваньні падзяліліся недзе напалову.

*— Якія наступствы могуць мець гэтыя разыходжаньні, сама пазыцыя сп. Пазьняка?*

— Я спадзяюся, што на галоўным выніку выбарчае кампаніі гэтая сытуацыя ніяк ня скажацца. Але не выключаю наступстваў для самога Беларускага Народнага Фронту. БНФ сёньня, напярэдадні свайго зьезду, апынуўся ў цяжкой сытуацыі. Галоўнае пытаньне бліжэйшага часу (і, відаць, будучага зьезду) — як захаваць адзінства.

*— Ці мае пад сабой рэальную падставу сьцьвярджэньне, што Міхаіл Чыгір — расейскі стаўленік? А калі б было гэтак, дык што лепей: мець такога стаўленіка, як Чыгір, альбо ўцекача Пазьняка, які ніякай альтэрнатывы ні цяперашнім, ні лукашэнкаўскім 2001 году выбарам не прапаноўвае?*

— У Зянона Станіслававіча стаць прэзыдэнтам шанцаў менш, чым у Адамкуса, калі казаць шчыра. Абвінавачаньне ж на адрас Чыгіра ў прарасейскасьці ня ўтрымлівае ніякіх рэальных доказаў і сьведчаньняў.

**Вячаслаў Сіўчык, сакратар управы БНФ**

*— Спадар Сіўчык, на прэс-канфэрэнцыі 15 траўня Вы публічна прынесьлі прабачэньні сям'і Міхаіла Чыгіра. Спадар Хадыка днём раней заклікаў фронтаўцаў з выбарчых камісіяў працягваць сваю працу ў выбарчай кампаніі. Ці не адбудзецца раскол у Фронце, як ва ўкраінскім Народным Руху?*

— Цяпер, акрамя спробаў уратаваць гэтую выбарчую кампанію (а рэальныя мэханізмы гэтага яшчэ засталіся), стаіць пытаньне, якім будзе Фронт пасьля 16 траўня. Прыпыненьне ўдзелу ў выбарчай кампаніі, перш за ўсё, не ўспрынята нашай інтэлігенцыяй, людзьмі, якімі мы заўсёды ганарыліся. І першае, што пагражае Народнаму Фронту — пазбавіцца гэтых людзей, дзякуючы палітыцы, якая навязваецца. Другі момант. Ня ўсе структуры БНФ падтрымалі рашэньні Пазьняка і часткі кіраўніцтва.

Беларускі Народны Фронт павінен пазьбегнуць расколу. За апошнія 2 гады пасьля 5 зьезду БНФ практычна ніводная праведзеная Фронтам масавая кампанія ня мела такога рэзанансу ў беларускім грамадзтве, як гэта было ў 91-м, 94-м, 96-м годзе... І я асабіста гэта зьвязваю з тым, што была парушаная сыстэма кіраваньня БНФ і практычна зьнішчаныя ўсе калектыўныя органы.

Зрабіць выгляд, што ўсё добра пасьля скнчэньня выбарчай кампаніі, я думаю, ня ўдасца. У БНФ дастаткова шмат людзей, якія зарыентаваліся. Пасьля нечарговага Сойму будзе бачна, у якім накірунку пойдзе Фронт.

**Таццяна Сьнітко**

дуць – нам усё адно.

Ня веру. Ня ўсё адно ім. Проста навошта псаваць цёплы вясновы вечар сумнымі роздумамі пра надзею, якой наўрад ці дадзена спраўдзіцца?

У Беларусі пэрманэнтна хтосьці сядзіць. Цяпер гэта Чыгір і Клімаў, раней былі Севярынец і Шыдлоўскі, яшчэ раней – Адамовіч і Шарамет... Усе ведаюць, у чым яны на самой справе «вінаватыя». Усе разумеюць, што заўтра на іхным месцы можа быць кожны. Вось за гэта і чокнемся нашымі пляшкамі «Старажытнага».

Правы чалавека ў краіне парушаюцца ўсё больш жорстка. Беларускіх школаў амаль не засталося, і таму наступнае пакаленьне будзе такім жа страчаным, як і папярэдняе. Ці ня большасьць жыхароў нашае краіны даўно пераступілі мяжу галечы, а астатнія пакуль што не, але вось ужо хутка... У цябе няма адкрывачкі?

Можна доўга казаць, што бязьдзеяньне – гэта таксама пазыцыя, але ня лепшая, што трэба актыўна дзейнічаць, што... Досьвед апошніх гадоў пераканаў усіх нас у адваротным. Дзейнічалі, змагаліся, жылі гэтым. Ну і што з таго, які толк? Толку ня бачна, і таму змагары за ідэю пакідаюць раней часу офісы сваіх партыяў і рэдакцыі газэтаў, каб пасядзець трохі на лаве ў якім сквэрыку з пляшкай піва.

Калі б нацыянальна-сьвядомыя беларусы не былі невыпраўнымі «суб'ектыўнымі» аптымістамі, калі б усе паразы ідэі ўспрымаліся імі як асабістыя паразы, усе яны зрабілі б сабе сьмерць яшчэ ў траўні 1995 году. А так жывыя мы ўсе, прыгожыя і ў меру таўстыя. Бо піва п'ем.

Наагул, піва й беларушчына – тэма для дысэртацыі (і ня трэба тут ніякіх аналёгіяў зь Мюнхенам). Моладзь любіць Беларусь і ня любіць саўдэп, бо яна ўпадабала смачнае піва «Леў» і ў яе няма аніякае настальгіі па паскудным «Жыгулёўскім», якое зазвычай абірае старэйшае пакаленьне. А яшчэ ж ёсьць крышталеўскі вэрмут нішто сабе, брэндзі, бальзам... Асартымэнт алькагольных напояў у менскіх крамах і кошты на іх – галоўная падстава для нашага добрага настрою.

Травеньскі вечар у Менску бясконцы. Шмат зеляніны, шмат прыемнага цёплага сумраку... І здаецца, усё гэта будзе вечным. Ня хочацца думаць пра тое, што калі-небудзь непазьбежна прыйдзе зіма.

**грыльяж**




ЗНАКАМ ТЫМ

# DEMOCRAZY



П'яны дзядзька гадоў сарака пяці з колерам твару, тыповым для мужчынскай часткі беларускага насельніцтва ва ўзросьце пачынаючы ад дваццаці — колерам асфальту, палітага вінцом «Секрэт», -- на прыпынку па вуліцы Кірава пільна ўглядаўся ў парачку — нэрвоватага рухавага хлопца, чые вочы бегалі наўкола, і зваблівую дзеўчыну, чые вочы хацелі злапаць вочы кавалера. Дзядзька заўважыў у бок дзеўчыны: «Я — празарліўца. Усё пра ўсіх магу сказаць, што, каму, калі і як будзе. Ня вер яму, падмане». Жаночая частка прыпынку ажывілася — дзіва што, як кожны зь іх — падманвае. «Дзядзька, — спыталася я, толькі каб хоць крыху сагрэцца, — а што з Лукашэнкам будзе?» Адказам: «Ён будзе доўга». І ўсім стала сумна.

Не дачакаўшыся запаветнай скрыні дома, я патэлефанавала ў Цэнтравыбаркам і рызыкнула, ведаючы, што Ганчар ведае адказы на ўсе пытаньні:

— Віктар Іосіфавіч, а дзе можна «аддацца» майму кандыдату ў прэзыдэнты?

— У гэтай краіне я б вам параіў аддацца толькі справе. Ну ўжо калі так настойліва, дык у камфортных хатніх умовах.

Чакалі ўсёй сям'ёй. Пачуўшы валтузьню на сваім паверсе, выскачыла, каб раптам нашую сьведамую сям'ю не абмінулі. Аказаліся, таксікаманы — дыхалі са скамечанай плястыкавай ёмістасьці «Улыбка» нейкую гадасьць.

А пасьля было рашэньне Зянона Пазьняка зьняць кандыдатуру з галасаваньня на выбарах прэзыдэнта. Акурат у сераду-чацьвер панаехала вельмі шмат замежных журналістаў, экспэртаў, палітыкаў паназіраць за ходаю выбараў. У пятніцу гаварыць зь імі было цяжка. Дзяржаўныя СМІ напоўніцу выкарысталі непаразуменьне паміж Пазьняком і Цэнтравыбаркамам. Усьмешлівыя пасланцы АБСЭ стараліся пазьбегнуць просьбы пракамэнтаваць. Сябры, актывісты выбарчай кампаніі, разводзілі рукамі. Даздобіла сытуацыю прынесеная рэклямная песьня пра тое, што трэба галасаваць за Чыгіра. Па-расейску, з лексычнымі адзінкамі Белая Русь і Белоруссия:

*«Спасёт страну былинный богатырь —*
*Михайло, по фамилии Чигирь.*
*Спасём страну от лживого царя.*
*Отдай свой голос, друг, за Чигиря».*

Узгадалася — працаваць для Беларусі, але не зь беларусамі.

Лукашэнка працягвае ствараць імідж значэннага эўрапейскага палітыка — ініцыятывы па ўрэгуляваньні канфлікту на Балканах, добрая арыентацыя ў расейскіх палітычных працэсах, а таксама клопаты пра дзіцячае харчаваньне і вытворчасьць цуду-камбайна. Антынатаўскі выступ беларускага прэзыдэнта 9-га траўня з экспрэсіўнай крытыкай дзеяньняў Альянсу вельмі кантрастуе з выступам таго ж дня ўкраінскага прэзыдэнта Кучмы, які заклікаў суграмадзянаў быць вельмі асьцярожнымі з эмоцыямі адносна апэрацыі НАТО на Балканах — цяпер вырашаюць ня толькі моцныя збройна, але й эканамічна.

На пачатку траўня ў Парыжы адбылася канфэрэнцыя аб'яднаньня эўрапейскіх арганізацыяў кансэрватыўнай моладзі DEMYC. Там прыйшлося моцна трымаць абарону й даводзіць, што Беларусь — гэта не Лукашэнка. Што рэйтынг такіх, як містэр Л., вельмі падвысіўся на спэкуляцыях славянскай салідарнасьцяй, а ў выпадку завяршэньня бамбардаваньня рэйтынг Лукашэнкі падвысіцца яшчэ больш — электарат паверыць у ролю свайго прэзыдэнта ў вырашэньні канфлікту. Найбольш радыкальнымі аказаліся ісляндцы. Пакрыкваючы Free Belarus! на вечарыне дружбы, у кулюарах старанна дэманстравалі неразуменьне таго, як могуць быць дзьве краіны, дзьве пазыцыі, дзьве сымболікі, дзьве душы — дзьве Беларусі — адна на рэфэрэндумах, другая — прадстаўляная ў замежжы няхай сабе сымпатычнымі і эўрапеоіднага выгляду людзьмі, аднак з сумненьнямі адносна выкарыстаньня бомбаў у Югаславіі. Госьць канфэрэнцыі, нямецкі сацыял-дэмакрат, шаптаў на вуха кансэрватару-французу, каб ня чулі беларусы, што й краіны такой, як Беларусь, не было ніколі раней. Француз трапіў у канфуз.

А вось палякі, браты-ўкраінцы, хлопцы з Мальты ды італійцы цярпліва выслухоўвалі пра камплікаваны беларускі палітычны й культурны пэйзаж. Палякі з моладзевага крыла Уніі Свабоды паабяцалі правесьці 16-га траўня пікет каля беларускага пасольства ў Варшаве, сябры ўкраінскага Маладога Руху на агульнапартыйным роўні адпрацоўваюць мэханізмы дэлегітымізацыі Лукашэнкі ва ўкраінскім грамадзтве пасьля 20-га ліпеня, мальтыйцы паведамілі, што арганізуюць беларусам добры і недарагі адпачынак на сваёй выспачцы (даляцець бы!), а італійцы цікавіліся эканамічнымі законамі, бо ўжо завязаныя на купляньні драўніны ў беларускіх запаведніках.

Усё проста — з дыктатарамі дамаўляцца нельга, бо немагчыма. Таму наяўнасьць дыктатара цягам пяці гадоў гаворыць і пра прыхільнасьці насельніцтва, і пра патэнцыю апазыцыі. Гэта — унутрыбеларускі кантэкст. А Эўропа, як заўсёды ў крытычныя дні нашай гісторыі, стараецца паразумецца з Лукашэнкам.

**Вольга Караткевіч**

СЛОЎНІК ПАНЯЦЬЦЯЎ

# 5. ПРА ГАЛЕЧУ ВОНКАВУЮ І НУТРАНУЮ.



Аднаго дня мы з таварышамі па СНГ стаім у цэнтры Варшавы і назіраем работу транспарту. Рух досыць інтэнсіўны — езьдзяць аўтобусы і трамваі. Тралейбусы ня езьдзяць. Раптам, зь нічога ніякага, мой таварыш па СНГ з Казахстану прамаўляе: «Бач, як у іх «Мэрсэдэсаў» мала, зусім няма — у нас там у Астане на вуліцах адны «Мэрсэдэсы».

Пярэчыць гэтаму было бессэнсоўна і, хіба, непатрэбна. Факт, як кажуць, навідавоку. Не стае толькі яшчэ аднаго малога штрышка для характарыстыкі таго, *як у нас*: бабы ў футрах, мужыкі на «Мэрсэдэсах». І аднаго дапаўненьня — для каго і скураная куртка — футра.

Відаць, прычынай гэтаму наша суцэльная галеча, галеча спасярод бедных і багатых, старых і малых, жанок і мужыкоў. Як вечны стан душы, галеча змушае людзей дзейнічаць: езьдзіць на «Мэрсэдэсах» (а можа, усё роўна даўмеюцца, што я жабрак, што ў мяне за душой і ў душы нічога няма), купляць футры ўсходняй і саматужнай вытворчасьці (во хоць шубку купіла, пабачым, як Сонька ад зайздрасьці аж перакосіць — я цяпер такая пушыстая), будаваць сабе палацыкі зь вежачкамі па пэрымэтры беларускай сталіцы (у якія пасьля вельмі страшна засяляцца — не праведзеныя камунікацыі ды прэзыдэнцкі кантроль можа пад'ехаць), без упынку зьнішчаць сваю фізычную масу (ці ня варта прызадумацца наконт касмэтычнай апэрацыі?).

Шмат пішацца і гаворыцца пра прыналежнасьць — дадаюць: спаконвечную — Беларусі да Эўропы. Але паглядзім праўдзе ў вочы — ужо за 200 кілямэтраў ад Менску, напрыклад, у Летуве, апранаюцца і паводзяць сябе зусім інакш. Якраз недзе тут праходзіць так званая разьдзяляльная лінія (разьдзяляльная, бо яна разьдзяляе эўразійскую шырыню душы, якая вымяраецца пагалоўнымі футрамі і «Мэрсэдэсамі», ад эўрапейскай кандыцыі духу, які традыцыйна супрацьстаіць калектыўнай пахабнасьці і ачмурэньню), што адмяжоўвае цывілізацыю постімпэрскай (?) Эўразіі ад цывілізацыі кантынэнтальнай Эўропы. На шчасьце, гэтая лінія вельмі плынная — і ўрэшце нас можа прыбіць як да аднаго, так і да другога берагу.

Пасьля другой сусьветнай вайны Менск быў адбудаваны расейскімі архітэктарамі і па сутнасьці ператвораны ў фарпост расейскага эўразійства на захадзе імпэрыі. Возьмем толькі адзін, фармальны бок справы — наколькі неэўрапейская наша сталіца. Яе цяперашні цэнтар фармуецца з складанай канфігурацыі рознаялікіх плошчаў — плошчы Незалежнасьці, Кастрычніцкай плошчы, плошчы Перамогі, плошчы Якуба Коласа. Нечуваная шырыня, ёсьць дзе разагнацца, і адначасна тыпова эўразійская няздольнасьць да рацыянальнага выкарыстаньня прасторы, гэтакія сабе беларускія Цянанмыні. Узгадаем цэнтры эўрапейскіх гарадоў — руплівa забудаваныя, яны пакрываюць карыснай нагрузкай кожны лапік зямлі. Цікавым у гэтай сувязі сьведчаньнем сапраўднага росту Польшчы будзе наступнае — напрыканцы 80-ых гадоў у Варшаве яшчэ знаходзіліся плошчы, на якія пад час прыезду Папы Рымскага Яна Паўла Другога зьбіралася 300—500 тысяч чалавек. А цяпер жа варшаўскія ўлады ламаюць сабе галаву, што рабіць, калі Папа прыедзе зноў — няма ўжо такіх пляцаў, знайшлі і ім практычны ўжытак, збудавалі на іх невялікія крамы, кавярні, базарчыкі.

Нутраная галеча не настолькі відавочная, як вонкавая. Але яна ня менш разбуральная. Калі ў чалавека ўнутры прорва, калі за яго тонкай цялеснай абалонкай крыецца пустка, то дарэмна яму шукаць спатолі. Бо спатоля не прынясе палёгкі, а толькі яшчэ больш распаліць апэтыт і цёмны агонь спадзяваньняў.

**Валерка Булгакаў**

*"Лукашэнку – ў НАТЫ"*

*фальклёр*

# ЧАС КАЛІФАЎ

***Кажуць, з усіх заходнеславянскіх моваў найбольш зразумелая беларусам славацкая. Можа, таму мы так рэдка і насьцярожана размаўляем міжсобку — каб не нарабіць памылак, каб у нашым вымаўленьні для іх не пачулася штосьці знаёмае гучаньнем, але зусім непрадбачанае сэнсам. А тут яшчэ славутае славянскае ўслухоўваньне сэрцам, заўсёдная гатоўнасьць да гарачых абдымкаў або да глыбокае крыўды. Блізкім паразумецца цяжэй, чым далёкім. З блізкімі трэба асьцярожна! Таму й пішуць у нас пра славянаў то «голасам братняй крыві», то «з пазыцыяў NATO». Трэці шлях абраў у сваіх нататках Віталь Тарас. Прыехаўшы ў Браціславу, ён углядаўся ў тамтэйшае жыцьцё, увесь час паралеляючы яго з нашым, шукаючы сугучнасьці зь беларускай сытуацыяй на тле актуальных падзеяў цяперашняга сьвету.***

Ці то ад зьбегу абставінаў, ці з волі дэпутатаў ВС, ці з гістарычнае неабходнасьці, але ж прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі прызначаныя амаль на той самы дзень, калі будзе ўсенародна абірацца прэзыдэнт Славаччыны. Выбары гэтыя прызначыў тамтэйшы парлямэнт. Тут, праўда, паралелі, як у геамэтрыі Лабачэўскага, разыходзяцца. Хто б ні быў абраны прэзыдэнтам (а кандыдатаў у Славаччыне значна больш, чымся ў Беларусі 1994-га году), ён рэальна зойме гэтую пасаду ды ўедзе ў прэзыдэнцкі палац у цэнтры Браціславы. Пры гэтым славацкі прэзыдэнт ня мецьме й малой долі тых паўнамоцтваў, якія мае прэзыдэнт Беларусі (нават паводле канстытуцыі 94-га году), а выканаўчая ўлада застанецца ў прэм'ерміністра, які залежыць ад парлямэнцкае большасьці.

Дэмакратычная кааліцыя, якая перамагла на восеньскіх выбарах у Славаччыне, мае зусім нязначную бальшыню ў парлямэнце, і таму экс-прэм'ер Меч'яр, хоць і не прызнаў сваёй паразы, мусіў часова выдаліцца на спачын на адзін са славацкіх курортаў. Цяпер ён пад націскам сваіх прыхільнікаў зноў уключыўся ў палітычную барацьбу і, як кажуць, мае неблагі шанец стаць прэзыдэнтам. Пасьля чаго зноў можа ўсчацца пэрманэнтная вайна паміж ім і парлямэнтам. Былы баксэр Меч'яр мае досыць круты нораў і даказаў гэта ў часе свайго прэм'ерства ў дачыненьнях з апазыцыяй ды прэсай. З-за гэтага яго, клясычнага папуліста з аўтарытарнымі замашкамі, у беларускай і расейскай прэсе нярэдка параўноўвалі з Лукашэнкам (а Славаччыну, адпаведна, зь Беларусяй).

Трэба, аднак жа, заўважыць, што Меч'яр канстытуцыі не зьмяняў, апазыцыянэраў і журналістаў у турмы не саджаў (незалежныя тэле- й радыёстанцыі, што праўда, напярэдадні выбараў улады засьпрабавалі). Судовая ўлада пры ім захавала сваю незалежнасьць. Прэм'еру нават у галаву не магло прыйсьці дамагацца, скажам, узьяднаньня Славакіі й Чэхіі, скасаваньня старажытнага славацкага гербу альбо наданьня славацкай мове статусу дзяржаўнай нароўні з вугорскай! Праўда, за Меч'ярам у агульнаадукацыйных школах была ўведзеная практыка не ўключаць ацэнкі за вугорскую мову ў выпускны атэстат. Аднак, з прыходам да ўлады кааліцыі, у якую ўваходзіць, між іншымі, партыя вугорскай меншасьці, праблема зьнікла (дарэчы, у Браціславе ёсьць ня толькі вугорскія, але, да прыкладу, і баўгарская школа. Адна з прыгажэйшых вуліцаў сталіцы называецца Жыдоўскай. А дарослае насельніцтва славаччыны ня толькі ведае расейскую мову, якая выкладалася ў гады йснаваньня ЧССР ва ўсіх школах, але ж і не цураецца яе ў выпадку неабходнасьці паразумецца зь якім турыстам – у адрозьненьне ад пераважнай большасьці чэхаў).

Цікава, што на выбарах фармальна перамагла не кааліцыя дэмакрытычных партыяў, але партыя Дэмакратычная кааліцыя. Такім чынам, апазыцыі ўдалося абысьці "хітрае" абмежаваньне, прыдуманае прыхільнікамі Меч'яра ў парлямэнце. Наагул, апазыцыя (а цяпер кіраўнічая кааліцыя) ніколі не хавала й не хавае рознагалосьсяў паміж рознымі палітычнымі партыямі, што ў яе ўваходзяць. Сярод іх ёсьць як лібэральная, так і нэакамуністычная. Адзінае, аднак, у чым няма й ня можа быць рознагалосьсяў, дык гэта, па-першае, дзяржаўны сувэрэнітэт і нацыянальныя інтарэсы Славаччыны, а падругое, прыналежнасьць яе да Эўропы. Што тычыцца NATO, спрэчкі ідуць, галоўным чынам, пра тэмпы ўваходжаньня ў альянс, а не пра мэтазгоднасьць самога кроку. ЗША ў замежнай палітыцы ўжо даўно абвешчаная стратэгічным партнэрам. А Расея, Беларусь, Украіна ды іншыя краіны СНГ – проста партнэрамі, зь якімі трэба разьвіваць нармальныя дачыненьні.

Хоць на вуліцах Браціславы можна бачыць надпісы кшталту "Адольф Клінтан", альбо "NATO" са свастыкай замест літары "О", іншых праяваў "славянскае салідарнасьці" пасьля пачатку бамбёжак Югаславіі (на поўначы якой, у Ваяводзіне, дарэчы, жыве шмат славакаў) ня бачна.

За некалькі дзён перабываньня ў Браціславе мне падалося, што славакі пачуваюцца тут жыхарамі мэтраполіі. Горад, пры вонкавай амаль сялянскай сьціпласьці ды някідкасьці, утульны й гасьцінны. Колішняя сталіца – Прага (хоць, калі зазірнуць крыху далей у гісторыю, для Браціславы альбо колішняга Прэсбургу ў складзе Аўстра-Вугоршчыны, мэтраполіяй хутчэй быў Будапэшт, які, у сваю чаргу, лічыўся усяго толькі эўрапейскай правінцыяй; Славаччына ж упершыню набыла незалежнасьць у часе нямецкае акупацыі, што таксама наводзіць на некаторыя паралелі) выглядае сапраўдным эўрапейскім цэнтрам, турыстычнай мэккай, амаль што новым Бабілёнам.

Браціслава зусім і ня ймкнецца, як падалося, вылузвацца са скуры, каб удаваць зь сябе заходні горад, як, да прыкладу, гаманлівая Варшава. Браціслава нагадала мне, хутчэй, Сафію ці Вільню. Пры ўсёй адрознасьці тэмпэрамэнтаў насельнікаў гэтых сталіцаў, агульная рыса для іх – сардэчнасьць, ці, дакладней сказаць, простасардэчнасьць, характэрная для жыхароў краінаў ня столькі славянскіх, колькі аграрных. Яна страчваецца, на жаль, па меры далучэньня да заходняе цывілізацыі. Масква, якая ёсьць сама па сабе глябальнай вёскай, з гэтага раду выпадае й больш нагадвае, магчыма, Нью-Ёрк (не архітэктурай, зразумела, але адарванасьцю ад праблемаў рэшты сьвету і ўяўленьнем пра сябе як пра цэнтар цывілізацыі, альбо нават сусьвету). Менск, з другога боку, населены амаль выключна учорашнімі, або – часткова – цяперашнімі вяскоўцамі, вёскай ніколі ня быў, але ў 70-я гады стаўся дэкарацыяй, свайго роду вітрынай разьвітога сацыялізму, пазбаўленага нацыянальных, альбо любых іншых яскравых прыкметаў. Горадпрывід. У адрозьненьне ад заходніх гарадоў-прывідаў, савецкі горад-прывід не пакідаюць жыха-

# РАДА ЭЎРОПЫ:

**Эдуард Шэварднадзэ**

На прэс-канфэрэнцыі пасьля ўрачыстай цырымоніі прыёму Грузіі 41-м сябрам Рады Эўропы беларускія журналісты таксама задаюць пытаньне, як бы ён ацаніў стан развіцьця беларуска-грузінскіх дачыненьняў. «Ані нэ улучшаюцца і нэ ухудшаюцца», — не паевўшы вокам шасьцю словамі адказвае Шэварднадзэ. Воплескі ў залі.

У прамове на цырымоніі прыёму Шэварднадзэ сказаў, што «сёньня зьдзейсьнілася спрадвечная мара грузінскага народу, мара аб яднаньні з Эўропай». Тэкст прамовы распаўсюджваюць у Радзе Эўропы па-ангельску, францускую і грузінску. Гледзячы на прычудную грузінскую вязь побач з лацінкай, разумееш, што грузінская мова — мова культуры.

**Лорд Расэл-Джонстан**

Вітаючы грузінскага прэзыдэнта і далучэньне Грузіі, прэзыдэнт Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы лорд Расэл-Джонстан кажа, што Грузія заўжды была часткай Эўропы, і доказ таму — шматлікія грэцкія міты адбываліся тут, на Каўказе. «Да гэтых гор быў прыкуты Прамэтэй, але трэба думаць, сьмерць яму не была такою цяжкаю, бо ён мог насалоджвацца беспараўнаным харастве вашай краіны». Ад дыпляматычнай ветлівасьці да парнаграфіі адзін крок.

**Барыс Алійнык**

Народны пісьменьнік Украіны, сябра Палітбюро ўкраінскай кампартыі, нязьменны дэпутат Вярхоўнай Рады Барыс Алійнык у Радзе Эўропы не расстаецца зы сьветла-зялёнай палатнянай шапачкай з брылькам. У такіх у нас хадзіла на дачах усё пэнсіянэрскае насельніцтва. Толькі ў дачнікаў яна звычайна замызганая, прапахлая штодзённым нуджэньнем, а ў Алійныка — чыстая, як ленінская кепка. «Я стары камунякаінтэрнацыяналіст», — кажа пра сябе Алійнык і дастае цыгарэты «Parliament», выйшаўшы пакурыць да беларускай дэлегацыі. «У Сербії ўжо разбамбілі 220 школаў, — кажа. — Хутка й нас будуць бамбіць. А на Украіне прэзыдэнтам стане той, каго прызначыць Washington». «Дык у вас хоць штопяцьгод новага прызначаюць, а ў нас Масква як прызначыла...», — рагоча адзін зь беларусаў.

**Мар'ян Кшаклеўскі**

На слуханьнях па Беларусі на прапанову «палатнікаў» прыехаць на месца, пабачыць, разабрацца, рэпліку падаў кандыдат у прэзыдэнты Польшчы Мар'ян Кшаклеўскі: «Я прыяжджаў, мяне схапілі й вытурылі». Баўгарскі дэпутат Іван Каеджыкаў сьмяецца за кулісамі: вытурылі, зрабілі рэкляму, а за месяц стаў лідэрам «Салідарнасьці». Хто хоча стаць прэм'ерамі і прэзыдэнтамі, прыяжджайце ў Беларусь і агітуйце сярод работнікаў.

Кшаклеўскі нейкі няўпэўнены. Не засяроджаны ў сабе, як звычайныя палітыкі такога рангу, а нейкі тонкі. Ідзеш яму насустрач па калідоры, ён зазірае табе ў твар. Адны людзі зазіраюць у твары, а адны не зазіраюць.

**Іван Каеджыкаў**

Іван Каеджыкаў — малады баўгарскі парлямэнтар, спэцыяліст па Беларусі, наш чалавек. Кажа, што эўрапейцы бачаць адзіны рэальны шлях легітымізацыі беларускай сытуацыі. У 2000 годзе парлямэнцкія выбары. Рэжым пагаджаецца на прыняцьце дэмакратычнага выбарчага закону і эўрапейскі кантроль. Дэмакратычныя сілы пагаджаюцца на ўдзел.

Думаецца, ёсьць некалькі неадменных перадумоваў такога кампрамісу:

1) Каб ліцэнзіі і этэр тэле- і радыёвяшчаньня мог атрымаць любы;

2) Каб любыя газэты мелі на роўных умовах доступ да «Беларускага дому друку», адзінай друкарні, зь якой газэты могуць працаваць сёньняна-заўтра;

3) Каб усе 50%- і 25%-ныя бар'еры былі скасаваныя, інакш горад непазьбежна аказваецца недапрацаўленым;

4) Каб мясцовая ўлада абіралася зьнізу, а не прызначалася, бо інакш няма грунту для паўстаньня нармальнай, а не мабілізацыйна-сталічнай партыйнай сыстэмы;

5) Каб доля прыватнай уласнасьці дасягнула ня менш за 50%.

Без выкананьня хаця б першых трох умоваў любыя выбары будуць проста ўзаконенай фальсыфікацыяй і легітымацыяй бандыцкай улады. Наша ж апазыцыя ўсё патрабуе нейкія ідыёцкія 30 хвілінаў на БТ і ўключэньня актывістаў апазыцыі ў выбарчыя камісіі. Такое ўражаньне, што ўрэшце яна на будучых перамовах зноў зрачэцца нават таго, што па-за ўсякім абмеркаваньнем: ня можа быць кампрамісу, пакуль ня вызваленыя і не рэабілітаваныя (падкрэсьліваю, бо пра гэта маўчаць) усе палітвязьні за пяць апошніх гадоў (на іх забываліся перамоўшчыкі ў 1996-м і дагэтуль не пакаяліся). Эх, нам бы ў лідэры апазыцыі Тэтчэр, Олбрайт ці Су Джы.

**Сыльв'ё Бэрлюсконі**

Выступае ад імя парлямэнцкай групы «народнікаў» (правыя). «Я як бізнэсмэн абяшчаю тут, што асабіста выдзяляю 2,2 млн. даляраў на пабудову 1000 дамоў для небаракаў-уцекачоў з Косава». Бэрлюсконі, як і кароль Хуан Карлас Гішпанскі, найлепш любіць срэбна-шэрыя гальштукі.

**Генадзь Зюганаў**

Хмуры лабасты лідэр расейскіх камуністаў ужо 6 гадоў носіць два тыя самыя гальштукі: адзін чырвоністы, другі залацісты. Грошай на абы-што не марнуе.

На прэс-канфэрэнцыі пытаньне яму задае Юры Каваленка з «Новых ізвесціяў». Зюганаў у адказ са скрухай пытаецца: «А чым «Новые ізвесція» адрозьніваюцца ад старых?»

**Вано Хухунаішвілі**

У складзе першай грузінскай дэлегацыі ў Радзе Эўропы Вано Хухунаішвілі, нацыянал-дэмакрат. Думаеш, што калі ў цябе было прозьвішча Хухунаішвілі, ты таксама, мабыць, быў бы нацыяналдэмакратам.

**Рэджэп Зэйдані**

Альбанскі прэзыдэнт хоча мець з косаўскай трагедыі. На харчы для ўцекачоў трэба па 3 USD у дзень, кажа, то бок 33 млн. даляраў у месяц.

На такія грошы, думаеш, будзе есьці ня толькі косаўскі ўцякач, але шчэ й тры альбанскія раты пабач зь ім.

**Уладзімер Канаплёў**

На пытаньне журналіста «Звязды» «а ў якім гатэлі вы спыніліся?» Лукашэнкаў дэпутат Шпілеўскі, пыкмык, кажа «ня памятаю, забыўся». Ну, думаеш, і п'юць дзядзькі, забыліся, у якім гатэлі спыніліся. Пасьля ад ягонага непасрэднага начальніка, чалавека нумар 2 у Беларусі, даведваемся: у «Hilton»-е, аказваецца. Цікава толькі, у якіх нумарах: тых, якія больш 1000 USD за ноч каштуюць, ці тых, якія менш 1000 USD.

У Канаплёва твар загарэлы, у саляры дзядзька ходзіць. У адзін з прэзыдэнтам саляры, мабыць.

**Алія Ізэтбэгавіч**

Басьнійскі прэзыдэнт нечым няўлоўна нагадвае мэра Ўладзівастока Чарапкова.

10 гадоў таму ў ягонай краіне жыло 4 мільёны чалавек, цяпер — 3300 тысячаў. Быў Ізэтбэгавіч дысыдэнтам, быў прэзыдэнтам, а цяпер ён — сябар прэзыдэнцыі разам і з герцагавінска«хрвацкім» і басьнійска«српскім» калегамі. А прэзыдэнтам у Босьніі цяпер спэцпрадстаўнік ААН Карлас Вэстэндорп. А сама Босьнія знаходзіцца пад міжнародным пратэктаратам.

На вуліцах Страсбургу заўважаеш вар'ятаў. Іх так мала, што іх заўважаеш. У Менску людзей псыхічна неўнармаваных і сацыяльна дэградаваных столькі, што іх перастаеш заўважаць.

# ЛЮСТРА ДЗЁН

ры, ён можа нават стацца густанаселеным прамысловым мэгаполісам, але жывуць у ім ня месьцічы (тым больш – ніякія не менчукі), а менавіта насельнікі, якім усё адно, дзе жыць. У гэтым сэнсе Браціслава, пры тым, што ў ёй жыве амаль у чатыры разы меней людзей, значна жывейшае места, чымся Менск. Пры тым, што гістарычным цэнтрам Браціславы можна разгульваць увечары як музэем і не сустрэць на вуліцах ніводнага чалавека, яна ня робіць уражаньня закінутасьці й гніеньня. У той час як сталіца Беларусі ўсё больш нагадвае вялікі сьметнік, па якім зь дзелавым выглядам сноўдаюцца бамжы. Тое, што некаторыя зь іх езьдзяць у "Мэрсэдэсах" састарэлых марак, толькі павялічвае падабенства гораду на ўрбаністычны сьметнік. Зразумела, што на сьметніку ўсяго і ўсім ня хопіць. Таму патрэбны важак, які пільна сочыць, каб адыходы – харчовыя або прамысловыя, правільна разьмяркоўваліся. Што будзе, калі яны скончацца, насельнікі памыек ніколі не задумваюцца, бо йнакш яны б даўно заняліся справай, а ня корпаліся ў гаўне ў пошуках лепшае будучыні.

Заявы расейскіх рэваншыстаў і тутэйшых зімоўскіх наконт таго, што наступным аб'ектам агрэсіі NATO можа стаць Беларусь, ёсьць чыстай вады ідыятызмам. Для таго, каб стаць аб'ектам нечай агрэсіі, трэба быць ім. Ці існуе ў стратэгічных плянах NATO або Пэнтагону такі аб'ект, як Беларусь? Сумняюся. Вядома, у інтэлектуальных здольнасьцях натаўцаў пасьля таго, як яны пачалі бамбаваць аўтобусы й пасольствы, таксама можна ўсумніцца. Але ж у існаваньні самой Югаславіі, Сэрбіі ды прэзыдэнта Мілошавіча ніхто дагэтуль не сумняваўся. Ніхто не аспрэчвае й сувэрэнітэту Югаславіі; NATO проста дэкляравала, што правы чалавека й правы нацменшасьцяў вышэй за дзяржаўны сувэрэнітэт. А вось што тычыцца сувэрэннай Беларусі, дык яна сама яшчэ ня ўпэўненая ў сваім існаваньні на карце Эўропы. Яна яшчэ нічым не засьведчыла пакуль свайго існаваньня як самастойнае дзяржавы. Лукашэнку, дзякуючы скандалу ў Драздах, ужо ведаюць. Пра тое, што ён прэзыдэнт сувэрэннай Беларусі, памятаюць наўрад ці. Ён і сам, відаць, да канца ў гэтым ня ўпэўнены, інакш ніколі б ня стаў нават згадваць пра ядзерную зброю, ці "ядзерны парасон". Бо вяртаньне гэтай зброі ў Беларусь ніяк не адмяніла б таго факту, што ключ ад "ядзернай валізкі" знаходзіцца ў расейскага прэзыдэнта.

Размовы пра славянскае адзінства па-за межамі Менску й Масквы выклікаюць толькі раздражненьне альбо неўразуменьне. У МЗС Славакіі, напрыклад, падыходы ў замежнай палітыцы, заснаваныя на нейкай абстрактнай салідарнасьці нацыяў (ці то са славянамі, ці то з альбанцамі ) альбо канфэсіяў лічаць суцэльным анахранізмам. Калі палякі, чэхі, баўгары, славакі – ворагі славяншчыны, дык хто тады сябры?

У Беларусі электарат проста ня бачыць нікога й нічога (у самым простым сэнсе гэтага слова), акрамя цяперашняга ўладара. Апазыцыя ж, прапанаваўшы ідэю выбараў, не знайшла, КАГО і ШТО прапанаваць, а значыць, няма з чаго й выбіраць. У сьвядомасьці мільёнаў людзей няма Пазьняка й няма Чыгіра – яны ня ведаюць, а часам і ня хочуць, што ім прапануюць гэтыя палітыкі. І справа ня толькі ў мас-мэдыях, якія знаходзяцца амаль цалкам у руках уладаў, ня толькі ў прапагандзе, якая штодня засьмечвае людзям мазгі. Справа яшчэ ў тым, што калі б нават апазыцыйная (альбо, больш годна, незалежная) прэса раптам атрымала фантастычныя грашовыя сродкі ад дзядзечкі Сораса, а дзяржкамдрук разам з усімі іншымі камітэтамі ды службамі кудысьці зьніклі, высьветлілася б, што ёй няма аб чым казаць. Па-першае, няма чым казаць – бо па-беларуску сёньня гавораць і пішуць лічаныя мэдыі. І галоўнае – няма пра што, бо ўся менская прэса застаецца, у асноўным, правінцыйна-другаснай. Дума, Ельцын, Скуратаў, Лукашэнка, Жырыноўскі, Глоба, Чубайс, зноў Лукашэнка, зноў Ельцын, Блін Клінтан, Моніка Левінскі, Пугачова – вось сапраўдныя героі нашага часу, нашага друку. Ну, яшчэ Ганчар, Віньнікава, Старавойтаў, Скочка, Бандарэнка, Шчукін — парадак імёнаў можна мяняць, дадаваць да іх новыя. Уражаньне, аднак, такое, што нашыя (нашыя!) газэты маглі б выдавацца ў якім-небудзь Тамбове ці Казмадзям'янску. Толькі пісалі б яны не пра кандыдатаў у прэзыдэнты, а пра кандыдатаў у губэрнатары; ды яшчэ наколькі лягчэй пісалася б, асабліва аматарам творчасьці Пушкіна.

Нашыя (нашыя!) апазыцыянэры часам з горыччу, альбо з годнасьцю гавораць, што найбольш плённыя палітычныя ідэі, ды яшчэ й мэханізм іхнага ўвасабленьня, падказваюць журналісты. Радавацца тут ці плакаць? Ёсьць журналісты, якія за апазыцыю і ў турму гатовыя пайсьці, і ў пікет, і на мітынг. Як кажа адзін з калегаў, "Гонар і слава!" Але не магу ня ўспомніць размову са старшынём асацыяцыі газэтных выдаўцоў Славаччыны спадаром Немэчкам. Узгадваючы пэрыяд ціску ўладаў на прэсу ў пярэдадзень парлямэнцкіх выбараў, ён казаў: "Мы, журналісты й газэтчыкі, маглі б выйсьці на плошчу. Але колькі нас? Пару сотняў, ну, тысячаў. А ў нашых газэтаў у сукупнасьці сотні тысячаў чытачоў! Менавіта ў гэтым наша моц".



*У Браціслаўскім Градзе і ня думаюць пра яднаньне з Маскоўскім Крамлём*

А якая моц у недзяржаўных выданьняў Беларусі, калі іхныя наклады не перавышаюць дваццаці-трыццаці тысячаў? У сапраўды рынкавых умовах такія "агульнанацыянальныя" грамадзка-палітычныя газэты зьніклі б імгненна, іхнае месца занялі б расейскія "монстры" жоўтае прэсы (яны ўжо зараз пачуваюць сябе няблага – як тая "Камсамолка"). А вось славацкія газэты выжылі – і левыя й правыя, і вялікія, і зусім маленькія, і ўсе яны трымаюцца на айчынным капітале.

Сярод славацкіх журналістаў таксама існуе раскол. Частка ўваходзіць ва, умоўна кажучы, прамеч'яраўскі саюз, частка – у сындыкат. Аднак, большая частка журналістаў не ўваходзіць ні ў якае аб'яднаньне. Так, напэўна, павінна быць у нармальным грамадзтве.

Нашае грамадзтва як бы знаходзіцца ў летаргічным сьне й бачыць фантастычныя сны – "мы выйдзем шчыльнымі радамі", Кірыла й Мэтод, снайпэр на даху, Беларусь у Эўропе... Натаўскія бомбы, магчыма, ужо растрывожылі чыйсьці сон. Але так ня хочацца вылазіць з-пад коўдры, скідваць зь сябе млявасьць пачуцьцяў і марудчасьць звыклых думак. Аднак жа, час прачынацца, бо ўжо трэцяе тысячагодзьдзе на двары. Фукуяма памыліўся – гісторыя ня скончылася, яна толькі пачынаецца. Для тых, зразумела, хто не прасьпіць і пачуе гукі часу. Пад "ядзерным парасонам" ды "тапалямі" ад яго не ўратуесься. Час каліфаў на гадзіну мінае. Беларусь застаецца?

**Віталь Тарас**

# БАГАТЫРЫ І БАСОТА

**Дыпляматы, дыпляматы, беларускія сыны...**

Нішто так ня цешыць душу беларускага інтэлігента-дзяржаўніка, як сустрэчы зь беларускімі дыпляматамі за мяжой. І адкрыцьцё, што добрая палова зь іх выпісала сабе «Народны альбом», ба больш – не прапускае нумароў «НН», ба больш – зачытваецца «ARCHE».

**Азэрбайджанскія матылькі**

Усе ходзяць у Радзе Эўропы ў гальштуках, а азэрбайджанская дэлегацыя — у чорных пінжаках і белых кашулях пад матылёк. Мабыць, гэта іх нацыянальныя строі.

**Рыцары і ка́ты**

«Воін» заўсёды значыла той, хто рызыкуе сваім жыцьцём, ваюючы, выконваючы заданьні, — кажа Генадзь Зюганаў. — Цяпер амэрыканскія пілёты ваююць, не ўваходзячы ў зону паражэньня. Ён перастае быць воінам, становіцца катам».

**Псыхадэлічныя каровы**

Страсбург заклеены плякатамі: «Amnesty International прадстаўляе канцэрт групы «Les Vaches Psychédéliques». Думаеш, толькі ў нас Гэльсынскі камітэт выдае кампакт-дыскі...

**Папугай Грузьдзіловіча**

Журналіст з «Навінаў» Алег Грузьдзіловіч хваліцца, што ягоны папугай умеў гаварыць «Да здравствует Белорусскій народный фронт». Бялорусь, Бялорусь... Па-беларуску могуць гаварыць лепшыя беларускія журналісты, лепшыя беларускія папугаі — не.

**13 цэркваў**

У Страсбургу было 13 цэркваў, калі каталікі зь лютэранамі, стаміўшыся змагацца, сталі іх дзяліць. Падзялілі па 6, а адну — напалам. Катэдра дасталася каталікам, але пратэстанты атрымалі права тройчы ў год — на Каляды, Вялікдзень і Сёмуху — адпраўляць там службу, але ні разу з XVI ст. не скарысталіся ім. Зацятыя.

**Поцца Таска**

Італьянская дэпутатка з харошым прозьвішчам Поцца Таска зьвінавачвае сэрбскія ўлады, што яны бяруць кроў у альбанскіх падлеткаў на патрэбы сэрбскага войска і прымушаюць 7000 юнакоў працаваць на капальнях у Прышціне.

**Шарая Ранэта**

Купляю на базары на Place Clébert самыя танныя яблыкі, таўстаскурыя, шэрабокія, пляскаватыя Boskoop. «Вы ж ведаеце, што гэта Boskoop?» — перапытвае дабрызная сялянка. Як жа ня ведаць, даражэнькая. Не было ў нас у Заказанцы садка без шарой ранэты. На зіму іх закопвалі ў ямкі, адкопвалі пад Вялікдзень. Дзеці чакалі Вялікадня, валачобных, пасак, шарой ранэты. Паўмірала тая Заказанка, павымярзалі тыя садкі. Цяпер усюды чырвонабокія салодкія таварныя яблыкі родзяць. А ты зноў і зноў едзеш у Эўропу, бо там столькі нагадвае табе пра краіну, якой няма.

**Цэляфанавы пакецік**

Плаці ты басяку мільёны, у яго з задняй кішэні штаноў усё адно будзе тырчаць цэляфанавы пакецік. Вось як у расейскага дэпутата Думы М., што гаворыць у спадарожнікавы тэлефон.

**Страсбург і Менск**

У Страсбургу нідзе на вочы ня кідаюцца патрулі. У Менску мянты паўсюль, а праўды няма нідзе.

Страсбурскія вуліцы — Вуліца Рынку малочных парасятаў, Вуліца Сірочы роў, Тупік Садка з ружамі. І вуліца Вальтэра Бэн'яміна: сярод нейкіх складоў, крывая, ніводнага людзкага дому. Толькі тры грабы шумяць. Так дажываў, такая і вуліца.

Грабы, дарэчы, раней былі звыклым дрэвам для Берасьцейшчыны і Піншчыны. Цяпер толькі ў пушчы засталіся. Бо на добрай зямлі расьлі, цяпер пад палі ўсё павысякалі. А расьліннасьць, характэрная для грабавых лясоў, захавалася. Грабаў няма, а кветкі й былінкі, што прывыклі пад грабамі расьці, выжылі.

Калі палітыку ў дзяцінстве бракавала бацькоўскай любові, ён усё жыцьцё несьвядома прагне любові народнай. Ён хоча, каб яго любілі. Няма горшага для дзяржавы дзеяча, чым той, што ўсім ахвяруе за народную любоў, бо ён увесь час дзейнічае насуперак рэчы паспалітай, агульнаму дабру.

**Duty Free Shops**

Беларусы наведваюць бязмытныя крамы, нібы гэта магазіны спажывецкай кааперацыі, у якіх купляць можна адно алькаголь.

**Нэгры і расісты**

Калі славянскія расісты, звычайна бледныя і пархатыя, трапляюць у Эўропу, найбольш іх дратуюць эўрапейскія нэгры, сытыя і чыстыя, хаця і спадчынна мутнавокія. Мы, маўляў, белыя, а ня маем грошай на пінжак, а гэтыя нігеры...

**Еўрэй**

Карэспандэнт РІАН пытаецца ў Зюганава: «Ці можна лічыць асуджэньне палітыкі NATO адабрэньнем палітыкі Мілошавіча?» Рэпліка з задніх радоў на ўсю залю: «От еврей, а!»

**Асінскі**

РІАН, ранейшае АПН, — агенцыя, створаная адным нашым усемагутным ведамствам з трох літараў. Быў у Менску такі журналіст Асінскі, працаваў, працаваў, а пасьля яго журналістам у Нямеччыну перавялі. Во. А цяпер ён рэдагуе газэту «Белоруссия».

**Як твая доля**

Мужчына без нагі паўзе пераходам ля вакзалу нагамі наперад. На здаровай назе толькі шкарпэтка. Ды й праўда, навошта яму боты?

Тры п'яныя і апушчаныя глуханямыя, мужык і дзьве бабы, спрабуюць прарвацца ў мэтро а палове на першую ночы: азызлыя, уродзкія твары, недалужныя, дробныя, кульгавыя целы. Кантралёрка крычыць: «На мэтро грошай ня маеш, а зь якога горла водку піць, добра знаеш», — але ўрэшце прапускае. Стаяць глуханямыя на пляцформе, крычаць на мігах адзін аднаму. Крычаць, крычаць, ажно баба дыбае да люстра, што ў мэтро стаіць, глядзіцца, прыгладжвае тлусты каўтун.

Стары, апрануты ў досыць прыстойны зялёны пінжак, што былі модныя гадоў пяць таму (і на ліцо партработнік), мые пляшкі ў калюжы пасярод дарогі ў дварэ за тым домам на плошчы Перамогі, на якім гарыць «Подвиг народа». «Мэрсэдэсы» і «БМВ» мясцовых жыхароў аб'язджаюць яго, а ён і вухам не вядзе. Тутсама ў двары пункт прыёму шклатары ад крамы «Дыянісій».

**Андрэй Дынько**



*Да пабудовы Эйфэлевай вежы аднагаловы Страсбурскі сабор быў самым высокім у Эўропе*

*Працяг са старонкі 1.*

Але спачатку два словы пра помнік. Расейскі гранітны куб патрапіў на каталіцкія могілкі адкульсьці з падножжа гары, дзе, відавочна, стаяў асобным мэмарыяльным знакам. Хутчэй за ўсё, яго зацягнулі наверх дзеля якаснага матэрыялу, зь якога нехта меркаваў або мяркуе зрабіць новыя помнікі. Пакуль жа ён проста валяецца сярод магіл. Пройдзе яшчэ крыху часу, і зьнікне з твару зямлі апошняе сьведчаньне найбуйнейшай, як мы высьветлім пасьля, бітвы беларускіх паўстанцаў з расейскім акупацыйным войскам 1831 году.

Чаму такое магчыма ў сёньняшняй Літве, дзе зь піетэтам ставяцца да памятак мінуўшчыны? Таму што гэтае паўстаньне не займае ў этнічнай літоўскай гісторыі якога-кольвек заўважнага месца. Палякам помнік таксама не патрэбны, бо гэта помнік ворага. Мясцовыя расейцы ўшаноўваюць свае мэмарыялы, зьвязаныя з гонарам, а не з пакаяньнем. Беларусы толькі часам выпадкова натыкаюцца на памяткі свае гісторыі ў гэтых мясьцінах, як мы са шваграм. І тады зьяўляецца нагода ўзгадаць — што гэта было за паўстаньне і ўва што яно абышлося нашай культуры.

Што да Панарскай бітвы, дык у спрошчаным пераказе сытуацыя выглядала так. Паўстанцы захапілі Коўна і рушылі на Вільню, куды расейцы падцягнулі рэгулярныя войскі. І тут, пад сталіцай Вялікага Княства, яны сустрэліся. Мяркуючы па ахвярах, сеча была страшная. У найбуйнейшай бітве паўстаньня 1863–64 гадоў — пад Мілавідамі — загінула 80 паўстанцаў. У найбуйнейшай сечы апошняй чачэнскай вайны палегла 120 чалавек. Панарскае пабоішча забрала 364 жыцьці толькі з аднаго боку.

Гісторык Генадзь Сагановіч кажа пра найменшую вядомасьць антырасейскага паўстаньня 1931 году ў Беларусі ў параўнаньні з папярэднім паўстаньнем Касьцюшкі і наступным — Каліноўскага. Для шырокае публікі і для школьнікаў той надзвычай рамантычны час герояў і змагароў у лепшым выпадку даходзіць як чужое, польскае паўстаньне, што тлумачыцца татальнай русіфікацыяй грамадзкага жыцьця і адукацыйных праграмаў. У гэтым сэнсе нацыя жыве і гадуецца чужою для самой сябе і для сваіх продкаў, якія ў 1831 годзе ішлі на сьмерць і нашмат больш думалі пра нас, чымся мы пра іх. Яны гінулі за нашую будучыню, але не перамаглі. Перамагла расейская акупацыя, якая ўжо пэўна ніякім чынам ня думала пра нашую будучыню. І сёньня мы маем тое, што маем.

Усе тры антырасейскія паўстаньні ў Беларусі пасьля далучэньня да Расеі пацярпелі паразу. Гэта значыць, што яны не дасягнулі сваіх мэтаў і тыя мэты застаюцца актуальнымі да нашага часу — незалежнасьць, свабода, дэмакратыя. Яны могуць заставацца актуальнымі і праз сто гадоў. Уся праблема ў нашым разуменьні таго, што тады адбылося з ініцыятывы нашых продкаў, як свайго, як незавершанага дзеяньня. Гэта ж зусім неістотна, ці пяць гадоў таму наш народ пачаў свой эвалюцыйны рух, ці сто, ці тысячу гадоў назад. Істотна, што гэты рух незавершаны, пэўныя ягоныя этапы застаюцца на ўзроўні стогадовае даўніны, але не перастаюць ад гэтага быць актуальнымі, бо ня пройдзеныя.

... Вярнуўшыся дахаты, мы са шваграм кінуліся да кніг. Жонка ўключыла тэлевізійныя навіны. «Аказваецца, з расейскага боку ў Панарскай бітве ўдзельнічала 20-тысячнае войска», — сказаў швагра. Я паспрабаваў уявіць сабе наступ гэтае армады на гару, дзе пад капліцкай на вясковых могілках паўстанцкія камандзіры аддаюць апошнія перад боем загады. Тэлевізійны дыктар распавядаў пра 50-тысячную югаслаўскую групоўку ў Косаве. Паказвалі наезд сэрбаў на альбанскую вёску. Такая самая паросілая дрэвамі гара... Усё пераблыталася — часы, краявіды, твары. Нязьменнай засталася сутнасьць падзеяў.

**Алесь Кебік**

# ПАДОРАНАЯ ВАЙНА

Вайна 1831 году дзеліць гісторыю нашае культуры на *да* і *пасьля*. *Да* існавалі ўнівэрсытэт, кляштары, магнацкія рэзыдэнцыі, пры якіх былі калегіюмы, школы, бібліятэкі, тэатры, музэі, шпіталі... *Пасьля* ўсяго гэтага ня стала. Засталася дата — 1831 год і пытаньні. Першае зь іх — як называць тую вайну?

У Польшчы яе называюць Лістападаўскім паўстаньнем, маючы на ўвазе лістапад 1830 году. У Беларусі яна пачалася толькі ў сакавіку 1831-га, а скончылася ў 1833-м. Палякі змагаліся за сваю канстытуцыю й дзяржаўнасьць. Яны мелі аўтаномію, сэйм і нават войска... Беларусы ня мелі нічога і змагаліся «за нашу і вашу свабоду»... Стары расейскі слоўнік Бракгаўза спасылаецца на кнігу нейкага Пузырэўскага «Польская вайна 1831»... Гэтак яна і ўвайшла ў эўрапейскую гісторыю. Чужая вайна... Але кроў была наша. Атрымалася, што беларусы падарылі тую вайну палякам, якія пасьпелі эміграваць, французам, супраць якіх Расея не адправіла войскаў, Каўказу, зь якога тыя войскі таксама былі адцягнутыя ў наш край. Беларусы сталі героямі... Безь перамогі, бяз славы, без імёнаў.

Паспрабуем усё ж пэрсаніфікаваць вайну 1831 году. Сёньня б тых змагароў назвалі інтэлігентамі. Прафэсар Яўхім Лялевель, філёляг і гісторык, колішні загадчык катэдры ў Віленскім унівэрсытэце, стаў ідэйным правадыром для паўстанцкай моладзі. Уся культурная эліта Беларусі спрычынілася да вайны. Адныя яе рыхтавалі і былі сасланыя крыху раней, другія ў эміграцыі зьбіралі апошнія сілы й апошнія грошы, трэція біліся са зброяй у руках... Кампазытары Агінскі і Абрамовіч, вучоныя Балінскі й Дамейка, літаратары Ходзька і Гарэцкі, мастакі Сухадольскі і Дмахоўскі ды шмат, шмат іншых... Хто стаў героем? Паэтка й зьбіральніца беларускага фальклёру, дваццаціпяцігадовая графіня Эмілія Плятэр камандавала паўстанцамі. Міхал Валовіч, малады філёзаф і эканаміст, студэнт Лялевеля браў у вайне чынны ўдзел, эміграваў у Парыж, тэарэтычна абгрунтаваў адмену прыгону і стварэньне Беларуска-Літоўскай рэспублікі. У сакавіку 1833 году вярнуўся нелегальна ў Беларусь. Вёў агітацыю на Слонімшчыне й Навагарадчыне, стварыў партызанскі сялянскі атрад. Напрыканцы траўня атрад разьбілі. Гэта быў апошні, трагічны акорд вайны. Валовіч ва ўзросьце 27 гадоў быў павешаны. Дзьве згаслыя зоркі — дзяўчына й хлапец...

Дзе ж слава? Адам Міцкевіч прысьвяціў падзеям тае вайны сваю паэму «Дзяды». Магутным творам, зьвязаным з вайною, стаў паланэз «Разьвітаньне з Радзімаю» Агінскага, напісаны ў 1831 годзе. Сусьветная клясыка... Большага ў беларускай культуры пра тыя падзеі не сказана й да сёньня. На пачатку XX стагодзьдзя «Наша Ніва» згадала аднаго з натхняльнікаў таго вызвольнага руху, Сымона Канарскага, расстралянага ў Вільні. А зусім нядаўна скульптар Павал Лук стварыў невялікі барэльеф у гонар Эміліі Плятэр. Колькі словаў у кнігах Мальдзіса, Александровіча, Тарасава... Вось, бадай, і ўсё.

Чаму? Па-першае, усё ж польская традыцыя, узьнятая на шчыт «вялікай эміграцыяй», аказалася вызначальнаю. Гэта было на руку й расейцам, якія разьдзімалі «польскую ідэю», пераконваючы тым самым беларусаў у тым, што іхная гісторыя — зусім ня іхная, а чужая, польская. Менавіта пасьля тае вайны расейцы забаранілі нават згадваць назвы Беларусь і Літва. Па-другое, за савецкім часам гэтая вайна таксама атаясамлялася са шляхецкім закалотам, але выстаўлялася чужою нам ужо з сацыяльных прычынаў.

Чым стала вайна для нашай культуры? Наступствы паразы былі катастрафічныя. Тысячы людзей былі расстраляныя, павешаныя, сасланыя на катаргу. Дзясяткі тысячаў былі пазбаўленыя маёмасьці і шляхецкіх правоў. У князя Яўстаха Сапегі канфіскавалі маёнткі ў Ружанах і Дзярэчыне. Там былі велізарныя кнігазборы і ўнікальныя мастацкія калекцыі. Пры канфіскацыі толькі сьпіс карцінаў склаў 22 аркушы, а ювэлірных вырабаў з срэбра — 18...

Былі скасаваныя й выгнаныя ўсе каталіцкія кляштары. Ліквідаваная царкоўная Унія. Спынена дзеяньне Вялікага Статуту і зруйнаваныя многія старасьвецкія ратушы. Зачынены Віленскі ўнівэрсытэт. У мусульманаў скасавалі ўсе правы, забараніўшы нават рамантаваць мячэты. Палова нашых татараў загінула ў той вайне. Даверлівых сялянаў напаткаў прыгон новых, расейскіх паноў і рэкрутчына ў «маскалі»... Культурны й духоўны фон зьмяніўся непазнавальна менавіта пасьля 1831 году. Тыя калясальныя страты нічым не замененыя да сёньня...

**Гары Куманецкі**

# «БЕЗЫМЕННАЕ ПАЎСТАНЬНЕ»

*Гутарка з гісторыкам Генадзем Сагановічам пра паўстаньне 1831 году:*

*— Генадзь, з трох найбуйнейшых антырасейскіх паўстаньняў 18-19 ст. два замацаваліся ў сьвядомасьці публікі імёнамі правадыроў — Тадэвуша Касьцюшкі і Кастуся Каліноўскага. Магчыма, дзеля гэтага пра тыя паўстаньні і болей вядома, яны лягчэй затрымліваюцца ў памяці жывымі вобразамі. Якім імем можна было б акрэсьліць паўстаньне 1831 году ў беларускай гісторыі?*

— Паўстаньню 1831-га фатальна бракавала адзінага лідэра. Інсургенты дзейнічалі па паветах аўтаномна і разрозьнена. Паўстаючы, кожны павет ствараў свой паўстанцкі камітэт, зьбіраў войска і ставіў свайго камандзера. Акцыі не былі ні скаардынаванымі, ні адначасовымі. У паўночна-заходняй Беларусі дзейнічалі аддзелы Радзішэўскага, Барткевіча, Важынскага, у Навагрудзкім павеце паўстанцамі кіраваў Кашыц, у Пінскім – Пуслоўскі, на Мазыршчыне – Кеневіч, у Белавескай пушчы – Ронка ды іншыя. Агульны Часовы паўстанцкі ўрад быў утвораны толькі ў чэрвені, і Тышкевіч, які яго ачоліў, зусім не зьяўляўся лідэрам. Роля ж такіх паўстанцаў, як вядомы гісторык Міхал Балінскі, пісьменьнік Ян Ходзька, мастакі Напалеон Орда і Вікенці Дмахоўскі, не настолькі істотная, каб зь іх імёнамі атаясамляць увесь рух. Не надаецца тут і яркая постаць праслаўленай гераіні тых дзён Эміліі Плятар. Думаю, паўстаньне 1831 г. так і застанецца ў нашай гісторыі «безыменным»...

*— Такім чынам, гэтае пытаньне застаецца адкрытым. Гэтаксама як і пытаньне пра тое, ці залежыць наш інтарэс да гістарычнай падзеі ад таго, як яна называецца. Наступнае пытаньне — пра бітвы 1831 году і пра маштабы чалавечых стратаў.*

— Паколькі сілы інсургентаў заставаліся разрозьненымі, дык паўстаньне стала своеасаблівай «малой вайной» — сэрыяй лякальных бітваў і сутычак з расейскім войскам. І калі ў красавіку яны часта перамагалі, дык потым усё больш саступалі пераважным сілам карнікаў. Згадаю тут бітву пад Аўсянішкамі ля Вільні 20 красавіка, бітву ашмянскіх паўстанцаў з генэралам Атрошчанкам пад Вішневам 23 красавіка, бітву пад Румам на Ашмяншчыне 29 красавіка, бітву пад Глыбокім 15 траўня, а таксама бітву над ракой Ганьчай 28 і пад Лідай 31 траўня. Цяжкой была сеча пад Мазыром 11 чэрвеня. Адным з самых крывавых стаў міжбой аддзелу Пуслоўскага з рэгулярным расейскім войскам пад Невелем (на Піншчыне) 8 жніўня, у якім з тысячы інсургентаў палегла амаль палова. Але вырашальнай і, думаю, найбольш стратнай была бітва за Вільню 19 чэрвеня на т.зв. Панарскіх гарах. У ёй упершыню аб'яднана выступілі інсургенты шэрагу паветаў, а таксама польскае войска, прысланае на падмогу. На жаль, паўтарыць трыюмф 1794 г. гэтым разам не ўдалося. Паўстанцы мусілі адступаць, і гэтая параза падкасіла дух усяго руху.

*— Наўрад ці існуе статыстыка чалавечых стратаў за ўсё паўстаньне. Верагодна, такі ўлік вёўся ў расейскім рэгулярным войску. Што да паўстанцаў, дык вядома, што яны хавалі свае страты і імёны палеглых інсургентаў, каб пасьля не падстаўляць пад рэпрэсіі іхныя сем'і. Падобную сытуацыю, толькі ў іншым часе, апісаў у аповесьці на «Чорных лядах» Васіль Быкаў... Наступнае пытаньне датычыць нацыянальнае прыкметы паўстаньня 1831 году, якое найчасьцей называюць у нас «польскім». Скажы, калі ласка, Генадзь, як ахарактарызуеш яго ты, беларускі гісторык — з гледзішча Беларусі як суб'екта гісторыі?*

— Паўстанцкі рух на абшарах былога Вялікага Княства разьвіваўся дастаткова незалежна ад Польшчы. Ён ахапіў практычна ўсе беларускія губэрні і доўжыўся тут з красавіка па лістапад 1831 г. За гэты час на нашых землях у ім брала ўдзел 15



тысяч чалавек. Аналіз складу ўдзельнікаў паказвае, што гэтае паўстаньне не выпадае лічыць ні адно польскім, ані толькі шляхецкім. Так, шляхта зьяўлялася галоўнай сілай, але ў паўстаньні ўдзельнічалі ўсе станы, зь якіх асабліва ўражвае адсотак сялян: мужыкі-касінеры склалі больш за чвэрць усіх інсургентаў. Рэшта – гэта каталіцкія і ўніяцкія сьвятары, габрэі, мяшчане, студэнты. Так што рух быў фактычна народным.

Застаецца згадаць ідэі, якімі паўстанцы кіраваліся. Іх адозвы заклікалі люд «брацца за зброю, каб здабыць Айчыну і свабоду», дамагацца «вольнасьці і роўнасьці па праве». Пад «вольнасьцю» разумелася вызваленьне ад расейскай акупацыі, пад «правам» – законнасьць, традыцыя, справядлівасьць. Так, асноўнай мэтай барацьбы было аднаўленьне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., але гэта азначала – і ВКЛ як яе суб'екта: ліцьвіны раўніва берaглі самастойнасьць сваёй дзяржавы ў Рэчы Паспалітай, якая, памятайма, была зусім ня Польшчай. А ў дзяржаўнасьці Вялікага Княства ўвасабляўся сувэрэнітэт і беларускага народу. Таму з гледзішча нашае гісторыі паўстаньне 1831 г. ёсьць несумненна важнейшым этапам беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. І з усіх трох, бадай, найменш вядомым...

**Гары Куманецкі**

**Юльюш Славацкі**

## ПЕСЬНЯ ЛІТОЎСКАГА ЛЕГІЁНУ

**Быць Літве! Літва жывая!
Сонца ёй слугуе дбала.
Колькі сэрцаў б'ецца Краю,
Колькі біцца перастала.**

**Трэба быць каменем, каменем чэзлым,
Трываць аковы зь іржавай плесьняй;
Мы помсьціць мусім цьвярдым жалезам,
І вольнай думкай, і вольнай песьняй.**

**Вораг — з дарогі!
Песьня знурыла
Жмудзінскія рогі.
Езус Марыя! Наперад штосілы!
Навучылі нас тэўтоны
Так сьпяваць, як нам сьпявалі.
Легіёны! Легіёны!
На Русь! на Русь! далей! далей!**

**Як нас кіруюць валоскім шляхам,
З бацькоўскімі як нам расстацца крыжамі?
Хіба загадаем адвечным прахам:
Паўстаньце з трунаў! Хадзеце за намі!**

**Земства, хопіць змогі!
Песьня знурыла
Жмудзінскія рогі.
Езус Марыя! Наперад штосілы!**

**Навучылі нас тэўтоны
Так сьпяваць, як нам сьпявалі.
Легіёны! Легіёны!
На Русь! на Русь! далей! далей!**

**Калі цар Альгерда страшыў,
Той паслам казаў сурова:
«Як паходні згаснуць нашы,
Царава пачую слова!»**

**Сьвятой Айчыны заступнік годны
Абозам стаў на маскоўскіх горах,
Арлом з аблокаў аценіў горад,
Заняўся ясна ў дзень велікодны.**

**Вораг — з дарогі!
Песьня знурыла
Жмудзінскія рогі.
На гром Перуновы! наперад! штосілы!
Ягелонскі мур сталіцы
Расьцьвіце нам дыванамі;
Зірк дзяўчыны дасьць напіцца,
Сьмех абнашчыцца сьлязамі.**

**Вежа змыць імхі павінна,
Камень зь вежы песьня ўстурыць,
Прывітае камень хмуры
Дзеі ўнукаў Гедыміна.**

**Да Перамогі!
Песьня знурыла
Жмудзінскія крылы рогі.
Езус Марыя! Наперад! штосілы!
Навучылі нас тэўтоны
Так сьпяваць, як нам сьпявалі.
Легіёны! Легіёны!
На Русь! на Русь! далей! далей!**

**Аніхто ўжо не павінны
Запытаць у сьвету сёньня:
«Ці яшчэ жывуць ліцьвіны?»
Днее нашая Пагоня!**

**Ды не пытайце, чаму так мала
Харугваў лашчыць гневу залева?
Болей было нас, ды з тога дрэва
Ліст не аднюткі бура сарвала.**

**Знавальнічымся сьцягамі,
Барвы волі ў пашаноце.
Лецімо мы, а за намі
Арлы! арлы! арлы ў лёце.**

**Нам на галовы шарону зьвісьце
Грамы цярушаць — легіён канае —
Труну героя як лаўр аздабляе.
Хто прагне славы, рве лаўру лісьце.**

**Земства, хопіць змогі!
Песьня знурыла
Жмудзінскія рогі.
Езус Марыя! наперад! штосілы!**

*1830*

**З польскае мовы пераклаў Рыгор Барадулін**

# 40 МУЖОЎ ХАРОБРЫХ

Іх атрымалася недзе чалавек з сорак.

Хлопец, апрануты ва ўсё чорнае, зірнуў на вежу з гадзіньнікам. Стрэлкі ішлі да мэты з зайдроснай упартасьцю, ня рухаючыся на вачах, але не спыняючыся. Цяпер яны рыхтаваліся акрэсьліць на плоскасьці часу чвэрць цыфэрбляту, сысьціся ў простым куце. Але людзі ўжо не стаялі купкай, а выраўняліся ў карэ. Па цёмна-плямістых шыхтах у паўцемры скакалі вогненныя цені. Яны выхоплівалі таксама колеры трох палотнішчаў над галовамі. Колеры чырвані на белым тле.

Праз імгненьне звон сарваўся з вышыняў вежаў гарадзенскіх храмаў і накрыў сабой плошчу. Узрушэньне хваляй прайшло па тварах людзей з паходнямі. Званы бласлаўлялі крок.

— Бог нас чуе! — натхнёна выгукнуў адзін.

— Жыве Беларусь! — рэхам данеслася ў адказ.

«...Жыве вечна!» — зноў падумаў у гэты час Невядомы чалавек. Званы засьпелі яго непадалёк, на самым рагу плошчы. Абярнуўшыся, ён убачыў калёну — і ўсё зразумеў.

***

— Бойка ў Горадні? — перапытваюць мяне знаёмцы й незнаёмцы. Калегі, міліцыянты, апазыцыянэры. Большасьць зь іх кажа, што «чулі штось такое!..». Чуткі вакол гарадзенскага шэсьця растуць. Як трава ў красавіку. Як курс даляра.

— Гэта, напэўна, ня нашыя былі. Наш сьцяг маглі ўзяць расейскія фашысты... гэбісты... розныя правакатары.

А гэта кажа мой знаёмы міліцыянт. Знаёмы, між іншым, і сваім колішнім «паляваньнем» на менскіх вулічных акцыях. Потым амаль слова ў слова тое ж паўтарае знаёмы бээнэфавец, на якога некалі паляваў той міліцыянт. Потым, дэманструючы нумар «Навінаў» з шыхтом невядомых людзей, большасьць знаёмых даводзіць пра таемны візыт замежных экстрэмістаў. «Мо, то былі унсоўцы, мо, чачэнцы нават...». Добра, хоць сабе косаўскія альбанцы. Але... Чаму ўсё ж не беларусы?! Чаму мы самі ў сабе зьняверыліся з-за гэтай мазахісцкай «талерантнасьці»?!

Мы прывыклі, што «нашыя» — гэта значыць «вузкае кола гэтых рэвалюцыянэраў» і «страшна далёкія яны ад народу». І мы ўсіх іх ведаем у твар, акрамя хіба што паўмітычнага Мірона. Мы самі ня верым у магчымасьць посьпеху.

Урэшце адзін хлапец, якога ніяк не западозрыш у залішняй лаяльнасьці да рэжыму, урачыста абвяшчае: «І я там быў!» — і знаходзіць сябе на здымку ў «Навінах». У самым канцы шэрагу, дзе ні халеры не разгледзець. «Вы жадаеце падрабязнасьцяў? О, вы атрымаеце іх! Я там быў». Мёдпіва піў, шаноўны. На жаль, у Менску толькі. Сама бачыла.

У прынцыпе, някепска, што ўсім хочацца быць героямі. Але вось калі карціць здавацца імі — гэта гамон. Прыехалі.

І тут я ўспомніла пра Невядомага Чалавека. 25-га ён мусіў быць менавіта ў Горадні. Ён павінен быў абавязкова знайсьціся. Невядомы Чалавек (з вашага дазволу, буду працягваць называць яго гэтак) у героі ня рваўся, усяведа зь сябе ня ўдаваў. Такім ня трэба хлусіць.

Першыя ягоныя словы пры нашай сустрэчы:

— Што, і ты таксама «ішла ў апошнім шэрагу»?

Нават пакрыўдзіцца захацелася.

Вось што распавёў пра гарадзенскія падзеі іхны непасрэдны відавочца...

Яны прайшлі па Савецкай мэтраў сто, калі іх ужо чакалі. Дзьве машыны амону і адна — з «цывільнымі» міліцыянтамі. Амонаўцы былі ў бронекамізэльках і з аўтаматамі.

Пасьля таго як міліцыянты пабачылі шыхт моладзі ва ўніформах, у іх быў стрэс. Яны ня ведалі, што рабіць. Я чуў, як адзін пачаў крычаць нешта кшталту: «Я запрошу базу! Что нам делать? Я запрашу базу!..». У «цывільных» гэты шок прайшоў хутчэй. «Іх трэба спыняць!» — і яны паставілі ўпоперак шыхта міліцэйскі «ўазік».

Тады ў шыхце пачулася нейкая кароткая каманда. Калёна проста абышла машыну й рушыла далей — прыкладна ў той бок, дзе ў Горадні месьціцца чыгуначны вакзал.

Праз мэтраў пяцьдзясят міліцыянты пачалі рабіць на калёну дробныя напады ззаду. Так бы мовіць, са сьпіны, выбіваючы людзей з апошняга шэрагу. А на вуліцы пры гэтым было шмат народу. Некаторыя людзі спачатку пачалі абурацца, крычаць: «Гэтыя эрэн'ешнікі, фашысты, колькі можна, ужо й да нас дабраліся!» А потым пабачылі ў чале калёны тры вялікія бел-чырвона-белыя сьцягі ды прымоўклі. Зразумелі, што гэта не РНЕ, а нешта цалкам адваротнае. Вакол мяне пачуліся крыкі: «БНФ! БНФ! БНФ!» Сабраўся натоўп чалавек прыблізна ў дзьвесьце. Ды там, ля ўнівэрмагу на Савецкай, звычайна тусоўка моладзі...

Менавіта ля гэтага ўнівэрмагу і ўспыхнула бойка. Міліцыя атакавала ззаду. Атакі адбівалі. Частка хлопцаў зь першых шэрагаў падалася назад і дапамагала выхопліваць сваіх таварышаў, якіх пачалі хапаць амонаўцы. Рух наперад усё ж павольна працягваўся. Але тут падскочылі міліцыянты, якія ехалі напярэймы. Я налічыў, што там сабраліся два «ўазікі» і тры звычайныя патрульныя машыны. Падцягваліся яшчэ й міліцэйскія нарады з райаддзелаў. Калёна відавочна трапляла ў аблогу.

Тады я заўважыў: хлопцы, што йшлі наперадзе, становяцца ў больш шчыльны шыхт. І раптам пачулася: «Ру-бон! Ру-бон!»

Народ адразу сьціх. Такога ў Горадні ня бачылі яшчэ ні разу. Міліцыя пачала наскокваць на шыхт дэманстрантаў, але ў руках у тых палалі паходні. З боку глядзелася, быццам калёна ашчацінілася гэтымі паходнямі, як ёрш. З усіх бакоў, хто б ні спрабаваў сунуцца ўсярэдзіну — паўсюль мог натыкнуцца на вогнішча. Як я бачыў, адзін міліцыянт сапраўды натыкнуўся, абпаліўшы твар. Ён адразу выйшаў з гульні. Калёна паступова пачала прасоўвацца далей, да рогу Савецкай, дзе пачынаецца вуліца Ажэшкі.

І вось тут хлопцаў сапраўды пачалі браць у кола. Ужо пасьпела наехаць процьма машынаў. Відаць, дэманстранты вырашылі цьвёрда абараняцца далей, бо самі сталі ў кола. Я тады падумаў: у выпадку, калі б яны вырашылі прарываць кардон, у іх бы, напэўна, гэта атрымалася. Але — не, хлопцы гутарылі зь міліцыяй. Яны пыталіся, хто зь міліцыянтаў тут галоўны.

Дэманстранты прасілі міліцыю дазволіць ім прайсьці па вуліцы Ажэшкі, абяцалі адразу пасьля гэтага разысьціся й нічога не парушаць. Нехта з калёны напаўжарт прапанаваў амапаўцам таблеткі ад галаўнога болю. Мабыць, менавіта гэта іх і раззлавала. Пасьля сутычак яны й так не былі ў гуморы. Перамовы скончыліся тым, што амон пайшоў у атаку. Аднак першыя атакі зноў былі адбітыя.

Яшчэ пасьля таго, як калёна спакойна абышла першую міліцэйскую машыну, міліцыя рабіла выгляд, што гэтая машына вось-вось пратараніць шыхты. Пару разоў «уазік» разганяўся й на вялікай хуткасьці рэзка тармазіў перад самымі людзьмі. Можна было не на жарт спужацца, ня дзіва, што нехта пару разоў стукнуў па капоце. Там усе былі ў стане шоку — што адзін, што другі бок.

Частка людзей, што стаялі ў натоўпе разам са мною, пайшла біцца за гэтых невядомых хлопцаў. Знайшліся некалькі чалавек, якія кінуліся біцца таксама, але — у шэрагі міліцыі. Вельмі хутка гэтыя людзі некуды зьніклі. Такое ўражаньне, што сам амон іх і папляжыў там: адрозьніць, хто — што, было дужа цяжка. Усе ў шокавым стане, а тут яшчэ нейкія людзі мітусяцца! Мянты даўблі ўсіх, хто побач.

Утварылася кола паміж абаронцамі й назіральнікамі, і ў гэтым коле бегалі міліцыянты. Стаяў вэрхал; з самых першых сваіх нападаў на калёну большасьць міліцыянтаў кідалася на шэсьце з такой гатоўнасьцю, быццам даўно чакала выпадку...

Бачачы, што разагнаць хлопцаў не атрымліваецца, міліцыя ўжыла газ. Мне асабіста падалося, што скарысталі і звычайны газ, і «Чаромху» (апошняя была, хутчэй за ўсё, ў амона). З адлегласьці мэтраў у 50 — я мусіў адысьці — выпушчаны газ глядзеўся, як туман.

Хлопцы пачалі разьбягацца хто куды. Абараняцца было немагчыма: пазалівалі вочы, твары, там не было ўжо чым дыхаць. Частку адразу «павязалі». Паклалі на асфальт, білі дубінкамі і аўтаматамі. Толькі прыкладамі, «ствалямі», але было такое ўражаньне, што па іх гатовыя страляць.

Адразу ж ахова абклала вакзал, у бок якога рухалася шэсьце. Ператрасалі цягнікі, узьнялі ўсе пасты, якія маглі. Прыблізна апоўначы на вакзале было ўжо шмат «людзей у цывільным». Затрымлівалі ўсіх, нават малалетак, абы тыя мелі выгляд, хоць чымсь падобны да выгляду дэманстрантаў. Прыкметамі былі чорныя джынсы, чорныя курткі, «берцы» — вайсковыя боты на шнуроўцы. Асаблівую ўвагу зьвярталі на боты; хто быў у іх абуты — забіралі адразу безь лішніх «цырымоніяў». Я бачыў, як схапілі нейкага хлопца, можа ўдзельніка шэсьця, а мо й не. Твару ягонага я ня ведаў. Яго пасьля білі ў тупіку. Паставілі на расьцяжку ды мэтадычна зьбівалі. Пазьней высьветлілася, што разам з удзельнікамі забралі некалькі зусім выпадковых людзей, спрабавалі іх прышыць да справы.

Многіх з тых, хто адыходзіў, ратавалі самі гарадзенцы, мінакі, зусім незнаёмыя людзі. Гэтак цягнулася ўсю ноч. Усе, хто пасьпеў пачуць, што адбылося, сустракаючы ў горадзе хлопцаў з калёны, літаральна бралі за руку ды выводзілі ў бясьпечнае месца. Ранкам на месцы самай жорсткай бойкі нехта паклаў кветкі й бел-чырвона-белы сьцяг...»

Чамусьці ніхто нідзе яшчэ не згадаў адной цікавай дэталі: што адзін з удзельнікаў гарадзенскай акцыі пайшоў у міліцыю ды здаўся сам. Гэта, аднак, не была «яўка з павіннай». Менавіта гэты чалавек яшчэ перад пачаткам несанкцыяванай акцыі ўзяў на сябе ролю камандзіра. Потым ён ня мог стрываць таго, што ягоныя людзі з паламанымі касьцямі, пабітымі галовамі ня ўсе змаглі выбрацца зь месца пабоішча. Якраз пайшлі чуткі, што адзін з затрыманых нібыта патрапіў у рэанімацыю й можа памерці. Казалі, яго бачылі ў РАУСе непрытомным у лужыне крыві. Ніхто пакуль ня ведаў, што праўдай было толькі апошняе сьцьверджаньне.

Камандзір хлопцаў пайшоў па райаддзелах у пошуках затрыманых паплечнікаў. Калі верыць расповедам, выглядала гэта прыкладна так. У дзяжурку РАУСу заходзіць салідная выгляду дзядзька ў форменнай вопратцы і строга пытаецца, дзе арыштаваныя дэманстранты. Міліцыянты выцягваюцца перад ім у струнку (думаюць, што прыехала нейкая праверка) і рапартуюць, што хлопцаў тут няма. Толькі з трэцяй спробы ў трэцім пастарунку замест «стрункі» вынікам запыту сталася разгубленасьць іншага кшталту. Паклікалі начальніка.

Усю адказнасьць за акцыю камандзір хлопцаў узяў на сябе.

У інтэрвію мясцовай прэсе начальнік паведамляў аб дзесятку хуліганаў з гарадзенскага Маладога Фронту, якія пры выглядзе амону «адразу разьбегліся». Пры гэтым, зь ягоных словаў, асаблівых траўмаў не было. Між іншым, згодна зь міліцэйскімі апэратыўнымі зводкамі, для разгону дэманстрацыі былі скарыстаныя амон, ППСМ, спэцпадразьдзяленьні ўнутраных войскаў і апэрытыўна-вышуковыя службы міліцыі (паводле нашых зьвестак, усяго каля 350 чалавек).

Невядомы Чалавек распавёў, як пры затрыманьнях міліцыянты рэзалі на хлопцах на кавалкі камуфляжную форму. Але сапраўднае захапленьне выклікалі «трафэі» — скураныя папругі. У пастарунку некаторыя міліцыянты кінуліся тут жа прымяраць абноўкі, не зьвяртаючы ўвагі на затрыманых.

Пасьля сутачных адсідак па адміністратыўнай справе некаторых хлопцаў выклікалі для гутаркі ў КГБ. Гэбістаў найбольш зацікавіла кола, у якое дэманстранты выстраіліся дзеля абароны. Гутаркі яскрава дэманструюць, што ў нетрах лукашэнкаўскіх спэцслужбаў і зараз жыве трохгадовай даўніны «справа УНСО».

Адны ў Беларусі баяцца. Баяцца лёсу Тамары Віньнікавай, Генадзя Карпенкі, Арнольда Пячэрскага, Юрыя Захаранкі. Баяцца зьнікнуць. Знайшлося 40 мужоў харобрых. Якія не баяцца ўзьнікнуць.

**Таццяна Сьнітко**

# БЕЛАРУСЬ МЯЖУЕ

*Працяг са старонкі 1.*

**Пры ўсіх зьменах у грамадзкай сьвядомасьці па-ранейшаму пераважае стэрэатып ня дому, ня вуліцы, а Савецкага Саюзу. У той агромністай краіне было надзвычай цяжка ўяўляць сабе ўсіх суседзяў, зь якімі мяжуе шостая частка сушы. Палітычныя вятры па лініі ўсход — захад (гэта значыць, чырвоных і белых, нашых і немцаў) цалкам заглушылі геаграфічную прыродную повязь краіны з суседзямі «па вэртыкалі» — з балтамі на поўначы і ўкраінцамі на поўдні. Беларусь, зь якой рэкі расьцякаюцца ўверх і ўніз — у Батлыйскае і Чорнае мора — ужо мела ў сваёй гісторыі прыклад слушнага палітычнага саюзу — Вялікае Княства Літоўскае, якое праіснавала ў згодзе ажно 500 гадоў. З усходу і захаду Беларусь ведала толькі захопы і войны — гарачыя і халодныя. А таксама — неверагодныя прапагандысцкія прыступы з мэтай выцерці з нацыянальнай памяці тыя слаўныя 500 гадоў. Сёньня Беларусь па-ранейшаму перад выбарам. Прынамсі так мусіла б быць. Аднак пасьля апытаньня на вуліцах Менску, якое правёў Севярын Квяткоўскі, выбар падаецца гіпатэтычным. Людзей ня надта цікавіць дзіцячае пытаньне пра тое, з кім мяжуе іх краіна.**

**Прычыны такой недасьведчанасьці могуць быць рознымі — тут і выключна спажывецкае стаўленьне да жыцьця, правінцыялізм і парынутасьць у расейскім інфармацыйным полі, калі ўсе замежныя тэлевізійныя праграмы вяшчаюць з Масквы і больш ніадкуль, і прыглушанае патрыятычнае пачуцьцё. Прэзыдэнты Лукашэнка і Ельцын ужо дамовіліся, што беларускія межы будуць таксама і расейскімі і наадварот. Адсюль бярэ пачатак тая абсурдная сытуацыя, пра якую згадаў С.Квяткоўскі, калі літовец ня можа разабрацца, з кім усё ж мяжуе ягоная Літва на поўдні — з Расеяй ці зь Беларусяй. Адсюль бярэ працяг савецкі стэрэатып, калі для паспалітага беларуса ягоная краіна проста фізычна не зьмяшчалася ва ўяўленьні, не магла ўвабраць і Памір, і Таймыр, і касьмічную станцыю Мір. Для астатняга сьвету ўяўленьня проста не заставалася.**

**Зьміцер Бартосік параўнаў дзяржаўную мяжу зь дзьвярыма, а памежныя дзяржавы — з суседзямі на лесьвічнай клетцы. Праблема ў тым, што стальныя эўрадзьверы нашыя суседзі паставілі ад нас. Бо з нашага боку чакаюць выбухаў і пажараў. Ї калі Лукашэнка гаворыць, што Расея надзейна прыкрытая жывым беларускім шчытом, я думаю пра нашмат больш цывілізаваную Эўропу, якая не прыкрытая намі менавіта ад Расеі зь яе небясьпекаю развалу і краху як апошняй імпэрыі. Гэта ўжо не геаграфія, а паліталёгія. Аднак мяне не пакідае адчуваньне, што й яна паводле лёгікі — на ўзроўні дзіцячага саду. Нешта зламалася ў паспалітай сьвядомасьці менавіта на гэтым узроўні. Ня хочам ведаць.**

**Сяргей Харэўскі высьвятляў дакладны кілямэтраж беларускіх межаў. Гэтая справа заняла ў яго цэлы тыдзень. Аднак нельга сказаць, што вынік задаволіў. Бо мы ня толькі ня хочам ведаць межы свае краіны, але й ня можам іх ведаць. А гэта, у сваю чаргу, тоеснае іх адсутнасьці. Межаў няма. Дакладней, іх няма як фактару, зь якім трэба лічыцца.**

**Між іншым, неабвержнае патрабаваньне непарушнасьці межаў, якое падпісаў у Гэльсынкі яшчэ Брэжнеў і якое недзе ў 80-я гады паўтаралася на ўсіх узроўнях быццам нешта ледзь не сакральнае, на нашых вачах было праігнараванае і ня раз. Самым яскравым пракладам стала аб'яднаньне Нямеччыны. Слушна, вонкавыя межы засталіся нязьменнымі. Гэтаксама, як і ў выпадку зь Югаславіяй. Але. Ці заўважылі вы, як пры гэтым пытаньне непарушнасьці нібы «апускалася». Сёньня яно стаіць толькі ў дыпляматычных асяродках. Дзеля шырокае грамадзкасьці акцэнтаваць яго або стаміліся, або ня лічаць патрэбным. Што будзе далей? У кожным разе, мы маем справу з эвалюцыяй уяўленьняў.**

**Каб зразумець прыроду няведаньня, недаверу і нежаданьня ведаць, я прыгадаў рэфэрэндум, на якім беларускі народ адмовіўся ведаць бюджэт краіны. Чаму? Па-першае, усё адно ня скажуць праўды, па-другое — не сваё. Мяжа ў прынцыпе й важная, калі яна пазначае ўласнасьць. Згадайце ўсю клясычную беларускую літаратуру, дзе слова *мяжа* — гэта яшчэ не дзяржаўная мяжа, а граніца твайго кавалку зямлі. Або вазьміце сёньняшняга дачніка, які б ня ведаў межаў сваіх шасьці сотак. Нерэальна, праўда? Тое самае адбываецца і з краінай. Людзі, якія нібыта ўзялі на сябе адказнасьць за яе — дзяржаўны апарат — не разглядаюць яе як сваю ўласнасьць і таму ня ведаюць яе межаў. Робіцца зразумелым іхны інтэграцыйны экстаз, у якім яны імкнуцца далучыць Беларусь да Расеі, каб ужо там мысьліць сабе тэрыторыю ад Буга да Курыл. А нашае просьценькае пытаньне тут як лякмусавая паперка. Здаецца, толькі пашыр у краіне гэткае веданьне, і меншай стане пагроза незалежнасьці.**

**А пакуль адказ на пытаньне для беларускага дзіцячага садка выглядае няпэўна. Роўна настолькі, наколькі гэтая няпэўнасьць прымальная для палітыкаў і мінакоў зь менскіх вуліц, яна непрымальная для культурнага кантэксту. Краіна, воляю лёсу пасаджаная на ростанях эўрапейскіх дарог, якая пазначае сабою глябальныя межы Эўропы з Азіяй, паўночнай і паўднёвай эўрапейскіх культураў, мусіла б чэрпаць і чэрпаць са сваёй падлучанасьці да такіх розных культураў як украінская, літоўская, польская, расейская. А гэтае спрадвечнае перамалёўваньне беларускіх межаў, калі адразалі і прыразалі, калі разразалі Беларусь на часткі...**

**Ї тут варта да палітычнага і культурнага дадаць яшчэ адзін аспэкт. Гістарычны. У адрозьненьне ад усіх сваіх суседзяў, Беларусь на кожнай мяжы мае страты этнічнае тэрыторыі. Пераедзьце зь Віцебшчыны на Смаленшчыну або ў Латгалію, з Астравеччыны на Віленшчыну, з Горадні ў Беласток, з Гомеля на Чарнігаўшчыну, вы не заўважыце розьніцы ў выглядзе людзей, іх традыцыях і мове. У гэтым сэнсе Беларусь паўсюль мяжуе сама з сабой. Ї мяжа ў кожным выпадку праведзеная па жывым целе аднаго народу. Мяжа — як рана. Ці варта казаць, якое значэньне набывае кожны сантымэтар гэтага парэзу, ня кажучы ўжо пра кілямэтры і пералік краінаў, зь якімі мяжуе Беларусь.**

**Сяргей Паўлоўскі**



На вуліцах Менску я апытаў 50 маладых людзей ва ўзросьце ад 16 да 25 гадоў. Я задаваў адзінае пытаньне: зь якой колькасьцю краінаў мяжуе Рэспубліка Беларусь? Толькі сем юнакоў правільна адказалі адразу і ўпэўнена:

— Літва, Латвія, Расея, Польшча, Украіна — пяць.

Але зазвычай называлі то шэсьць, то чатыры і нават тры:

— Польшча, Украіна, Расея.

— Тры-чатыры.

— Пяць: Расея, Украіна, Польшча... Ну, напэўна, і ўсё.

— З трыма: Расея, Украіна, Польшча... яшчэ там нешта.

— Тры: Расея, Украіна, Югаславія.

Апошні адказ ня быў унікальным. Гэта сьведчыць ня толькі пра актуальнасьць балканскіх падзеяў для беларускай моладзі. Рэч у тым, што ня ўсе маладыя беларусы разумеюць сэнс слова *мяжа*:

— Як мяжуе? Польшча... Я ня ведаю, што акрамя Польшчы яшчэ. Літва, можа... Ну, Расея.

Не для ўсіх слова мяжа мае звычайны геаграфічны альбо палітычны сэнс. Мяжа – гэта калі сябруем, ці варагуем? Можа ў гэтым непаразуменьні прычына таго, што адныя забываліся назваць Расею, як, напрыклад, сяржант унутраных войскаў:

— Ня ведаю... Украіна, Польшча, Літва, Латвія... Што там яшчэ? Усё.

А іншыя называлі толькі Расею:

# ШТЫР



Ня так даўно я зарабляў сабе на хлеб уласнымі рукамі — разам з параю сябрукоў умацоўваў дзьвярныя скрыні з дапамогай жалезных штыроў і пэрфаратара. Галоўная задача гэтага занятку, як і любой халтуры, заключалася ня ў якасьці працы, а ў колькасьці кліентаў. І колькасьць гэтая залежала, у першую чаргу, ад нашага ўменьня працаваць языкамі. Паспрабуйце даказаць бабулі за кардоннымі дзьвярыма, выгляд якіх за сто гадоў не спакусіў ніводнага злодзея, што якраз ЦЯПЕР і настаў час для ўмацоўваньня крэпасьці. ЦЯПЕР, калі разам з цэнамі расьце крывая кватэрных крадзяжоў. Пасьля бабульчынай згоды і пяці хвілінаў працы ўсе былі задаволеныя. У сьцяну забіты штыр, які пераж ыве праўнукаў гаспадыні, а ў тваёй кішэні застаецца траціна яе пэнсіі.

Усім было зразумела, што штыры ў сьцяне не дададуць бабульцы анічога, акрамя хвіліны радасьці

# «СУСЕДЗЯЎ НЕ ВЫБІРАЮЦЬ...»



...У Вячаслава Адамчыка ў кнізе «Чужая бацькаўшчына» ёсьць эпізод пра тое, як заходнебеларускія сяляне чытаюць газэту. «Італія захапіла Альбанію, вайна будзе». «А дзе тая Альбанія, да нас, можа, і ня дойдзе». Наіўна, але слушна: Балканы – гэта вельмі далёка. І сёньня бліжэйшыя яны ня сталі...

Звыклае выслоўе набывае фатальны сэнс, калі гаворка ідзе пра суседнія краіны. Як далёка можна зайсьці ў маніпуляцыі геаграфічнымі паняткамі, відаць на прыкладзе імпартаванага з Расеі выразу «блізкае замежжа», якім пазначаная постсавецкая прастора. Атрымліваецца, што для беларуса Таджыкістан гэта «блізкае замежжа», а Польшча — «далёкае». Пасьля гэтага ўжо няцяжка пераканаць у тым, што наш сусед — Югаславія, якая ляжыць аж за трыма межамі на поўдзень ад Беларусі.

Далейшаю стала Латвія. Яна нам «больш не сусед», бо імкнецца ў ЭС і NATO. Між тым, кавалак мяжы з Латвіяй у Верхнядзьвінскім раёне — самы стары з усіх нашых межаў, усталяваны яшчэ ў 1924 годзе. З Латвіяй суседзяць яшчэ два раёны Беларусі: Браслаўскі і Мёрскі. Але ніхто пэўна не адкажа, колькі ж кілямэтраў цягнецца гэтая самая старая зь беларускіх межаў. Янка Запруднік у сваім «Гістарычным слоўніку Беларусі», які нядаўна выйшаў у Лёндане, скарыстаўся афіцыйнымі зьвесткамі беларускага Ўпраўленьня геадэзіі й картаг-

# САМА З САБОЙ

— З адной: Расея.

Часцяком забываліся ня толькі на Расею. Таксама на Польшчу, Літву і Ўкраіну. Але найбольш «пацярпела» Латвія. Пра нашую паўночную суседку забыліся дзесяць зь пяцідзесяці рэспандэнтаў. На адной з лаваў, да якой я падыйшоў з пытаньнем, разгарэлася цэлая спрэчка наконт таго, ці мяжуе Латвія зь Беларусяй...




Ці мусіць увогуле грамадзянін любой краіны ведаць усе краіны-суседкі? Калі так – у чым тады ўнікальнасьць беларускай сытуацыі?

— Я ведаю, з колькімі краінамі мяжуе Нямеччына — з шаснаццацю... А Беларусь — каля таго. З геаграфіяй у мяне было слаба ў школе. Ня ведаю. Не цікава.

Магчыма, старакацень адказаў вынікае з рознасьці геапалітычных арыенціраў кожнай асобы. Адзін езьдзіць да сваякоў ва Ўкраіну, другі — да сяброў у Піцер, трэці — па тавары ў Польшчу, у іншага старэйшы брат ганяе машыны зь Літвы, а ў таго бацька служыў у рыскім параходстве... Вось і ўся геаграфія, і школа тут ні пры чым. Літоўцы, пакуль не зьявіўся Лукашэнка, таксама доўга не маглі зразумець, з кім яны мяжуюць на поўдні: з Расеяй ці не зусім Расеяй. Але ж, урэшце, беларуская дзяржаўнасьць набыла хай сабе і выродлівыя, але больш-менш выразныя, прынамсі, для суседзяў, формы. Калі для беларусаў форма ўласнага дзяржаўнага йснаваньня акрэсьліцца і стане зразумелай, вернецца паняцтак дзяржаўнай мяжы, і тады суседзі зьбяруцца ў поўным складзе.

**Севярын Квяткоўскі**

й страты нялішняй капейкі. Вось толькі абмінуць бабульку ніяк нельга. Таму што менавіта яна становіцца тваім саюзьнікам на ўвесь працоўны вечар. Напэўна, не жадаючы заставацца ў самотных дурніцах, яна пачынае шумную агітацыю сярод суседзяў. І вось на роў твайго пэрфаратара зьбягаецца ледзь ня цэлы пад'езд. І дзякуючы хвалі, што падняла тая першая бабуля, цябе ўжо чакае чарга.

За ўвесь свой пэрфаратарны пэрыяд жыцьця я ўмацаваў ня менш за тры тысячы дзьвярных скрыняў. І па маіх падліках, можа якой пары соцень людзей гэта было насамрэч неабходна. Астатнія рабілі гэта інстынктыўна. Каб цаною ў тры даляры не выглядаць горш за суседзяў. Умацоўвалі свае сьмярдзючыя жылішчы нават самыя апошнія алкашы. Ня йначай, дзеля адной толькі фразы: «Хазяін, прынімай работу». Гэтым зваротам — хазяін — мы давалі ім магчымасьць хоць на хвіліну запаважаць саміх сябе. Але былі такія дзьверы, куды мы са сваімі штырамі ня соваліся. Гаспадары гэтых дзьвярэй моўчкі праходзілі паўз нашыя раскладзеныя прылады, толькі кінуўшы высакамерны пагляд на нашыя стараньні. Іх дзьверы, зробленыя зь якаснай сталі, напоўненыя, на выпадак выбуху, бэтонам, з густам аздобленыя шпонам, насілі гордую прыстаўку «эўра».

«Эх, нам усё роўна да эўрадзьвярэй не дажыць, украпляйце сваімі штырамі»...

Ужо тры гады мой пэрфаратар не палохае дзетак беларусаў. А гэтая мудрая фраза згадваецца да сёньня. Асабліва пры поглядзе на мапу Ўсходняй Эўропы. Хутка ўжо чатыры эўрадзьверы, наглуха задраеныя для бамжоў, паўстануць на нашай пляцоўцы. А мы ўсё мілуемся на свой аднойчы забіты штыр ды ломімся з агітацыяй ў самы загаджаны тамбур. Дзе нас не назавуць «хазяінам».

Але я ведаю — як бы, на першы погляд, мёртва штыр не зайшоў у бэтон, яму й там не пазьбегнуць карозіі. А эўрадзьверы сапраўды лепш. Паглядзіце, амаль усе суседзі паставілі.

**Зьміцер Бартосік**

рафіі, і падае лічбу ў 143 км. На розных сайтах у Інтэрнэце фігуруе лічба 141 кілямэтар, а на запыт у Латвійскім пасольстве ў Менску мне назвалі лічбу 157. Розьніца нібыта нязначная, аднак...

Разнабой у зьвестках пра кілямэтраж назіраецца і з усімі астатнімі беларускімі межамі. Пра Літву Ўпраўленьне геадэзіі й картаграфіі падае лічбу 462 кілямэтры. У інтэрнэтаўскіх даведніках — 502. Дзяржаўны літоўскі сайт называе 724 км. А прадстаўнік Літоўскага пасольства ў Менску — 650. Найбольш дакладнай выглядае інфармацыя літоўскага Дэпартамэнту памежнай паліцыі — 651,7.

Ну, няхай не пералічылі пакуль дэмаркацыю зь Літвою. А што ж з Польшчай, мяжу зь якой, калі верыць паданьням, пад лінарку правёў Сталін? Гэта, між іншым, самая «маладая» мяжа Беларусі, вызначаная толькі ў верасьні 1944 году. Дык вось жа і тут, зь нядаўняй мяжой СССР, пэўнасьці няма. У беларускіх картографаў, як і ў ангельскім слоўніку Запрудніка, падаецца лічба 399 кілямэтраў. У Інтэрнэце гэтая лічба павялічваецца ледзь не ўдвая, да 605 кілямэтраў! Давялося затэлефанаваць у Варшаву, у дзяржаўны Дэпартамэнт статыстыкі, дзе мне прапанавалі іншую, ужо трэцюю лічбу — 416 кілямэтраў.

Лішне казаць, што мяжа з Украінаю, па палескіх лясох ды балотах, наогул няпэўная. У афіцыйных беларускіх крыніцах яна складае 975 кілямэтраў. Інтэрнэтныя даведкі падаюць лічбу 891.

Затое вайсковы аташэ Ўкраіны ў Менску заявіў, што яны зыходзяць зь лічбы 1037 кілямэтраў.

Пры ўсёй заблытанасьці самай даўжэзнай застаецца наша мяжа з Расеяй. Паводле Ўпраўленьня геадэзіі й картаграфіі яна цягнецца на 990 кілямэтраў. Калі верыць Інтэрнэту, расейская мяжа ў нас нават меншая — 959 кілямэтраў. А вось жа прадстаўнік вайсковага аташэ з расейскае амбасады ў Менску запэўніў, што яны ў разьліках кіруюцца лічбаю 1239.

Беларускія картаграфія й статыстыка не карэктаваліся з савецкіх часоў, таму афіцыйныя зьвесткі насамрэч хібныя. За апошнія гады адбываліся новыя дэмаркацыі межаў новых дзяржаваў. Марна шукаць дакладную інфармацыю пра межы Беларусі ў беларускіх энцыклапэдыях. Яе там няма... У СССР яна была «сакрэтнай» і дадаткова скажалася, каб яе ня ведалі «ворагі», а ў РБ да гэтага не даходзяць рукі. Сёньня нашыя межы за нас вызначаюць нашыя суседзі.

**Сяргей Харэўскі**



100 ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТ.



# МІХАЛ СЕЎРУК. ЖНІВО

Прайсьці міма гэтае карціны ў залі Нацыянальнага мастацкага музэю немагчыма. Побач з усходнебеларускімі палотнамі трыццатых гадоў, тусклаватымі, нібы прыцярушанымі пылам, «Жніво» Сеўрука гледзіцца нечакана ярка, прадстаўляючы сабою заходнебеларускі жывапіс, дакладней, тую розьніцу шляхоў, па якіх было разыйшлося нашае мастацтва пасьля 1921 году.

Гэтым палатном Міхал Сеўрук дэбютаваў на прафэсійнай выставе, як самастойны мастак. За ягонымі плячыма ўжо быў мастацкі факультэт Віленскага ўнівэрсытэту і некалькі гадоў творчае практыкі. Упершыню яно прадстаўлялася на ўсепольскай выставе ў Варшаве, пасьля чаго атрымала шырокую вядомасьць. Крыху пазьней «Жніво» было набытае Беларускім музэем імя Івана Луцкевіча ў Вільні. З таго часу яно і ўяўлялася як нацыянальная клясыка, як квінтэсэнцыя тагачаснае беларускае эстэтыкі.

... Настаўнікамі Сеўрука ва ўнівэрсытэце былі: напачатку прафэсар Рушчыц, як і ў Сергіевіча, пасьля Сляндзінскі і Штурман. Акурат у тыя гады зорка Фэрдынанда Рушчыца была на схіле. Ён садыходзіў ад выкладчыцкае справы, але заахвочваў студэнцтва да экспэрымэнту. Жывы клясык, ад якога многія пераймалі імпрэсіяністычную манэру жывапіснае мовы. Сляндзінскі абагаўляў італьянскі Рэнэсанс і пільнаваў мастацтва кампазыцыі, дакладнасьць малюнку. Штурман, адзін з самых пасьлядоўных вучняў Рушчыца, прышчапляў прагу да гульні з колерамі, бясконцых фармальных пошукаў...

Кампазыцыйна гэтае палатно збудаванае зь некалькіх плянаў, у межах якіх разгортваюцца дадатковыя, адносна самастойныя сюжэты. Апроч кампазыцыйнае лякалізацыі, асобныя пляны маюць апрычоныя калярыстычныя гамы. Пярэдні плян, найбольш кантрасны й па тонах і па колерах, стаў цэнтрам кампазыцыі, зь якога і выбіраюцца таны для ўсяе карціны. Наступны плян, які дзеліць палатно па дыяганалі, створаны з халаднейшых паўтаноў. А трэці і далёкі чацьверты збудаваныя зь цёплых і чыстых, але зблізканых міжсобку фарбаў. Гэткім чынам палатно ўяўляе сабою складаную шматфігурную і разнастайную па колерах кампазыцыю, якая дазволіла мастаку свабодна разьмясьціць розных пэрсанажаў, зьнітаваных міжсобку агульным дзеяньнем. Жнівом.

Як глядзіш на гэтае палатно, міжволі прыгадваюцца сялянскія сцэны з раньніх галяндцаў і немцаў. Напрыклад, як у Брэйгеля, адна з карцінаў якога таксама завецца «Жніво». Таксама дыяганальная кампазыцыя, якая лучыць розныя фрагмэнты, і павялічаныя манумэнтальныя фігуры сялянаў у цяжкім напружаным дзеяньні. Падабенства ўзмацняецца і разнастайнымі элемэнтамі, запазычанымі зь іншых жанраў — пэйзажу, нацюрморту, партрэту. Аднак на гэтым падабенства і сканчаецца. Сеўруку не прыйшло ў галаву іранізаваць са сваіх пэрсанажаў, нават па-добраму. Ягоныя сяляне дэпэрсаніфікаваныя, пазбаўленыя нейкіх унутраных, псыхалягічных характарыстык. Гэта зьбіральныя вобразы — мадоны, старога, дзіцяці, сялянства наогул... Менавіта гэта і разьняволіла жывапісца, які вырашае шырэйшыя мастацкія задачы — экспэрымэнтуе з формаю і колерам.

Сэзанізм, гэтак гнаны ў БССР, знайшоў сваё ўвасабленьне ў творчасьці Сеўрука. Выяўляючы плястычны пачатак у рэчах, шукаючы тое агульнае, што іх лучыць, ён спрашчаў форму, будаваў прасторавыя аб'ёмы абрысамі каляровых плямаў, падкрэсьліваў важкасьць і рэальнасьць формаў праз больш і больш шчыльныя каляровыя дачыненьні. Сьвет тых рэчаў раскрываўся ў яго толькі з гледзішча формаў, аб'ёмаў, іх узаемнай сувязі ў прасторы і колеры. Простая паводле матываў кампазыцыя стала ўрачыстаю. Не дзякуючы сацыяльнай значнасьці, а — значнасьці матэрыяльнага сьвету наогул, які напоўнены спрадвечным і найважнейшым сэнсам.

«Жніво» створанае і на шэрагу канкрэтных асацыяцыяў, непарыўна зьвязаных зь беларускай мэнтальнасьцяй. Жанчына-карміцелька на жніве. І хрысьціянскі абраз, і дахрысьціянская Вэнэра. Урадлівасьць і жыцьцядайнасьць. Сівы дзед з касою. І Язэп, і Пан. Валадар жыцьця, які тое жыцьцё і зьберажэ. Каласы і сярпы. Хлеб і нож... Зялёная, як у выраі, трава, на якой раскладзеныя зямныя дары... Бадай ніводзін з твораў нашага мастацтва ў гэтым стагодзьдзі ня быў настолькі ж фармальны, як і архетыповы.

Гэтае палатно ацалела цудам. Сеўрук не дачакаўся прызнаньня ад савецкіх уладаў, якія не даравалі яму ані нацыяналізму, ані сэзанізму. Несавецкі мастак жыў іншым жыцьцём у сваім родным Нясьвіжы. Яго пэрсанальная выстава ў Менску адбылася толькі праз год пасьля сьмерці. А «Жніво» заняло сваё пачэснае месца ў музэйнай залі толькі разам зь беларускай незалежнасьцю.

**Сяргей Харэўскі**



**Міхал Сеўрук** (1905, Варшава — 1979, Нясьвіж) жывапісец, графік, пэдагог. Вучыўся ў Берасьці, Маскве, Нясьвіжы. Скончыў факультэт пекных мастацтваў Віленскага ўнівэрсытэту. Адзін з заснавальнікаў Віленскага таварыства мастакоў. Выкладаў у школах Нясьвіжу.

# НАРОДНЫЯ ПАЭТЫ І НАРОДНАЯ ПАЭЗІЯ

*Николай Герасимик, Полесский мёд, Минск, 1998 г., — 62 стар., 1000 ас.*




Сапраўдныя народныя паэты нічога агульнага ня маюць з тымі творцамі, якім такое званьне надаюць афіцыйна. Я думаю, што наяўнасьць або адсутнасьць народных паэтаў у віры жыцьця — варты даверу паказчык жыцьцёвай сілы ці, можа, калярыту існаваньня народу. Ісьляндцы, купачка народу, якіх і цяпер усяго пара соцень тысячаў, яшчэ ў тыя часы, калі рэшта Эўропы ня тое што пісаць ня ўмела, а і аборай хлеб краяла, змаглі стварыць магутную літаратуру, якая дасюль лічыцца адной зь вяршыняў сусьветнай культуры. Імёны паэтаў, што склалі ісьляндзкія сагі, невядомыя. Гэта былі народныя паэты.

Калі верыць Лакснэсу — а ня верыць яму няма ніякай падставы — то скальды (народныя паэты) і цяпер сустракаюцца ў Ісьляндыі таксама часта, як, прыкладам, авечкі.

Вы можаце не паверыць мне, але народныя паэты сустракаюцца ў Беларусі з той самай часьцінёю. Праўда, авечак у Беларусі ў шмат разоў менш, чымся ў Ісьляндыі. А людзей у столькі ж разоў больш, у колькі менш авечак. Таму і пра беларускія сагі нештачка не чуваць. Але народныя паэты ўсё ж ёсьць, і гэта ўсьцешвае.

Вось што я знаю пра некаторых зь іх.

Жыў у нашай Заказанцы такі Саўка Карнялюк, у маладыя гады, казала бабуля, вылучаўся ён тым, што ўмеў складна гаварыць і што ўсё нешта «шаптаў» ды вывешваў на дубе ля выгану паперкі зь вершамі. Байцоў чырвонай арміі ў 1939 годзе ён вітаў зь вершам на вуснах:

*Били, били пани нас,*
*Жити не давали,*
*По Ойчині ми не раз*
*Сльози проливали.*

*Сталін двери нам одкрив,*
*Нашому народу,*
*Діткам школи одчинив,*
*А старим — свободу.*

Мужыкі беглі да тых цыдулак наўздагон — папера была патрэбная на самакруткі, а было яе няшмат. Саўка зьведаў тыповы для паэта трагічны лёс — пры чаканых саветах, агледзеўшыся, стаў заўзятым аднаасобнікам з усімі адсюль наступствамі; сына расстралялі ў вайну тыя ж саветы як дэзэрціра з фронту. На маёй памяці ён, стары, сагнёны, у саламяным брылі цягаў з балота возікі зь вішай. Але ў калгас ня йшоў. Таму й пэнсіі яму не плацілі. Ягоных вершыкаў нас навучыла наша бабуля.

Другая сустрэча з творчасьцю сучаснага мне народнага паэта адбылася пазьней. Тата, які ў гады майго юнацтва працаваў у нейкай сельскагаспадарчай установе, з чарговай камандзіроўкі прывёз верш, які пачуў у Крытышыне ад агранома, і запісаў. Ён пачынаецца так:

*Вік од віку сохою горали*
*І косили траву-осоку,*
*Жали серпом, в снопочки в'язали*
*Слали рівно його на току.*

*Важкім ціпом його довго били,*
*Аж пекли мозолі на руках,*
*На печі тое зерне сушили*
*І жорнами мололи в руках.*

*Помитаю, як вносила мати*
*Діжку в хату зробити заміс,*
*Мене клала на запичку спати,*
*Шоб до тіста з руками не ліз...*

Верш спадабаўся і аграному, і тату, і мне, але імя аўтара ні тата, на аграном ня ведалі. Я праз многа лет пабачыла, што верш належыць Сяргею Мысаўцю (ужо нябожчыку), які працаваў брыгадзірам у вёсцы Місткі Драгічынскага раёну, і называецца «Баляда хлебу». Пабачыла я і як старыя людзі плачуць за апошнімі радкамі гэтага вершу:

*Їсти хліба — смачній, ніж поспати,*
*І за бавинки всі веселій...*
*Бачу й зара ше батька і хату,*
*маму, піч, свіжий хліб на столі.*

Пасьля ў газэце «Збудінне» я вычытала цудоўную «Песьню пра тое, як забілі камуністы Беленькага сына» (аўтар, на жаль, невядомы, бо пад акупацыяй за такі верш пагражаў расстрэл), сказ пра маладога партызана, якога з рэўнасьці загубіла дзяўчына, якой ён не заўважаў. Яна высачыла, калі ён прыйшоў да сваёй любай, і даказала гэбістам, дзе ён начуе.

Пра скальда Каляску пачула ад журналіста «Звязды» Валера Калінsocial Каліноўскага. Жыў гэты скальд у ваколіцах Моталя яшчэ дзесяць гадоў таму, бамжаваў, хадзіў ад вёскі да вёскі (ах як гэта нагадвае малявальніцу дываноў Алену Кіш, творы якой уваскрасіў цяпер ужо сам нябожчык, зямля яму пухам, Міхась Раманюк!), чытаў свае вершы ды апавяданьні, за што гаспадыні яго кармілі, а гаспадары дзяліліся табакай. Знаходзіліся людзі, што запісвалі за ім, і далей у яго сачыненьняў пачыналася самастойнае жыцьцё — у сьпісах яны вандравалі паміж тымі ж вёскамі, дзе хадзіў Каляска, і нават там, дзе не хадзіў. Валер чытаў яго аповедзікі, кажа — простыя й адточаныя гадамі і вякамі...

Пра гэтых людзей, пра народную паэзію мне ўспомнілася, калі ў рукі трапіла кніжка Мікалая Герасіміка. Ягоны верш я ўпершыню сустрэла ў 1989 годзе ў рамантычных «Балесах Полісся»:

*Я люблю заблудитись в росах*
*З полишучкою в літню ніч*
*І заплутатись в м'ятних косах,*
*Политіти з душою впріч.*

Ёсьць нешта сымпатычнае ў непрафэсіяналізме. Маю на ўвазе ня той агідны непрафэсіяналізм, калі чалавек робіць справу, за якую атрымлівае грошы, абы адчапіцца, як не сваімі рукамі. Маю на ўвазе непрафэсіяналізм таго кшталту, калі прыкладам, прафэсійны пчаляр Герасімік, прадаўшы мёд, вяртаецца з базару дадому і запісвае такія радкі

*У пчеловода пир горой:*

*Пришел из города домой,*

*Колбаски, пива, торт купил,*

*«Столичной» водки не забыл.*

*Пришли друзья из хуторов,*

*Соседи из других дворов,*

*Одетые, с подарками*

*И с женами, с доярками.*

Або так:

*—Зачем, — спросил меня сын, —*

*Скажи,*

*Выдумали люди ножи?..*

*Фильм смотрел я недавно с другом,*

*Люди резали там друг друга...*

*И сын продолжает вновь:*

*—На ножах оставалась кровь.*

*Папа,*

*Ты ведь большой, скажи,*

*Зачем выдумали ножи?*

Хібы гэтых радкоў з гледзішча кабінэтнай паэтыкі навідавоку, але якія цёплыя, знаёмыя карціны яны малююць! Якія блізкія яны да духу побыту тых людзей, чыё жыцьцё не назавеш ні гарадзкім, ні бясплённым. Асадэжньне пчалінага рою, восеньскае паляваньне на лісаў, размовы з жонкай, зварот да сына, думкі пра дачку, а яшчэ — таямнічае каханьне, што бянтэжыць, але не даецца забыць, — гэта тэмы вершаў Мікалая Герасіміка.

Думаю, адлюстраваньне такіх тэмаў — сьведчаньне багатага духоўнага жыцьця аўтара. Думаю, гадоў дзесяць-пятнаццаць таму ягоныя вершы мелі ўсе шансы быць перапісанымі ад рукі і хадзіць у сьпісах сярод вясковых дзяўчат (а мо й цяпер?). Дзяўчаты не зьвяртаюць увагі на недахопы і ляпы, бо расейскай мовай валодаюць яшчэ меней, чым паэт. Цяпер перапісваць вершы ад рукі сэнсу няма: прагрэс выдавецкіх тэхналёгіяў зрабіў цалкам магчымым выданьне сьціплай, без прэтэнзіяў, кніжкі, якую змогуць прачытаць усе, хто схоча. Паэт выказаўся.

Наагул, адзінае, што псуе цёплае пачуцьцё ад вершаў Герасіміка — гэта іх расейскамоўнасьць. Здаецца, на ўкраінскай паэт піша больш цэльна, бо няма таго разрыву паміж чысьцінёй вобразаў і зроку ды калькаванай, нясвойскай мовай, на беларускай — больш выкшталцона. Падзякаваўшы за прыемныя хвіліны, праведзеныя за чытаньнем, хочацца выказаць спадзеў, што, як і абяцае паэт, гэта апошняя ягоная кніжка па-расейску.

**Наталка Бабіна**

# ГІСТОРЫЯ, АРХІВЫ Й СПРАВАВОДЗТВА




*Архівы й справаводзтва. Навукова-практычны ілюстраваны часопіс. 1999. № 1, 2*

Часопіс «Беларуская мінуўшчына», згубіўшы каляровыя ілюстрацыі й пэўную схільнасьць да дылетанцтва, у нейкім сэнсе ўваскрос пад назвай «Архівы й справаводзтва» (галоўны рэдактар Сьвятаслаў Асіноўскі). Шкада «Мінуўшчыны», беларускай гістарыяграфіі яе будзе не ставаць. Але цяпер напэўна вядома, што нам не ставала й «Архіваў і справаводзтва», афіцыйнага органу Дзяржаўнага камітэту па архівах і справаводзтве, Беларускага навукова-дасьледчага інстытуту дакумэнтазнаўства й архіўнай справы і ўсё таго ж акадэмічнага Інстытуту гісторыі. Назва часопісу неяк падманвае чытача: быццам палова выданьня — гэта пра архівы, а другая палова — пра папяровыя справы. Папраўдзе ж, першая палова — пра гісторыю.

Як часопіс выйшаў з нэтраў архіўнага ведамства, дык гісторыкі на яго старонках зыходзяць ад канкрэтнага факту, ад дакумэнтаў. Гістарычныя працы набываюць канкрэтнасьці, але крыху губляюць у шыраце погляду на рэчаіснасьць. Ну, для таго на Беларусі ёсьць іншыя гістарычныя часопісы. Горш, калі гістарычныя працы пішуцца з ідэалягічнымі лёзунгамі ў якасьці пункту адліку. На жаль, і такія часопісы ёсьць. «Абавязковымі для аўтараў зьяўляюцца спасылкі на архіўныя й іншыя крыніцы», — гэты лёзунг рэдакцыі трэба вітаць. Цікава, як ён будзе стасавацца з проста супрацьлеглым дырэктывай нашых архіваў, якія зь сёлета запатрабавалі ад наведнікаў не даваць у друку дакладных спасылак на шыфры архіўных дакумэнтаў. Сваё выйсьце з тупіку прапанаваў Ігар Валахановіч, які сьціпла падпісаўся «супрацоўнік архіву КГБ РБ». Яго артыкул «Падпольле АУН на тэрыторыі Беларусі ў 1944--1952 гадах» утрымлівае 17 спасылак, ажно 14 зь якіх выглядаюць так: «Архіў КГБ РБ». Маўляў, там заўсёды можна спраўдзіць — жартуе аўтар. А праверыць ёсьць што. Напрыклад, на с. 19 гаворыцца, што пад час адной апэрацыі супраць антысавецкага падпольля на Берасьцейшыне й Піншчыне, якая праводзілася з 15 студзеня па 20 лютага 1945 году, савецкія войскі й сілы КГБ атачылі 839 населеных пунктаў, абшукалі 48 479 двароў, праверылі 165 137 чалавек, прачасалі 12 тыс. кв. км лясоў і балотаў. У выніку разрамілі 33 узброеныя групы, забілі 98 і арыштавалі 3808 чалавек. А на с. 20 канстатуецца, што за 1943—53 г. усяго ў Беларусі арыштавалі толькі 1282 украінскія нацыяналісты.

Прыхаваў архіўны шыфр дакумэнту й дасьледчык зусім іншага пэрыяду нашай мінуўшчыны — Яўген Анішчанка ў сваёй цікавай публікацыі невядомага раней дзёньніку апошняга сойму Рэчы Паспалітай 1793 г. Не далі пры публікацыі і шыфру дзёньніку нямецкага санітара Рудольфа Каспэра за 1943 г. Зьміцер Яцкевіч працягвае сэрыю матэрыялаў пра радаводы найбольш слаўных людзей беларускай зямлі, гэтым разам пра Адама Ганорыя Кіркора й Яўстафія Тышкевіча (цудоўная абяцае выйсьці кніга). Але й тут ніводнай спасылкі. Сум ад такой карціны разьвейвае толькі Алесь Смалянчук, які надрукаваў разам зь іх дакладнымі «адрасамі» колькі лістоў археолага Юзафа Ядкоўскага, якія ён дасылаў у 1914—1915 г. іншаму археолягу — Вандаліну Шукевічу. Лісты зьберагаюцца ў Варшаве, там дакладнасьць сапраўды шануюць.

З артыкулаў, напісаных не на архіўных матэрыялах, часопіс зьмяшчае публікацыі Сяргея Рассадзіна пра плямёны Ўсходняй Эўропы часоў Герадота й працы Вячаслава Чамярыцкага пра беларускія летапісы. Шмат ёсьць пра гісторыю архіваў — гэта публікацыя Андрэя Рыбакова пра дзяржаўны архіў Вялікага Княства Літоўскага ў XVI ст., нарысы Міхася Шумейкі й Сяргея Жумара пра Віленскую археаграфічную камісію й пра выбітнага архівіста Зьмітра Даўгялу. Ёсьць крыху пра іншыя гістарычныя сюжэты. Некалькі старонак — пра новыя кнігі й дысэртацыі па гісторыі, пра канфэрэнцыі й нарады, пра гістарычныя памятныя даты. Увогуле, «гістарычная дзялянка» часопісу вельмі шырокая і, здаецца, будзе ахопліваць усе перыяды гісторыі. Кожны знойдзе сваё.

Другая палова выданьня — пра справаводзтва. Яно ў Беларусі вядзецца вядома на якой мове, таму й гэта частка матэрыялаў на той самай «казённай» (ва ўсіх сэнсах) мове. Часопіс вучыць установы, як правільна весьці дакумэнтацыю, друкаваць бланкі, пісаць найменьні ўстановаў. Апошняе сапраўды цікава. Хто мае права на вялікія літары? Прапануецца пісаць «Савет Міністраў», але «Нацыянальны сход», «Палата прадстаўнікоў». Адразу бачна, хто галоўны. Усе суды — гэта «Суды». Усе цэнтральныя органы Саюзу Беларусі й Расеі (за выняткам небаракі Мытнага камітэту) маюць гонар пісаць зь вялікай літары кожнае слова ў сваім найменьні («Парлямэнцкі Сход» — гэта не беларускі «Нацыянальны сход»). Усе цэнтральныя органы Садружнасьці Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Расейскай Фэдэрацыі маюць тое самае права. Яго ня мае ніводны цэнтральны орган СНГ. Але, майстэрства вялікіх літар — гэта сапраўднае мастацтва.

Зь першага нумару часопіс пачаў публікаваць матэрыялы па вядзеньні й захаваньні электроннай дакумэнтацыі. Дасьць Бог, дзякуючы часопісу, дажывем да таго часу, калі пачне выходзіць і электронная вэрсія саміх «Архіваў і справаводзтва».

**Валеры Пазьнякоў**

*Працяг са старонкі 1.*

У творчых плянах выдавецтва «Наша Ніва», дзе выходзіць новая кніга Славаміра, ёсьць і яшчэ адно выданьне, зьвязанае з гэтым імем. Гэта кніга пра нерадзінарную зьяву — пра паэта ў турме КГБ. У Беларусі паэты не зьнявольваліся з часоў сталінскіх рэпрэсіяў. Нават у гады савецкае стагнацыі ўявіць сабе такую дэманстратыўную помсту з боку кіраўнічага рэжыму было цяжка.

Сярод постацяў, якія прыцягвалі ўвагу Славаміра Адамовіча — італьянскі паэт Габрыэле Д'Анунцыо. Хтосьці з крытыкаў злучыў імя нашага паэта ў бяспроігрышным, на першы погляд, параўнаньні з Маякоўскім. Кажу — на першы погляд, бо тут, між паэтамі, адсутнічае найважнейшае адзінства. Маякоўскі — імпэрац, чаго пра Адамовіча ніяк ня скажаш.

І ўсё ж параўнаньні з замежнікамі кульгаюць, бо Адамовіч занадта беларускі паэт — паводле рэаліяў, мэнтальнасьці, духовае энэргіі, крыві. І таму разгледжваць ягонае творчае паходжаньне найперш трэба ў беларускай традыцыі.

Паэты — людзі знакавыя. Варта мне было ў папулярнай інтэрнэтаўскай шукалцы «Альта Віста» зрабіць запыт на Адамовіча, і адказ быў не без падтэксту — шукалка знайшла 666 спасылак. Розныя там былі Адамовічы, але ўразіла найперш містычная лічба. Дарэчы, славуты вершык «Убей президента» даўно боўтаецца ў Інтэрнэце. І яшчэ дарэчы, ён перакладзены як мінімум на ангельскую і польскую мовы. Кажуць, вершык бяздарны, затое які пэрфоманс!

З прозьвішчам *Адамовіч* быццам бы ўсё ясна. А хто яшчэ ў беларускай літаратуры насіў імя Славамір? Быў такі аўтар, дакладней псэўдонім — Славамір Цыбаты, якім падпісваўся творца, што стаў культавым у позьнесавецкай беларускай літаратуры і прадмовы да кніг якога пісаў Васіль Быкаў. Я маю на ўвазе Ўладзімера Караткевіча. Ягоны энэргетычны збой, характар мысьленьня, ягонае літаратурная прырода — усё гэта не магло расьцярушыцца разам зь фізычнай сьмерцю пісьменьніка.

Нейкі час, зыходзячы з гістарычнай тэматыкі, ролю Караткевічавага наступніка прарочылі Ўладзімеру Арлову. Але Арлоў перарос гэтыя прароцтвы. Няўрымсьлівая энэргія і схільнасьць да інтэлектуальных правакацыяў Славаміра Цыбатага перацякла ў творы Славаміра Адамовіча.

І пакуль на стале маім горы папер і асадак, а на чыстым лісьце я пішу свой чарговы радок, ты ня зьнікнеш, зямля, і ня зьнікне твой вечны парадак, і наступнай вясной твае дрэвы распырскаюць сок.

Новая кніга Славаміра «Плавільшчыкі расы», якая выходзіць у выдавецтве «Наша Ніва», пацьвярджае гэтую пераемнасьць.

**Крыт.**

# «ПЛАВІЛЬШЧЫКІ РАСЫ»

## *Да выхаду ў сьвет кнігі выбраных вершаў Славаміра Адамовіча*

## ЧАЛАВЕК З-ЗА КРАТАЎ

У той дзень, два гады таму, мароз быў пякучы. Па дарозе да Віцебску, куды мы ехалі на адкрыцьцё судовага працэсу, зьмерзлі ўшчэнт. Уяўленьне малявала жудасныя карціны зьледзянелае вязьніцы, у якой канае ад сьцюжы беларускі паэт. Адвакат Гары Паганяйла супакойваў усіх і трымаўся жвава, ледзьве не з асалодаю прадчуваючы судовы двубой. Ягоная ўпэўненасьць нас сагравала.

Гаварылі толькі пра Адамовіча, перабіралі дэталі ягоных прыгодаў. Менавіта ў гэтай дарозе я даведаўся пра першую судзімасьць Славаміра. Некалі ён узяў ровар у хлопца, які заляцаўся да ягонае сястры. Кавалер падаў у суд. Сястра ажанілася зь іншым. А вось судзімасьць засталася. Глупства? Але ж адбылося яно менавіта з Адамовічам. Спадар Паганяйла заўважыў, што гэтак ужо наканавана, альбо, як кажуць, напісана на раду. Ці мала пісалася вершаў пра Лукашэнку? Ёсьць творы цалкам падсудныя паводле любых законаў, бараніць аўтараў якіх нават яму, адвакату, не выпадае. Але ж на прыцэл патрапіў адзін Адамовіч. Ня ён выбраў свой лёс, гэта лёс выбраў яго. Разважаючы пазьней над словамі адваката, я прыгадаў Адамовічаву паэзію: «антрацыты», «гіяцынты», «сьмех суккуб». Усё нібыта не зь яго. Мілітарныя й эратычныя «навароты» як наўмысна выпінаюцца зь ягоных радкоў, каб зарэтушаваць, завуаляваць ягонае «ego». І толькі зрэдку, нібыта праз выпадковы парэз ці жорсткую драпіну выяўляецца ён сам. Як у вершах з-за кратаў.

Раніцай перад будынкам суда таўкліся на сьнезе з тузін людзей, вызіраючы за кожны рог і гадаючы, адкуль прывязуць Адамовіча. Апэратары й фатографы ладавалі свой рыштунак, спадзеючыся «злавіць» удалы ракурс. Яго прывезьлі сапраўды нечакана. Скруціўшы, як толькі можна, некалькі чалавек у адно імгненьне ўвапхнулі яго зь дзьвярэй машыны ў задняя дзьверы суда. Рэпарцёры ў роспачы загулі...

Першае паседжаньне ледзь не было сарванае самім Адамовічам, які не жадаў выказваць давер суду.

...За кратамі недарэчна вясёлага блакітнага колеру стаяў стомлены зьнэрваваны чалавек зь зямліста-жоўтым тварам. Ягоная калматая з рудзіною барада і караценькія валасы надавалі яму падабенства з чачэнскім баявіком, якіх тады паказвалі штодзень у тэлевізары. Ён пачаў задзірацца з судзьдзём, то ўставаў, то сядаў, не адказваў на пытаньні. Вірлаваў шалёна вачыма і выскаляў зубы міліцыянтам. На просьбу Паганяйлы паседжаньне перанеслі, каб адвакат мог пагаварыць са сваім падабаронным.

Калі паседжаньне аднавілася, Адамовіч ужо быў у гуморы, пакладзіста адказваў на ўсе запыты, уважліва сачыў за сваім адвакатам. Але здавалася, што ён ужо вельмі далёка. У руках ён круціў новую кніжачку ўласных вершаў, што выйшла на волі. І раз-пораз шукаў вачыма сваіх сяброў у залі... Магчыма, зразумеў, што ён не адзін.

Тым часам працэс ішоў сваёй хадою. Маладзенькі перакладчык, які перакладаў зь беларускай суду і на беларускую Адамовічу, ужо ўвесь змакрэў. Па ягоным расчырванелым твары каціліся буйныя кроплі поту. Яшчэ крыху, і страціў бы прытомнасьць. Ён моцна бянтэжыўся, калі яго папраўляў чалавек з-за кратаў.

Суд перарваўся на полудзень. Адамовіча пакінулі ў клетцы. Пад час суду зьняволены ў Віцебску ня кормяць. Ніякімі ўгаворамі міліцыянтаў мы ня здолелі тады перадаць яму харчу. Пасьля было даўжэзнае беларуска-расейскае чытаньне справы. Заплаканы твар Адамовічавай маці. Ён сам ужо канчаткова згубіў цікавасьць да працэсу і, вымерханы, расьцягнуўся на лаве ў блакітнай клетцы. У залі вісела нясьцерпная задуха. Ад выгляду міліцэйскіх зімовых шапак мне стала млосна. Я выйшаў на двор.

Мяне сустрэў зыркі блакіт марознага неба свабоды. «... Блакітны чмель у белай конскай грыве...» Недарэчы прыйшла ў галаву думка, што краты для паэтаў, бадай, і мусяць быць вось гэткага колеру, як неба. Напэўна ў гэтую ж хвіліну нараджаўся новы Адамовічаў верш.

**Сяргей Харэўскі**

## АСЬЦЯРОЖНЫ МАДЭРН

У беларускай паэтычнай традыцыі Славамір Адамовіч належыць да «залатой сярэдзіны», якую запачаткавалі Максім Багдановіч, Якуб Колас... Ён глядзіць на Зямлю дзяціным позіркам, нібыта праз павелічальнае шкельца. Сьвет ягонай паэзіі населены яшчаркамі, ячхазтымі мухамі, восамі, чмялямі, кажанамі, валунамі, спарышамі...

*У прыполе начніц дагараюць там ясачкі зоркі,*
*А самотны пугач, тэрарыст глухадольных балот,*
*Штось «па фені» балбоча й ляціць яго крык за*
*пагоркі,*
*Дзе філоніць сава, дзе кажан зачапіўся за дрот...*

Зямны сьвет Адамовіча — пукаты, дэталёвы і, што вельмі істотна, любы ягонаму апісальніку й стваральніку. Прырода міталягізуецца паэтам і, паводле глыбіннага духу паганства, адушаўляецца. У Славаміра «камяні варушацца, як шчанюкі», з «глыбіні імкнуцца», «растуць». Ёсьць і наўпрост сьведчаньні ягонай паганскай прыхільнасьці: «Ты ня кідай на каўчэг мой гліну, а гронку воўчага лыку ўскладзі».

Гарадзкое жыцьцё хоць таксама міталягізуецца, але выдаецца не такім утульным, нават крыху варожым. У горадзе «Кантралёры з жэтонамі ловяць «зайцоў» за каўнер, Хтосьці з бруднай кавярні прыткнуўся за столікам з краю», «Пусты, як патэльня, пакой, дзе шпалеры, У цэмры блішчаць фасфарычным сьвятлом, Дзе сумныя ложкі, шалёныя дзьверы, Дзе ўсё, што ні знойдзеш, ёсьць мэталалом»...

На тле фармальных пошукаў у цяперашняй беларускай паэзіі Адамовіч выглядае даволі «традыцыйна». Ягоныя фармалістычныя «адхіленьні» і «ўхілы» ня лезуць у вочы, успрымаючыся адаптаванымі, асвойтанымі ў агульным «клясычным» рэчышчы. Я б назваў паэзію Адамовіча ў пляне формы асьцярожным мадэрнам.

Што тычыцца лексыкі вершаў, дык Славамір з добрым чуцьцём і смакам ужывае дыялектызмы й малаўжываныя словы (пахітоскі, акарына, рыдван, шугай, абарог, налой), стараславянізмы (векша), нэалягізмы й парадаксальныя словазлучэньні (брутальны прыпынак, блудадзеіць, атрасіны, відма, карміная цішыня), празаізмы й разнастайную тэрміналёгію (дзяржстрах, курс валют, $H_2O$). Паўтару, што ўжывае іх паэт вельмі густоўна й незаўважна для чытача.

Назва кнігі «Плавільшчыкі расы» і ейны эпіграф адпавядаюць новаму, што зьявілася ў творчасьці Славаміра апошніх чатырох гадоў. Гэта — налёт аўтабіяграфічнасьці, зьвязаны са зьняволеньнем і ўтрыманьнем у СІЗО КГБ, і нечаканая здольнасьць да палітычнае й бытавое сатыры. А самае галоўнае, гэта — зварот да ніцшэанскай «філязофіі жыцьця». Магчыма, гэта цалкам натуральны для Славаміра зварот-пераварот, які некалі адбыўся й з Арцюрам Рэмбо ў "Адным леце ў пекле", магчыма — цудоўная імітацыя.

Выхад кнігі Славаміра Адамовіча станецца падзеяй у беларускай паэзіі, дзе сёньня, побач зь нязвыклай і нечуванай раней разнастайнасьцю, ня склалася яшчэ новая шкала каштоўнасьцяў і пануе хаос.

**Алег Мінкін**

## РЫА-РЫТА

На Новы год я атрымаў паштоўку. Нічога дзіўнага ў тым, што сябра павіншаваў з Калядамі, вядома, не было. Калі б ня пара акалічнасьцяў. Паштоўка прыйшла з суседняй вуліцы. І аддрукаваныя гэты шэдэўр з выявам шампанскага на тле Спаскай вежы быў на фабрыцы Гознака ў 1959-м годзе. Каб здагадацца, ад каго прыйшло нагэтульні стыльнае віншаваньне, чытаць подпіс было неабавязкова.

Упершыню я яго ўбачыў сярод тлуму й дыму грандыёзнай папойкі ў бары Дому літаратараў. Такія папойкі нярэдка здараліся напачатку 90-х. Ён прыцягнуў маю ўвагу перш за ўсё сваім зьнешнім антуражам. У ім усё з выклікам дысанавала з дваццацігадовай даўніны інтэр'ерам казённага кабачка для «сярэдняга зьвяна». Неверагодны канфігурацыі капялюш, галіфэ ўзору НКВД, як на парад надраеныя высачэзныя афіцэрскія боты. І давяршаўся гэты маскарад незвычайнай жывасьці поглядам. З такімі позіркамі альбо выклікаюць на дуэль, альбо адкрываюцца ў каханьні.

Пасьля мы пазнаёміліся. На пытаньне «Вы хто?» чалавек адказаў: «Паэт», — прычым з такой інтанацыяй неабвержнасьці дадзенага факту, быццам назваў сваё воінскае званьне. Але пачуўшы ў той жа вечар «Я ніколі ня лашчыў радкі свае, Я іх біў па скулах і рэбрах, Каб яны рассыпаліся іскрамі І былі камусьці патрэбны», я больш ня меў сумневаў наконт таго, з кім маю справу. Пасьля былі блуканьні агульнай кампаніяй па начным Менску, дзе на мосьце празь Сьвіслач я йзноў зьдзівіўся, наколькі чалавек у галіфэ адпавядае непрэтэнцыёзнаму менскаму ампіру. «Ну, артыст, — думаў я тады, — толькі кабуры не хапае».

Пра тое, што артыст іграе абраную ролю ўсур'ёз, я даведаюся крыху пазьней. Калі да ягонага факстротнага вобразу дададуцца словы «арышт», «амэрыканка», «галадоўка», «рэанімацыя». І словы расейскага паэта Кушнера «Времена не выбирают, в них живут и умирают» упершыню не пададуцца мне аксіёмаю. У Беларусі можна абраць сабе часіну на густ. І ня толькі пры дапамозе прычоскі ці дызайнускай пакрою гарнітура.

Але летась, на вечаровай узьбярэжнай паміраючага крымскага курорту, куды нас занёс журналісцкі лёс, я ізноў глядзеў на яго, нібы ўпершыню. Дзівячыся, як парою дакладна могуць супасьці вобраз і відарыс, зьмест і форма. І справа тут ня ў моры, не ў вясёлых гуках джазбанды, што разносіліся далёка ўздоўж берагу, і не ў аскепках прамінулае эпохі — усіх гэтых балясінах ды калянадах. А ў тым, дзеля чаго жывуць паэты. Ён убачыў сваю музу. Яна, тыповая пастаральная пастушка, зь вялікімі блакітнымі вачыма гандлявала нейкімі бясхітраснымі сувэнірамі. І наўрад ці чакала сустрэчы з кавалерам у ядвабным гальштуку. Дагэтуль незвычайна ашчадны, ён скупіў ледзь не палову яе тавару і павёў у бліжэйшы дансінг. Яна, у сваёй паркалёвай сукенцы і танных сандалетах і ён, у шырокага пакрою гарнітуры і ў капелюшы, сярод джынсы, скуры ды аглушальных дзцыбэлаў выглядалі пэрсанажамі з даўно забытага кіно. Ён тэатральна запрасіў яе на танец пад нейкую папсовую драбядзень, што неслася з магнітафону. Але ў ягоным танцы ўсё роўна ўгадвалася «Рыа-Рыта». А я сядзеў у куточку, жлукцячы піва ды ціха ненавідзеў сваю ролю статыста ў ягоным спэктаклі.

Мне цяжка ўявіць сытуацыю, пры якой я асабіста апрану на сябе галіфэ й хромавыя боты. І наўрад ці я кардынальна памяняю свае густы ў бок пышнагрудых «міс 48-мы год». І шыракаполыя капелюшы мне таксама не пасуюць. Мне застаецца адно цытаваць. І калі раптам цёплаю летняю ноччу я апынуся ў кампаніі нейкай пані, якая, мілуючыся на роўны адбітак поўні ў водах Сьвіслачы, прагне ад мяне паэзіі, мне ня трэба доўга напружваць памяць у пошуку адпаведнага моманту радочка. Я кажу ёй: «Магчыма, я кахаю, Але ня так, як вы; Магчыма, я хаваю Пад пахай нож крывы, І вы не рызыкуйце Са мной ісьці ў кіно — Я блытаю часамі Жывую кроў з віном»...

На дзень народзінаў паэт падараваў мне кішанковы гадзіньнік. Ягоны мэханізм ня спыніцца, пакуль мая памяць будзе захоўваць паштоўку з далёкай вуліцы Сурганава і аблічча яе аўтара. Невысокага чалавека з поглядам сямнаццацігадовага, бязьмежна захаханага юнака, у дарагім капелюшы, зь сівізною ў валасах.

**Зьміцер Бартосік**

## Чэслаў Мілаш

# ПРЫДАРОЖНЫ САБАЧКА



*Летась Чэслаў Мілаш, вяльможны патрыярх літаратуры, атрымаў сваю чарговую значную ўзнагароду: за кнігу «Прыдарожны сабачка» аўтарытэтнае журы адзначыла нобэлеўскага ляўрэата найпрэстыжнейшай польскай літаратурнай прэміяй «Nike». «Прыдарожны сабачка» — пад такім агульным загалоўкам пабачылі сьвет творы, напісаньня ў адпаведнасьці з выбранай Мілашам дырэктываю «пошуку больш ёмістае формы». У гэтай кнізе новыя вершы, мэдытацыі, успаміны, своеасаблівыя тэалягічныя мініттрактаты, паэтавы разважаньні пра ўласнае жыцьцё й творчасьць. Калі акрэсьліваць максымальна сьціслa, можна сказаць: «Прыдарожны сабачка» — гэта пранікліва пагляд на ўсялякія рэчы нашага з вамі сьвету.*

*«НН» прапануе фрагмэнты з «Прыдарожнага сабачкі» — як здаецца ўжо сёньня, адной з найбольш значэнных і важных Мілашавых кніг.*

**Прыдарожны сабачка**

На спазнаваньне маёй зямлі я выбраўся параконным возам, зь вялікімі запасамі фуражу і з бляшаным грукатлівым вядром. Вядро патрэбнае, каб напаіць коні. Я спазнаваў паветы гайкоў і пагоркаў, спазнаваў паветы пушчанскія, у якіх дым клубіцца па-над падворкамі, нібыта гарыць нешта, а ўсё таму, што хаты курныя. Або ехаў я праз польныя ды азёрныя аколіцы. Як жа цікава пасоўвацца так наперад і патолю даць, і чакаць, аж паволі з-за дрэваў пакажацца вёска далавах або парк, і ў ім бель сядзібы. І зараз усчынаў праз нас зьвягу сабачка, старанны ў выкананьні сваіх абавязкаў. Быў тады пачатак стагодзьдзя, цяпер — канец. Я думаў ня толькі пра людзей, якія жылі там, думаў таксама пра пакаленьні сабачкаў, што людзём у штодзённай мітусьні спадарожылі, і аднаго разу, немаведама скуль, пэўне, у сьне пад ранак, паявіўся гэты сьмешны й мілы назоў: «прыдарожны сабачка».

**Пошукі**

Адчуваньне, што *мусіць* існаваць такое спалучэньне словаў, у якое была б нейкім чынам схопленая іста жахлівасьці, спазнанай у гэтым стагодзьдзі. І чытаньне дзёньнікаў, успамінаў, рэпартажоў, раманаў, вершаў, заўсёды з надзеяй і з тым самым вынікам: «Гэта — ня тое». Толькі нясьмела мацнее думка, што праўда аб лёсе чалавека на зямлі іншая, чым тая, якой нас вучылі. Мы пазьбягаем яе называць.

**На месцы Тварца**

Калі б далі табе ўладу стварыць нанова сьвет, ты б думаў а думаў і ўрэшце б высанаваў, што ня ўдасца вымысьліць нічога лепшага за той, які існуе. Сядзь у каўні й паглядай на мінакоў. Згода, маглі б гэта быць істоты зь целам нематэрыяльным, не падлеглым праміраньню, хваробам і сьмерці. Але ж якраз бясконцае багацьце, складанасьць, разнастайнасьць зямных рэчаў паходзіць ад залучанае ў іх супярэчнасьці. Розум бы ня вабіў, каб жа ня тое, што напамінае пра яго закарэненасьць у матэрыі: рэзьні, шпіталі, клады, парнафільмы. І наадварот, фізіялягічныя патрэбы прыгняталі б сваёй жывёльнаю тупасьцю, каб жа ня розум, які сваволіць і ўзносіцца над імі. Праўдавіца сьвядомасьці, іронія, не магла б практыкавацца ў сваіх улюбёных занятках — падгляданьні цела. Выходзіць так, што Тварца, этычныя матывы якога людзі навучыліся падводзіць пад сумнеў, кіраваўся перш за ўсё жаданьнем, каб было як мага цікавей і як мага забаўней.

**Апяваць багоў і герояў**

Розьніца паміж такою паэзіяй, у якой «я» апявадае пра сябе, і тою, якая «апявае багоў і герояў», невялікая, бо ў абодвух выпадках прадметам апісаньня стаюцца міталягізаваныя стварэньні. І ўсё ж...

**Удзячны**

Я ўдзячны за тое, што некалі, даўно, у драўляным касьцёліку паміж дубоў прынялі мяне ў рымска-каталіцкі Касьцёл. А таксама за тое, што меў я доўгае жыцьцё і мог, верачы ці ня верачы, разважаць пра дзьве тысячы гадоў маёй гісторыі.

Д'ябальская гэтая гісторыя, і на столькі ж набёсная. Мы збудавалі месты, большыя за Ерусалім, Рым і Александрыю. Нашыя караблі абплылі акіяны. Нашыя тэолягі змайстравалі сылягізмы. І адразу пачалося зьмяненьне плянэты Зямля. Каб жа мы хаця б не ўсьведамлялі, але не. Ніякай нявіннасьці ў нашых паходах крыжа й меча.

**Немагчымае**

У тым палягае тайніца крыжа,

Што з агіднага снадзіва катаваньняў зроблены знак збаўленьня.

Як жа людзі могуць ня мысьліць, што носіцца імі ў іхных касьцёлах?

Пакаральны агонь няхай зьнішчыць фундамэнты сьвету.

**Загана**

Паэзія і ўсякае мастацтва — гэта загана, якая напамінае людзкой супольнасьці, што мы не здаровыя, хаця нам было б цяжка ў гэтым прызнацца.

**Дзяцінасьць**

Паэт як дзіця сярод дарослых. Ён ведае, што ён дзяціны, і змушаны безупынку рабіць выгляд, што ўдзельнічае ў дзеяньнях ды звычаях дарослых.

Загана: сьвядомасьць дзіцяці ў сабе. Гэта значыць, наіўна-эмацыйнага стварэньня, якое ўвесь час перабывае пад пагрозай рогату сталых людзей.

**Ня той**

Я й яны. Наколькі можна ў іх пранікнуць? Паэт ведае, што яны прымаюць яго за кагось інакшага, чым ён ёсьць, і што будзе так пасьля яго сьмерці, і не зьняпраўдзіць гэтага ніводзін знак з таго сьвету.

**Мінуўшчына**

Мінуўшчына — недакладная. Той, хто доўга жыве, ведае, як усё, што ён бачыў на свае вочы, вельмі абрасло плёткамі, легендамі, дэталямі — разраслося або здрабнела. «Гэта было зусім ня так!» — ён хацеў бы закрычаць, але не закрычыць, бо ўсе б толькі пабачылі, як варушацца вусны, і не пачулі б голасу.

**Сіла мовы**

«Тое, чаго не прамовілі, імкне ў неісnаваньне»: гэта здумляе — мысьліць пра мноства падзеяў XX ст. і пра засталых у іх людзей, разумеючы, што кожная з тых сытуацыяў заслугоўвала на эпас, трагедыю або лірычную паэму. І нічога, сышлі, пакідаючы ледзь значны след. Можна сказаць, што нат найбольш магутная, крывістая, дзейная асоба ў параўнаньні з трапным спалучэньнем некалькіх словаў, хай хоць бы апісаньнем месяцу на ўсходзе, застаецца ўсяго толькі ценем.

**Лекцыя**

Доўгае жыцьцё. Але ж яно — вынік мэдычнае веды. Ён ведаў хваробу, якая павяліла б яго, калі б ня выпісаныя й спраўна прыманыя штодня лекі. Таму не падтрымліваў тых, якія кпяць з ідэяў прагрэсу.

**Сумнеў**

Я быў, быццам нехта з ранаю жывата, нехта, які бяжыць, трымаючы кніжкі, каб ня выпалі. Праўда, я ведаў, што ня я адзін. Але чалавек, змушаны няспынна думаць пра сваю рану, ці можа сьведчыць разумна?

**Калі б я вёў дзёньнік**

Калі б я вёў дзёньнік, такі, напрыклад, як Налкоўская й Дамброўская, адно тады была б нагода зьдзівіцца, бо нічога б не супадала з маім вобразам, зафіксаваным у вачох чытачоў. Мае нутраныя мучэньні маглі б падацца хваравітымі (якімі й былі), але разам з тым кантраст паміж імі й маёй упорнасьцю ў працы здабываў бы, відаць, пашану. Аднак я не хачу пісаць такога дзёньніка, не хачу сябе раскрываць. Бо, урэшце, каму б з гэтага быў пажытак, апрача гісторыкаў літаратуры?

**Мужчынскі**

Усьведамляе суперніцтва. Напяўшыся. Чуйнуе. Гатовы пабегчы. Агрэсіўна мысьліць. Ведае лепей за іншых. Папраўца сьвету. Перажывае гадамі кожнае паражэньне. Кідае асуджальныя вырокі. Няздатны пагадзіцца з самім сабой.

А жанчына паглядае на гэта з усьмешкаю, ведае, што ён заняты рэчмі, якія праміналюць і ня маюць ніякага значэньня.

**Талеранцыя**

З гадамі зьнікала ягоная зацятасьць, але разам з талеранцыяй разрастаўся ўсюдысны сумнеў. Ён сядзеў у цемры перад сцэнаю тэатру марыянэтак і глядзеў пагоні іхныя, маленьні, задаваньні, каяты, пазнаючы ў гэтым сваё глупства.

**Самапагарда**

Чаму палякі схільныя ўсюдых бачыць зраду й кідаюцца словам «зраднік» у дачыненьні да кожнага, хто — так ці начай — адхінецца? А затым, што носяць у сабе сьвядомасьць уласнае пагарды да сваёй нацы й сьвядомасьць уласнага жаданьня адарвацца ад гэтай, званай імі ніжэйшаю, супольнасьці.

**Нязломнасьць**

Чужнікі не маглі ведаць, што крылася за нязломнасьцю гэтага чалавека, але я, маючы перадваенны досьвед, не павінны быў патрапіць у аблуду. Шмат якія паддаліся камунізму, таму што ён апэляваў да найлепшых рысаў іхнае палітычнае натуры. Але былі й такія, што ўмелі ўстояць, бо ім у гэтым дапамагалі рысы найгоршыя.

**Вымысьць**

Пры канцы жыцьця думае сабе паэт: «Якіх жа я толькі ня зьведаў маніяў і дуратлівых парываньняў майго часу! Усадзіць бы мяне ў ванну дый шараваць дзень і ноч, пакуль увесь бруд гэты зь мяне не сплыве. А ўсё ж, толькі з прычыны гэтага бруду я мог быць паэтам дваццатага стагодзьдзя, і, мабыць, так хацеў Спадар Бог, каб мець зь мяне карысьць».

**Даты**

Нарадзіўся ён, дапусьцім, у 1811-ым. А жывучы шчэ ў 1896-ым, ці ж ён меў турбавацца аб тым, што станецца з людзтвам, зь яго краем, зь яго местам у XX ст.? Улучаны цалкам у звычаі й клопат свайго асяродзьдзя, ён знаходзіў поўна работы — даваў ацэнкі сваім сучасьнікам, іхным паглядам, зьдзейсьненьням, хаўрусам і гэтак далей. А ўжо нарыхтоўваліся жахі XX веку, якіх яму ня выпала пабачыць. Дантэ, гаворачы з асуджанымі ў Пекле, ужо ведаў, што здарылася пазьней, пасьля сьмерці гэных нешчасьліўцаў. Але што новы Дантэ, пішучы, дапусьцім, у 1960-ым, мог бы сказаць духам з папярэдняй гістарычнае пары?

**Каб гэта**

Каб жа льга было верыць, што із сьмерцю скончыцца ўсё! Тады б не было боязі, што нам будуць паказваць нашыя ўчынкі й несьціся будзе магутны сьмех. Ані боязі, што нашую правіцыю, якой былі адданыя, мы будзем назіраць у поўным сьведам'і, бясьсільныя перад аблудамі й ліхадзействам люду. І будзе нам прыпамінацца клопат Міцкевіча, які казаў, што духу надта цяжка дзеяць бязь цела.

**Беззаганнасьць**

Калі я быў, як гаворыцца, пагадзіўшыся з Богам і сьветам, то адчуваў сябе ненатуральна, нібы пераймаў каго. Вяртаў сабе сваю індывідуальнасьць, калі зноў апынаўся ў скуры грэшніка й недаверка. Гэта паўтаралася ў маім жыцьці не адзін раз. Бо я, безумоўна, любіў вобраз сябе як беззаганнага чалавека, але адразу ж пасьля надзяваньня сабе ягонае маскі сумленьне падшэптвала, што я ўсяго толькі ашукваю іншых і сябе.

Панятак *sacrum* патрэбны, але немагчымы без зазнаваньня грэху. Я заплямлены, я грэшнік, я нягодны, і гэта нат не праз мае ўчынкі, а дзеля зла, якое сядзіць ува мне. І толькі прызнаючы, што ня мне сягаць завысока, я адчуваю сябе аўтэнтычным.

**85 гадоў**

Гэты мой юбілей, гэтыя краскі, гэтыя воплескі, гэтыя тосты. Калі б ведалі, што я думаю. Было гэта, як халоднае важаньне прыбыткаў і страт. Страты — гэта аблудныя словы, якія выйшлі з-пад майго пяра, ужо не вярнуць, бо яны надрукаваныя й застаюцца назаўжды, але яны акурат будуць для людзей найболей звабнымі і найчасьцей будуць паўтарацца. Дык жа я пытаўся ў сябе, ці так мусіць быць, што напісаць пэўную колькасьць дапраўды добрых рэчаў можна толькі плацячы, ня толькі скрыўленьнем свайго жыцьця, такога, як маё, але таксама сьмецьцем, адкідамі па дарозе да пары знакаў, дасканала чыстых.

**Жальба клясыка**

Жальба клясыка, то бо такога паэта, які замест авангардавых пошукаў займаўся шліфаваньнем мовы сваіх папярэднікаў: «Але ж я выдатна ведаў, як мала сьвету сіляе сетка маіх фраз і сказаў. Быццам манах, што асуджае сябе на аскетызм, на перасьледы эратычнымі відзежамі, я хаваўся ў рытм і слоўнае суладзьдзе ад страху перад уласным хаосам».

**У тым месьце**

Гэта быў труп места. Дазваньня зьліквідавалі руіны, парупіліся пра абсаду й кветнікі, паставілі лаўкі ў сьвежараззначаных сквэрах. Толькі людзей не было. Рэдчас пара турыстаў прыпынялася пад сьцяною й сьлібізавала літары мэмарыяльнае дошкі.

**Адкуль гэта бярэцца**

Адкуль гэта бярэцца? — пытаньне. Гэтыя дваццацігадовыя вусны, лёгка ўвільготненыя кармінам, каштанавыя валасы вязкамі, занадта свабодна, каб сказаць — струкамі, гэтыя паглядныя вочы ў аправе веек і броваў, што вяшчуюць? Чаму я скуголю, уражаны яе харашнёй? Яна нарадзілася тады, калі я выкладаў Дастаеўскага, спрабуючы даць рады разуменьню, што я — стары. То ж няма канца іх нараджэньню нанова, і, каб жа мог жыць далей, ізноў канаў бы ў любосным захапленьні?

**Стратэгія**

Быў там усюдых, у цягніку, што вёз у лягеры дэпартаваных, у месьце, якое дрыжэла ад страху перад званком у дзьверы на сьвітанку, у вязьніцы, адкуль выводзілі й пакавалі ў цяжарнікі асуджаных на расстрэл. Ненавідзеў Імпэрыю, але мусіў гэта скрываць. Быў паэтам, а ўспамінаньне, што тое дзеецца тут побач, адначасна, зрабіла б немагчымым напісаньне вершаў. Апроч таго, ён пісаў жа для тых, якія, хоць бы нат і ведалі тэарэтычна, не хацелі пераносіцца туды ўяўленьнем. З такіх вось прычын, адчуваючы, што парушае абавязак сьведчыць, ён шукаў спосабу, як, складаючы словы, захаваць нявымаўленую прысутнасьць таго паміж словамі й радкамі.

**Там**

Але, я паехаў туды й апынуўся ў краіне маіх трынаццаці гадоў. Я быў там той самы, бо з тым самым пачуцьцём кірунку. Рэчка, дарога ўяжджаць ад галоўнай дарогі, лес — лева, проста, направа. Усё зьмянілася, але кірунак застаўся. Гэта як бы мінула ня колькі дзесяткоў, а колькі сотняў год, і я нат ня вельмі непакоіўся, ці сосны тыя самыя, ці вырасла новае пакаленьне соснаў.

**Літасьць**

У дзявятай дэкадзе майго жыцьця пачуцьцём, якое ўва мне нарастае й мяне напаўняе, ёсьць літасьць, зь ёю немаведама што зрабіць. Мноства, вялізарнае мноства твараў, постацяў, лёсаў паасобных людзей і манера атаясамліваць сябе з імі ад глыбіняў іхных душаў, а разам з тым усьведамленьне, што я ўжо не знайду спосабу, каб маім гэтым гасьцём ахвяраваць дом у маіх вершах, бо ўжо запозна. Думаю таксама, што калі б пачынаў я нанова, то кожны мой верш быў бы жыцьцяпісам або партрэтам нейкае канкрэтнае асобы, а праўдзівей, галашэньнем над яе доляй.

**Пераклаў з польскае Юрась Бушлякоў**

## Умбэрта Эка

# РАЗБОР «КАМУНІСТЫЧНАГА МАНІФЭСТУ» (1848)

*ДА 150-ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ*

Наўрад ці таленавітыя тэксты могуць зьмяніць сьвет. Дантава «Камэдыя» зусім не палегчыла італьянскім камунам перамогі над Сьвятой Рымскай імпэрыяй. Аднак «Маніфэст камуністычнай партыі», падобна, моцна паўплываў на падзеі апошніх 150 гадоў. Давайце разгледзім ягоную мастацкую структуру, хаця б з глядзішча нязвыклага рыторыка-аргумэнтацыйнага багацьця.

Вэнэсуэльскі літаратуразнавец Людавіка Сыльва аналізуе эвалюцыю Маркса-пісьменьніка (ня ведаю, ці знаеце: Маркс складаў у тым ліку і вершыкі, прычым, як сьведчаць сучасьнікі, паскудныя). Шкада, што Сыльва прысьвячае «Маніфэсту» толькі пару радкоў, пэўна, з-за таго, што «Маніфэст» быў створаны ў суаўтарстве. Між тым у гэтым прыўкрасным тэксьце іронія ўмела спалучаецца з апакаліптычнымі інтанацыямі, кідкія лёзунгі — з раскладаньнем па палічках, і (калі б капіталістычнае грамадзтва захацела сяк-так кампэнсаваць шкоду, нанесеную яму з-за гэных пары старонак) яго трэ' было б ужываць як навучальны матэрыял для сцэнарыстаў-рэклямаробаў.

Усё пачынаецца грамавым набатам у духу Пятай сымфоніі Бэтховэна: «Прывід ходзіць па Эўропе!» Ня будзем забывацца, што ў гэты час літаратура яшчэ недалёка адышла ад перадрамантычнай і рамантычнай готыкі і што прывіды для яе — пэрсанажы, якіх прымаюць сур'ёзна. Пасьля на хапок распавядаецца пра клясавую барацьбу ад эпохі Старажытнага Рыму да зараджэньня й фармаваньня буржуазіі, і старонкі, прысьвечаныя перамогам яе, складаюць ейны гераічны эпас, актуальны, як на думку адэптаў вольнага рынку, дасёньня.

Гэтая новая нястрымная сіла распаўзаецца па ўсёй зямлі (што й паказана, амаль як у мультфільме), шукаючы збыту для тавараў, і абкладае ўсю плянэту. Тут, па-мойму, жыдоўскае, мэсыянскае ў Марксе падказвае яму сапраўды біблейны патас.

Гэтая сіла бунтуе й ператтварае далёкія краіны, бо нізкія кошты на тавары руйнуюць любую кітайскую сьцяну лепей, чым самая цяжкая гармата. Гэтая сіла закладае і разьвівае гарады як сымбаль і апору сваёй улады. Яна перарастае ў сілу міжнародную, усеплянэтную, спараджае, у прыватнасьці, і літаратуру ўжо не нацыянальнага, а сусьветнага маштабу...

Пры канцы гэтага харалю (ад якога ў слухачоў дух займае) наступае кульмінацыя: чараўнік ня можа апанаваць энэргію, якую сам спарадзіў: ён, переможца, задыхаецца ад перавытворчасьці. І зь ягонага ўлоньня вырываецца далакоп, які яго пахавае — пралетарыят.

Хадою ўдумнай выходзіць на авансцэну гэтая найноўшая магута, дагэтуль разьяднаная, разгубленая, што выпускала пару, разбураючы машыны. Але буржуазіі ўдаецца выкарыстаць яе як штурмавы атрад, і работнікі дабіваюць ворагаў свайго ворага: абсалютныя манархіі, лятыфундыі, дробную буржуазію.

Пастунова пралетарыят паглынае тых сваіх праціўнікаў, якіх буйная буржуазія зьвяла да стану бедакоў: рамесьнікаў, гандляроў, сялянаў. Пратэст набывае арганізаваныя формы. Работнікі наводзяць кантакты з дапамогай новых сродкаў, распрацаваных буржуазіяй для ўласнай раскошы. У «Маніфэсьце» маюцца на ўвазе шляхі зносінаў, чыгункі, але мы можам уявіць сабе іншыя сродкі масавай камунікацыі.

Тут надыходзіць час выйсьця на сцэну камуністаў. Перш чым вызначыць у праграмнай форме, хто яны такія і чаго ім трэба, «Маніфэст» (бліскучым прыёмам рыторыкі!) быццам бы пачынае гаварыць ад імя пераляканага камуністамі, зьбітага з панталыку буржуа:

— Вы хочаце скасаваць уласнасьць? Вы хочаце абагульніць жанчынаў? Хочаце зруйнаваць рэлігію, бацькаўшчыну, сям'ю?

І тут гульня робіцца вельмі тонкай, бо «Маніфэст» адказвае на ўсе гэтыя пытаньні быццам бы супакойваючы, нібы хочучы залагодзіць праціўніка, — але потым раптам б'е яму пад дых пад бурныя воплескі пралетарскай галёркі.

Што, скасаваньне ўласнасьці? Ды не зусім... Стасункі ўласнасьці заўсёды зьмяняліся... Хіба не Француская рэвалюцыя перайначыла фэадальную ўласнасьць у буржуазную? Ці мы хочам скасаваць прыватную ўласнасьць? Дурасьць! Ды яе не існуе, вы гаворыце аб тым, чым валодае дзясятая частка насельніцтва, якая сядзіць на гарбе ў дзевяці дзясятых... Ах, вы баіцёся за «сваю» ўласнасьць!? Так, менавіта «вашу» ўласнасьць мы й хочам прыбраць!

Абагульненьне жанчынаў? Кіньце, мы проста зьбіраемся вызваліць іх ад ролі прыладаў вытворчасьці. Ды вы ўжо самі даўно абагульнілі жанок, і карыстаецеся з працы жонак пралетараў, адылі, маючы сваіх жанок, спакушаеце яшчэ й жанок такіх сама буржуа, як вы!

Адняць бацькаўшчыну? Ды што вы? Як можна забраць у работнікаў тое, чаго ў іх няма? Мы якраз і хочам, каб пралетары ўсіх краінаў набылі супольную айчыну!

І далей у тым самым духу, аж да шэдэўру ўхіленьня ад адказу, якім ёсьць адказ наконт рэлігіі. Інтуітыўна яно ясна, што адказ такі: «Гэтую рэлігію мы хочам зьнішчыць». Але адкрыта гэта не гаворыцца. Закрануўшы такую дэлікатную тэму, тэкст віхляе, хаваецца за намёкамі, што, маўляў, любыя пераўтварэньні маюць цану, але далібог, ня мае сэнсу проста з моста вырашаць такія вострыя праблемы.

Пасьля пачынаецца тэарэтычная частка — праграмныя прынцыпы, крытыка розных сацыялізмаў, — але чытач ужо захоплены папярэднімі старонкамі, і тэарэтычны граніт яго не палохае, затое тых, хто дабраўся да фіналу, чакае вялікі прыз, збавенны выбух, два абсалютна забойныя лёзунгі, простыя, запамінальныя, бездакорна-дзейсныя, як па-мойму: «Пралетарам няма чаго губляць, акрамя сваіх кайданоў» і «Пралетары ўсіх краін, яднайцеся!»

Дасягнуўшы гэткіх паэтычных і мэтафарычных вышыняў, «Маніфэст» і дагэтуль застаецца выбітным помнікам палітычнага (і ня толькі палітычнага) аратарства. Я рэкамэндую праходзіць яго ў пятай клясе разам з Цыцэронавымі прамовамі супраць Катыліны і маналёгам Марка Антонія над целам Юлія Цэзара ў трагедыі Шэкспіра.

**Пераклаў зь італьянскай А.В.**

## Васіль Быкаў

# БАЙКІ ЖЫЦЬЦЯ

*Трыпціх**

## *3. Жах*

Пачалося ўсё нават прыстойна — здатна, па-людзку й дэмакратычна.

Сабраны ў залі бязладны, гаманкі, дужа амбітны парлямэнт тры дні біўся над велізарнай праблемай будучага кіраўніка дзяржавы. Сам парлямэнт кіраваць ня ўмеў, а галоўнае — не хацеў, бо хацеў толькі выступаць у тэлевізары ды езьдзіць па замежжы — прэзэнтаваць краіну, якую апроч мытнікаў ніхто болей ня ведаў. Вельмі складана было вызначыць назву кіраўніка, які б пад наглядам парлямэнту кіраваў краінай, — хто гэта будзе: цар, сакратар, загадчык, гаўляйтар? Дэпутаты зьнемагліся ў спрэчках. Дайшло да таго, што пачуліся прапановы: ня трэба ніякага кіраўніка, хай будзе анархія. Тое, вядома, было небясьпечна, і небясьпека недзе была ўчутая й перададзеная куды належыць. І вось позна ўвечары, калі парлямэнтары дарэшты стаміліся і ўжо кепска разумелі, у авальнай залі паседжаньняў згасла сьвятло, загрымеў нечуваны гром, будынак затросься, аднекуль з-пад купалу шуганула шэрым сьмярдзючым дымам, зь якога выскачыў ЁН. Ад яго сыпаліся іскры (такая зыходзіла энэргія), праменіла фіялетавае зьзяньне; постаць яго цьмяна нагадвала чалавечую і вібравала так, што нельга было сфакусаваць зрок і зразумець, што ж гэта — здань, цмок ці няўжо — чалавек? Сьпікер парлямэнту дрыготкім голасам запытаўся: «Хто вы?», ды, замест таго, каб атрымаць адказ, кулём паляцеў з застольля аж у славуты «задні праход». Грымотным голасам здань абвесьціла:

— Я — Жах!

Парлямэнтароў бы памялом вымела з залі, засталася адно жменька тых, каго жах спаралізаваў. Але й тыя да канца жыцьця не маглі вымавіць нічога, апроч «так-так», «не-не». Зрэшты, іншага ад іх і не патрабавалася. Да канца жыцьця.

Першым указам Жах аб'явіў, што нічога ранейшага не застанецца, усё ад сёньня ліквідоўваецца, бо нічога й не было ніколі: ні сьмехавітаў, ні дзяржавы, ні мовы. Ёсьць толькі — Жах, ягоныя людзі — жахліўцы. З тым і трэба лічыцца.

Народу было ўсё роўна, ёсьць ён, народ, ці няма й як ён называецца. Да рэгулярнага пераймянаваньня людзі прывыклі даўно — заўжды пераймяноўвалі гарады, паселішчы, вуліцы, імёны. Шмат хто ўжо заблытаўся, як яго называць — Уладлен, Вілен, Матарызацыя, Эмансыпацыя. Іншыя маці ня ведалі, як клікаць каторага дзіцёнка, бо ўсе рэсурсы іхнай памяці са школьнай пары выдаткоўваліся на тое, каб запомніць імя чарговага сакратара — першага, другога, трэцяга — ЦК, абкаму, гаркаму, райкаму, сельсавету, саўгасу, калгасу... А было, што шэфа й гаўляйтара. Усё тое было добра знаёма народу. Сьпярша, праўда, цяжкавата было прывыкнуць да думкі, што яго, народу, няма й наагул не было ніколі. Тут трэ было мець асаблівую навуку, каб сьцяміць тое. Але й гэта ня надта важна, і да таго можна з часам прывыкнуць, калі сыстэматычна й па-навуковаму трэніраваць памяць. Вось толькі паўставала праблема: як трэніраваць яе, калі, як аб'явіў таварыш Жах, у людзей няма (і не было) мовы? Тая, на якой людзі восем стагодзьдзяў мовілі, была аб'яўлена трасянкай, нявартай чалавечага роту, і ліквідоўвалася, бы крамола. Усю літаратуру на ёй перапрацавалі на макулатуру, за тутэйшае слова, вымаўленае на вуліцы, паліцыянты білі даўжэзнымі гумавымі палкамі (дэмакратызатарамі) і цягнулі ў пастарунак. Людзі зьненавідзелі тыя «дэмакратызатары», а заадно — і дэмакратыю з дэмакратамі, якіх на загад Жаха перайменавалі ў «дзермакратаў». Таварыша Жаха, аднак, падабалі, бо ён, хоць і быў строгі, але справядлівы — саджаў у турму шмат, але ж ня ўсіх. Толькі тых, хто высоўваўся, засьвечваўся, не згаджаўся. А што забраў гісторыю — такой бяды! З гісторыі штаноў не пашыеш. Мову? Можна пражыць і бяз мовы. Вунь зьвяры ў лесе зусім не размаўляюць, а жывуць лепш за людзей. А тое, што людзей няма (не было й ня будзе), дык тое, можа, і лепей — будзе болей парадку.

Горш было тое, што не было чаго есьці, на краіну насоўваўся голад.

Сьпярша ня стала яек, пасьля малака, масла, сьмятаны. На тое Жах аб'явіў, што вінаватая пражэрлівая апазыцыя, якая ўсё зжарае сама, ні каліва не пакідаючы народу. Каб не зжарала, трэба яе зьліквідаваць, для чаго наёмнымі профі былі распрацаваныя адпаведныя праекты. Плянавалася гэта зрабіць у часе мітынгу, быццам бы рукамі сваіх жа абдзеленых на ежу функцыянэраў. Але дасканалы плян дачасу раскрылі, і галоўныя таўстапузыя аб'ядалы ўцяклі за мяжу. І тым ня менш, прадукты прападалі: зьнікла каўбаса, мяса, сыр і твораг. Мудры таварыш Жах і тут даў геніяльны адказ: прадукты вывозяць з краіны на паветраных балёнах, адзін зь іх ужо зьбіты, герояў-зьнішчальнікаў вітала краіна. Каб яна канчаткова адчула сябе ў бясьпецы, выкінулі з пасольстваў заходніх паслоў, — хай ня сочаць за інтымнымі сакрэтамі любага Жаха. Усё тое дужа падабалася жахліўцам і, мабыць, падабалася б яшчэ болей, калі б з продажу пакрысе ня зьнік і хлеб. Тады любы народам Жах абвясьціў новую стратэгічную дактрыну: ня трэба есьці. Бо гэтая старасьвецкая завядзёнка вельмі абыходзіцца дзяржаве, зьнясільвае бюджэт і скарачае асыгнаваньні на зброю, безь якой дзяржава абысьціся ня можа. На жаль, у адрозьненьне ад ранейшых кіраўнічых заклікаў, гэты ўспрымаўся слаба. Нягледзячы на вялікія растлумачальна-агітацыйна-прапагандовыя высілкі, жахліўцы працягвалі хацець есьці й дзе толькі можна шукалі ежу.

Выйсьця не было інакшага, як толькі ажаніцца з прынцэсай суседняй дзяржавы, якая (дзяржава) звалася Дзяржавай-Раем і ў якой паводле дакладаў сакрэтных агентаў было ўсё: і народ, і электарат, і культура, і мова. Паводле ня надта праверaных зьвестак быў нават хлеб. Тая вестка надта абнадзеіла Жаха, які тут жа ўспомніў пра дзедаўскую практыку дынастычных шлюбаў, што зрабілі магутнымі валадарамі не аднаго захудалага князька дохлага княства. Жаніцца, жаніцца! Жах не любіў вагацца й на другі ж дзень паслаў сватоў.

*Заканчэньне, пачатак у папярэдніх нумарах.





## Адам Глёбус

# КУЛЬТУРЫ І СТЫЛІ

*З кнігі «Кішэнная гісторыя культуры»*



**Эгіпэт**

Тутанхамон дагэтуль вучыць жанчын, і некаторых мужчын гэтаксама, як трэба падфарбоўваць вочы, каб падабацца. Ты толькі паглядзі на ягоную залатую маску.

**Эгіпэт і Рубэнс**

Ёсьць пытаньні значныя, лёсавызначальныя, а ёсьць мізэрныя. На адны адказваеш лёгка й хутка, хоць яны й важныя, а на другія па некалькі гадоў ня можаш знайсьці адказаў. На лекцыі, у часы майго студэнцтва, мы разглядалі творы Рубэнса. Тады й нарадзілася пытаньне... Чаму ў чараватага мужчыны пуп знаходзіцца значна лявей восі сымэтрыі? Адпаведна, чаму чэлес выпірае не проста ўперад, а крышку зьбіваецца леваруч? Пытаньне малазначнае, тэрміновага адказу не вымагала. Зносіць нейкая сіла жывот, пуп і чэлес у левы бок, і хай сабе зносіць. Навет прыблізнага тлумачэньня не знайшлося. Зрэшты, не шукалася. Пытаньне завісла. І... Не забылася. Праз пятнаццаць гадоў я вярнуўся да яго, бо знайшоў хоць нейкі адказ. Ад няма чаго рабіць, пад час летняга адпачынку, седзячы ў кавярні на беразе мора, я падлічваў уласныя болькі. Правае вока бачыць горш, і ў яго часьцей трапляюць парушынкі, мошкі, а зь імі інфэкцыі. Правая рука пачуваецца ня лепшым чынам, і працавала болей, і калечылася ня раз, то ўдарыў няўдала, то парэзаў, то ўсуну не туды, ці схапіў ня тое. Правае калена ды ўся правая нага нацярпелася болей за левую. Атрымалася: правы бок тым ці іншым чынам сутыкаецца са зьнешнім сьветам часьцей. А гэта значыць, што я рухаюся не франтальна, як сабе ўяўляў, а правым плячом наперад. Калі сесьці на гаўбцы над ажыўленай вуліцаю, паглядзець зьверху на рух людзей, дык бязь цяжкасьці можна пабачыць, што ўсе рухаюцца не франтальна, а правым бокам наперад. У мастацтве гэтую акалічнасьць лепей за астатніх бачылі і ўвасаблялі старажытныя эгіпцяне. Фігуры багоў і людзей рухаюцца плячом наперад. Такое назіраньне дае права сказаць, што пуп зносіць рухам, і чым большае чэрава, тым болей яго адносіць улева ад восі сымэтрыі.

**Кітай**

Кітайская культура — перш-наперш іерогліф. І доказам хай паслужыць вялікая й непараўнальная Японія, якая больш за тысячагодзьдзе адлучаецца ад Кітая і дагэтуль належыць яму й ягонаму іерогліфу.

**Раманскі стыль**

Паўглядайся ў сьценапісы, выкананыя ў раманскім стылі, і пачуеш галасы барбараў, якія руйнавалі вялікую культуру старажытнага Рыму.

**Готыка**

Гатычны стыль — камень, дакінуты да неба.

**Босх**

Згадваю шэдэўры генія паўночнага Адраджэньня Геранімa Босха й з сумам канстатую: ягонае ўяўленьне пра Рай вельмі падобнае да ўяўленьня пра Пекла. Рай Босха — пекла канцэнтрацыйнага лягеру, намаляванае зыркімі фарбамі.

**Маньерызм**

Мастакі, што мелі дачыненьне да стылю Маньерызм: Эль Грэка, Парміджаніна, Панторма — канкістадоры поўні, іх палотны перапоўненыя месяцовым сьвятлом.

**Барока**

Алтары ў хрысьціянскіх саборах падобныя да буфэтаў. Вельмі добра тое відаць у баракальных касьцёлах.

**Клясыцызм**

Самы архітэктурны з усіх архітэктурных стыляў эўрапейскай культуры, клясыцызм, зводзіцца да незбудаванага праекту архітэктара Лёду: домік садоўніка ў выглядзе шару. Ідэальнае таму й ідэальнае, што не ўвасабляецца ў абцяжараную побытам матэрыю.

**Мадэрн**

Накірунак Мадэрн можна параўнаць з выгінам марской хвалі, якая ня можа ўпасьці, з дарожным скрыжаваньнем, па якім ніхто ня едзе.

**Мадэрн**

Мадэрн — звалка мэтафізычных мэтафараў.

У краіне Раю жахавітых сватоў спаткалі дужа прыветна, прынцэса адразу пагадзілася на шлюб, а яе бацька Валадар Гмах паслаў жаніху багатыя падарункі. У дзяржаве жахліўцаў усё закружылася ў радасным карагодзе шлюбных падрыхтаваньняў: тры тыдні мылі, шкрэблі й чысьцілі — фасады й падлогу, мараль і ідэалёгію. Жах, бы шалёны, насіўся па краіне, кантраляваў, спаганяў і снаваў пляны, як стане дужым і багатым, валадаром дзьвюх краінаў, галоўнакамандуючым дзьвюх арміяў (не, лепш іх аб'яднаць у адну, а ён стане й начальнікам генэральнага штабу — цяжкія пасады ён не любіў перадавяраць іншым). Ён стане генэрал-палкоўнікам (не, можа, лепш маршалам? Ці нават генэралісымусам?), прымусіць калаціцца «дзермакратычныя» краіны й першы абмые салдацкія кірзачы ў цёплай вадзе Паўднёвага мора. А якую магутную і ўсепраніклівую асабістую сэкурытату створыць ён — толькі пад уласным кантролем, не давяраючы нікому. Ён меў дасканалы аналітычны розум і ведаў, як той шлюб адаб'ецца на эканамічным стане краіны. Ужо гэты пражэрлівы электарат наесца.

Па краіне жахліўцаў пайшоў шырокі рух у падтрымку выдатнага пляну таварыша Жаха. На ўсіх гарадзкіх і вясковых скрыжаваньнях былі разьвешаныя партрэты Жаха й ягонай мілай нявесты — цудоўнай, вельмі сэксапільнай маладзіцы ў анфас і профіль, у строгіх вечаровых строях і ў гульлівым бікіні. Людзі з зацікаўленьнем абмяркоўвалі вартасьці таго ды другога, але да згоды не маглі прыйсьці. Звычайна мужчынам падабалася прынцэса, жанчыны ж гарой стаялі за звыклага Жаха, чый жахавіты арліны позірк быў увасабленьнем сапраўднага мужчыны, якія даўно ужо вывеліся ў краіне, і жанчыны дужа сумавалі па ім.

У мастацтве, якое яшчэ трошкі ліпела, запанавалі два стылёвыя напрамкі — стыль згаладнелай фантасмагорыі — гэта калі бясконца апісваліся ці маляваліся шыкоўныя стравы, якія мала хто памятаў у краіне жахліўцаў і якія быццам бы не пераводзіліся ў суседняй дзяржаве, і стыль бясхлебнага рэалізму, па сутнасьці, беспадстаўнага выяўленьня «чарнухі» жыцьця, ягонай бядоты. Першы стыль лічыўся афіцыйным і карыстаўся бязьмернай падтрымкай таварыша Жаха, няблага аплочваўся й даваў магчымасьць творцам кожны дзень есьці з хлебам. За другі ж часам саджалі ў пастарункі, дзе творцы падпісвалі пратаколы й каяліся. Але, выйшаўшы на волю, браліся за ранейшае, бо казалі, што хочуць заставацца вернымі праўдзе жыцьця. Толькі дзе тая праўда й дзе жыцьцё, ніхто зь іх ня ведаў. Прынамсі ў краіне Жаху іх не было. Казалі, шмат было ў краіне-Раі, і таму пісьменьнікі з мастакамі таксама з прагнасьцю чакалі доўгачаканага дзяржаўнага шлюбу.

Між тым, у паўсядзённым жыцьці справа дайшла да апошняй мяжы галечы. Жахліўцы зьелі ўсю жывёлу, нават кароваў. Узімку тых не было чым карміць, бо вынішчылі на корм увесь хвойнік, засталося адно голае альховае суччо, якога жывёла чамусьці не хацела есьці. Лепш здыхала, — мабыць, з неспазнанага каровінага прынцыпу. Людзі былі меней упартыя, елі траву, шчаўе і крапіву й надта суцяшаліся хуткім вясельлем, калі будзе хлеб і да хлеба. Ужо жаніх патурбуецца. Народ цяпер спрэс называўся электаратам, што дужа падабалася старым бабкам у вёсцы. Ведама ж, народ быў нікому не патрэбны, а да электарату калінікалі прыяжджалі начальнікі на чорных «Волгах», прывозілі невялікія скрыначкі й ласкава прасілі кінуць туды невялікія аркушыкі з прозьвішчам чарговага начальніка. Бабкі часам дзівіліся, чаму такую справу нельга зрабіць у райцэнтры, але ахвотна кідалі тыя аркушыкі, бо толькі тады начальнікі гаварылі зь імі ласкава й нават казалі дзякуй. Ну й само сабою распавядалі, як добра зажывецца пасьля доўгачаканага шлюбу. Праўда, тыя расповеды часам выклікалі сьлёзы — гэта калі бабкі думалі, што могуць не дажыць да шчасьлівага дня.

І вось, нарэшце, жаданы, шмат разоў адкладзены дзень настаў. На дванаццаці зьнішчальніках-усепагодніках шлюбны картэж узьвіўся ў неба. Праз пэўны час апусьціўся на нейкім ня надта сучасным, амаль захалусным лётнішчы, што стала першым, але ня самым вялікім засмучэньнем жаніха. Наступнымі былі: абдрапаныя фасады сталіцы Дзяржавы-Раю, калдобістыя вуліцы, спрэс злосныя твары людзей у даўжэзных чэргах, — рыхтык, як у ягонай краіне жахліўцаў. Але найбольшы гром-пярун грымнуў у палацы, калі жаніх сам-насам спаткаўся з прынцэсай. Аказалася, што то была зусім не прынцэса, а брыдкога выгляду прынц, яўна вычварнай сэксуальнай арыентаванасьці. З наступнай размовы высьветлілася, што на шлюб ён пагадзіўся з прычыны вялікай крызы, у якой апынулася краіна-Рай, і тым шлюбам меркавалася паправіць становішча ў эканоміцы, геапалітыцы, фінансах, войску, ідэалёгіі, культуры, мэдыцыне, адукацыі, міжнацыянальных і міжканфэсійных дачыненьнях і г.д. Даць жахліўцам ён нічога ня мог, мог толькі ўзяць і цынічна іржаў у напарфумлены твар Жаха, аскаляючы вялікія, пракураныя наркотай зубы.

Нешта сьцяміўшы, Жах тузануўся ўсім целам, ляпнуў аб паркет недапіты келіх з шампанскім і на тым жа усепагодніку-зьнішчальніку паімчаў дадому. Такога расчараваньня стрываць ён ня мог і над аблокамі прыняў рашэньне: вайна! Толькі пераможная вайна магла змыць ганьбу й пакараць краіну-зманшчыцу. Жах аддаў загад аб усеагульнай мабілізацыі.

Хутка, аднак, выявілася некаторая ў тым недарэчнасьць: мабілізоўваць не было каго. Зьнікла насельніцтва. Частка — з голаду й хваробаў, частка таму, што наіўна паверыла, быццам яго няма й не было ніколі. Тыя ж, што засталіся, лічылі сябе электаратам для галасаваньняў і плебысцытаў, але не для вайны й не разумелі Жаха, бо даўно адвучыліся ад якой-небудзь мовы. Урадоўцы ж і адміністратары, учуўшы пра мабілізацыю, адразу паўцякалі на ўсход, бо даўно таемна служылі ня Жаху, а валадару Райскай дзяржавы — таварышу Гмаху.

Тое было нечувана й нясьцерпна. Зараджаны велізарнай касьмічнай энэргіяй (1000 кілавольт), Жах стрываць такога ня мог і задрыжэў, закалаціўся, загуў, закруціўся (звыш 1000 абаротаў у хвіліну), — падобна, як і тады, калі першы раз аб'явіўся у парлямэнце. Сьледам раздаўся выбух, накшталт чарнобыльскага, якога яшчэ ня чула плянэта. У неба ўзьняўся віхор чорнага дыму, пылу й смуроду, у якім зьнікла ўсё разам з Жахам.

Калі праз стагодзьдзе той пыл-дым патроху разьвеяўся, дык людзі з Усходу й Захаду ўбачылі гіганцкае правальле ў сярэдзіне кантынэнту. Глыбіня правальля была такая, што да дна не дасягаў зрок, шырыня таксама хавалася за краявідам. Між берагоў заўжды курэў шызы сьмярдзючы дым, зь якога часам выскокваў бязногі хвастаты Цмок. Ён куляўся, крыўляўся й рабіў нейкія знакі цікаўным вандроўнікам, што заўсёды тоўпіліся на краёх правальля, затым на тыдні й месяцы зьнікаў у прадоньні.

Людзі казалі, што гэта — урок чалавецтву за ягоную зьнявагу чалавечых і боскіх законаў быцьця...



# PIVA ZA BIEŁARUŚ

Našamu paŭnočnamu Kraju sam Boh zahadaŭ pić piva. Dyk u instytucie my pili piva nie raźbirajučy — aby bolej. Zbolšaha — zamiž słuchać lekcyi, hulajučy ŭ preferans. Jašče — na futbole ci chakiei ź siabrami. Ale ŭ kampanijach niavažna, jaki hatunak piva pić, bo nia piva hałoŭnaje.

Kali ž karcić pakaštavać dobraha piva dy adčuć jahony vodar i smak, treba pić na samocie — pierad televizaram za chakiejem Biełaruś — Švecyja ci na Skarynaŭskim praspekcie za stałkom pad soniečnym parasonam, cikujučy strojnyja dziavočyja nožki.

Pajeździŭšy pa krai, maju bahaty śpis. Jošć z čaho abirać. Ale tut mušu zaznačyć, što sapraŭdnaje piva, ad jakoha treba atrymoŭvać asałodu — žyvoje, zroblenaje ŭ nievialičkich kolkaściach. Da taho ž — śvietłaje. Ciomnaje pitvo chaj sabie pjuć studenty dy dziaŭčaty. Najlepšaje piva — u Rakaŭskim brovary. Prykładam — «Hrašovaje». I navat paraŭnoŭvać jaho z plaškavym niepavažna. Treba paraŭnoŭvać padobnaje. Tamu pastaŭlu Rakaŭski brovar vysoka pa-nad rejtynham dy važmusia za plaškavaje.

Z najhoršym hatunkam usio prosta — anidzie j anikoli ja nie kaštavaŭ ahidniejšaha piva jak aršanskaje (dva, zdajecca, hatunki). Amal takoje ž kiepskaje maładečanskaje (zdajecca, «Straleckaje»?). Vielmi admysłovy smak maje piva brovaru «Krynica» ŭ Miensku. Pić «Krynicu» ja nia ŭ zmozie, a najhoršaje ź jejnych — «Staražytnaje». Čysty soład.

Što da mianie, dyk najlepšym brovaram jošć mienskaja «Alivaryja». Badaj, jana i składzie piać pieršych radkoŭ.

5. «Alimpijskaje» — dobraje śvietłaje piva, smak, praŭda što, zychodzić na kišlinu, ale zusim nieprykmietna.

4. «Trajeckaje». Adzinaje jakasnaje ciomnaje piva. Husty nasyčany vodar. Ale heta j zahana.

3. «Alivaryja», ale kryj Boža, nia mocnaja, kudy dality ci nie śpirytus, a prostaja — dalikatny hłyboki vodar, raniej by pryznačyŭ na pieršaje, ale jahony były smak krychu pierajšoŭ da hatunkaŭ, što majuć pieršynstvo.

1—2. «Hraf Čapski», «Lekiert». Na smak vielmi padobnyja, adroźnić ciažka, da taho ž čaściakom mianiajucca smakami (!). Ale ciapier jany — najlepšyja.

Žyvie volny j ščasny naš Kraj!

**Aleś Šed, Miensk**

# ДЫСКУСІЯ З НАГОДЫ ВЫХАДУ «ARCHE»

*Дыскусія з нагоды новага нумару часопісу «ARCHE» на тэму «Косава. Вайна за мір?» з удзелам Валера Булгакава, Юрася Бушлякова, Андрэя Дынько, Андрэя Екадумава і прэзэнтацыя часопісу адбудзецца 19 траўня а 19 гадзіне ў Інфармацыйным цэнтры моладзі (вул. Дарашэвіча, 4—2).*

*Часопіс «ARCHE» можна набыць:*

**Беласток** — *Мікола Ваўранюк, (085) 66 240 66*
**Берасьце** — *Паліна Панасюк, 42 28 11*
**Вільня** — *Беларускі інфармацыйны цэнтар, тэл. 62 50 88*
**Віцебск** — *Міхась Паўлаў*
**Гомель** — *Сяргей Балаханаў, Аўген Касьцюшка*
**Горадня** — *сядзіба БНФ, Андрэй Мялешка, тэл. 22 34 68, 72 11 83*
**Магілёў** — *Алесь Асіпцоў, тэл. 25 57 85*
**Маладэчна** — *кнігарня ТБМ на чыгуначным вакзале*
**Менск** — *сядзіба БНФ, Фонд «Наша Ніва», Віталь Супрановіч (тэл. 249 08 88), шапік філфаку, кнігарні «Цэнтральная», «Вянок», «Акадэмкніга», «Кнігарня пісьменьніка».*
**Нью-Ёрк** — *Лявон Юрэвіч, рэдакцыя газэты «Беларус»*
**Пінск** — *Сяргей Мацукевіч, 34 41 32*
**Полацак/Наваполацак** — *Зьміцер Салаўёў тэл. 5 01 16, 5 27 02*

*Пытайцеся таксама ў кнігарнях* **«Белкнігі»**. *Кошт у незалежных распаўсюднікаў 400.000 рублёў, у кнігарнях «Белкнігі» вышэйшы. Шукаем распаўсюднікаў зь іншых гарадоў.*

*У другім нумары часопісу: У.Сакалова «Заўсёды сьветла каля турэмных муроў», «Энцыкляпэдыя мёртвых» Д.Кіша, раман-цытата А.Лукашука «1982», «Аповед № 3» А.Дынька, апавяданьні Букоўскага, Борхеса, турэмныя ўспаміны А.Мельнікава «Выжывае падлейшы». Тэма нумару — постмадэрнізм. Друкуюцца «Паэтыка адкрытага твору» У.Эка, «После современности» І.Антановіча, «Nowa Ziemia od tiumacza» Ч.Сэнюха, «Крапіва: Кандрат і прарок» С.Петрыкевіча, «Постмадэрная мова ў мастацтве» Д.Алькоўскай-Летц, тэксты Ж.-Ф.Ліётара, С.Фяненкі ды інш. Вялікі фармат, добры друк.*

*Чытайце «ARCHE» — першы часопіс XXI стагодзьдзя.*

# НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Arche. Часопіс. № 1, 1999. — 256 с. — Наклад 800 ас.

Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны: Праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства: Зборнік артыкулаў. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 253 с. Наклад 650 ас. ISBN 985-08-0099-2

Валодзіна Т. Сэмантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў. — Менск: Тэхналёгія, 1999. — 167 с. Наклад 200 ас. ISBN 985-6234-56-5

Каліноўскі К. За нашую вольнасьць. Творы, дакумэнты / Уклад., прадм., пасьлясл. і камэнт. Г.Кісялёва. — Менск: «Беларускі кнігазбор», 1999. — 464 с.: іл. — (Беларускі кнігазбор: БК. Сэрыя 2, Гісторыка-літаратурныя помнікі). Наклад 5500 ас. ISBN 985-6318-41-6

Кантакты й дыялёгі. Інфармацыйна-культуралягічны бюлетэнь Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. — № 4 (40). Красавік, 1999. — 56 с. — Наклад 299 ас.

Каробушкіна Т. Насельніцтва Беларускага Пабужжа X—XIII ст. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 128 с.: іл. Наклад 450 ас. ISBN 985-08-0095-X

Млын на сямі колах: Беларускія народныя легенды і паданьні. Для сярэд. і стар. шк. веку / Запіс і літ. апрацоўка І.Масьляніцынай; Маст. М.Рыжы. — Менск: Юнацтва, 1998. — 334 с.: іл. Наклад 5000 ас. ISBN 985-05-0121-9

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96». №5 (29), №6 (30), 1999. — Накл. 299 ас.

Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэньне і раньняе барока. — Менск: Тэхналёгія, 1998. — 319 с.: іл. Наклад 2000 ас. ISBN 985-6234-07-7

Скарабагатаў В. Зайгралі спадчынныя куранты: Цыкл нарысаў з прафэсыйнае музычнае культуры Беларусі. — Менск: Тэхналёгія, 1998. — 154 с. — (Вяртаньне; Кн. 5) Наклад 1000 ас. ISBN 985-6234-59-X

Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: Больш за 65000 словаў / Пад рэд. М.Судніка, М.Крыўко; Афармленьне А.Хількевіча. — 2-е выд. — Менск: БелЭн, 1999. — 784 с. Наклад 5000 ас. ISBN 985-11-0057-9

Леанід Шчамялёў: Альбом / на бел., рас. і ангельск. мовах. — Менск: Хелмон, 1998. — 167 с. Наклад 2000 ас.

## Паштовая скрынка

**Міколу А.** з Соснаў. Дашліце гэта ў газэту «Царква». Толькі гэта ня міты, а стэрэатыпы і аблуды.

**Сяргею Ш.** з Полацку. Ваш артыкул распадаецца на дзьве часткі. Другая цікавая, хоць трохі сумбурная. У першай жа вы нібы вырашылі прадэманстраваць тое, што крытыкуеце — непразрыстасьць, а таксама пераскокі з аднаго на адно і вельмі груваскую мову. Перарабіце, калі ласка.

**Івану К.** з Лос-Анджэлесу. Ваш ліст пераслалі ў рэдакцыю «Беларуса».

**Уладзімеру Л.** зь Менску. Жыве!

**Вікторы** зь Менску. Не выходзіць больш «Полацак», зачыніўся ды, кажуць, шчэ й са шкандалам.

**Наступны нумар газэты выйдзе 24 траўня.**




### АБ УСІМ ПА ТРОХУ

**Мейце на ўвазе!** Падышла пара, калі амаль не па ўсім нашым краі рассыпаліся падрадчыкі, што скупляваюць ракі й смаршчкі (вясновыя цёмнабурыя зморшчаныя грыбочкі). Вось, за капу сярэдніх ракаў плацяць блізка 10 злотых, бо цяпер яны найдаражэйшыя; за грыбкі за фунт сырых 10—15 кап., а сушаных — фунт 75—90 кап.

Грыбкі — як грыбкі: няхай дзеткі, што ня маюць іншай работы — зьбіраюць іх як мага болей. Так сама старшыя, што ходзіце лавіць ракі, ня зьдзекавайцеся над імі! Іншым разам, выцягнуўшы сеткай малых рачкоў, вы забіраеце іх на гульню дзецям альбо варыць. Гэта ж глум! «Калі не пад'ясі — то не наліжаесься!» Ракаў з ікрой шануйце: ані забірайце ў торбу, ані выгрызайце з-пад шыек сырой ікры, бо гэта яшчэ большы глум — ракі ня будуць пладзіцца.

Не рабіце самі сабе шкоды й не выглумлівайце так усіх ракаў! Вось жа й так яны шмат дзе саўсім зьвяліся.

***

Цікавыя цяпер цэны ў Вільні. Пуд саломы — 65 к.; сена — 90 к.; асьміна бульбы — 1 р. 60 к.; кварта сьмятаны — 40 к.; фунт мяса — 18 кап.

От, і жыві!

# ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Газэта прымае таксама платныя абвесткі

Часопіс «ARCHE» просіць Прафэсара Каркарана зьвярнуцца па ганарар. Тэл. 257-48-69

Віншую прыму беларускай журналістыкі Таню Сьнітко з Днём нараджэньня. Зычу асабістага шчасьця, творчага натхненьня, вольнай Бацькаўшчыны! Зьміцер Гарбуноў. Працоўна-папраўчая калёнія-1 г. Менск 220600 п/с 35/4

Мілы мой братка Алесь! З Днём народзінаў! Мужней, любі Беларусь, бацькоў і мяне. З пацалункам, сястрыца Алена Нупрэйчык

Здыму аднапакаёвую кватэру у Цэнтральным раёне г.Менску на працяглы тэрмін. (017) 2 27-78-92. Лявон.

Прадам ГАЗ-52. Станіслаў Іванавіч. (214) 30-7-42

Шукаю жанчыну для сур'ёзных дачыненьняў. Пра сябе: 26 гадоў, рост 188 см, атлетычнага складу. Астатняе пры перапісцы. Матусэвіч Віктар Аляксандравіч. Магілёўская вобл., г. Горкі, УЖ 15/9, атрад № 14. 213410

Здаецца 3-пакаёвая кватэра ў 1 гадзіне язды ад Менску. У летні пэрыяд танна. (273) 91-3-19

Набуду «Нашу Ніву» № 82, 84, 86, 87, 94, 116, 117, 118. Антось. 18—2, вул. 70 гадоў кастрычніка, Валожын, 222340

Ахвочыя на ультраправую газэту «Слова Нацыі», дашлеце капэрту з маркаю й купон б/а: 220086, Менск, а/с 121

Хрысьціянскія налепкі: 63 эвангелічных бел-чырвоных цытат і іншыя. Пр. Скарыны, 44а: штонядзелі, ранак. Даведкі праз тэл. 246-73-01 (Міколу)

Відэа «Пяты элемэнт» па-беларуску (130 хв.) ды інш. Продаж, запіс, пракат. Даведацца тэл. 240-78-01 або на адрас: 220107, а/с 150, Станішэўскаму Віталю Валянцінавічу

Спосабы нарошчваньня цягліцаў бяз хіміі й трэнажораў, зьніжэньня вагі. Капэрта + купон б/а. Кот Ганна Львоўна. 246012, Гомель-12, а/с 143.

Прапануем в/а працу на хаце (300 у.а.). Даступна ўсім. Укласьці 2 капэрты (1 са адв. адр.) + купон б/а: 220030, Менск — 30, а/с 223

Сонца Белае сплывае крывёю, і барвіцца аўтар Рэвалюцыі, і чуецца Слова — і гэтак абвяшчаецца Слова Нацыі

Чыгір — вузкі спэцыяліст, Пазьняк — асоба шырокага кругагляду. Першы заўсёды гне адну сваю лінію, другі дае тварыць і іншым. Вячаслаў Мілкоўскі

Патрыёт, нацыяналіст шматбакова адукаваны (ведае й сваё). Любіць найперш свой край, сваю гісторыю, сваіх людзей — мае высокую сьвядомасьць. Не патрыёт — той, хто ведае й любіць чужое. Вячаслаў Мілкоўскі

Калі народ можа толькі задавальняць свае прыродныя патрэбы, ён ня здольны ні на што. Вячаслаў Мілкоўскі

«Хай той жыве, хто піша на сялянскай мове». Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч

Дзяніса Дз. з Гомеля (паштовая скрынка, НН, № 126) просяць адгукнуцца на адрас: 220086, Менск, а/с 121



Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва» абвяшчае, што прыём заявак на конкурс **«БЕЛАРУСКІЯ МАЙСТЭРНІ — ВАКНО Ў ЭЎРОПУ» СПЫНЯЕЦЦА.**

*Ляўрэаты конкурсу атрымаюць паведамленьне. Пра працяг конкурсу будзе абвешчана.*

**КУПОН** БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________




«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Набор Анастасіі Мацяш. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.





Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2837. 8 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18⁰⁵, 16.05.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N2307

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12